## *Карціна ў простай драўлянай раме*

Нічога не здарылася. Канечне ж, нічога. І дарэмна ўсіх турбуе, што са мной сталася. Што са мной можа стацца? Адна. Сама гаспадару ў гэтым невялікім, заваленым кнігамі пакойчыку. Сёння ён выглядае нават утульным — у мяне гасцюе свята. На стале — трэба не забыць падкласці лінейку пад расхістаную ножку — сярод звыклых для вока сшыткаў і падручнікаў — высокая цёмная бутэлька. У ёй, бы ў фокусе, сабраны ўсе сонечныя промні гэтага дня. Малдаўскае віно. А яшчэ ёсць яблыкі, цэлая гара яблыкаў! І таму ўсё: і плед у чорна-залатую клетку, якім я хутаю плечы, і кнігі, і халодныя сіняватыя сцены,— усё прапахла сонцам і летам. І гэта прыемна. І крышачку-крышачку сумна, бо акно выходзіць у зіму, і мне відаць, як гнецца голле вішань пад цяжарам снегу, як сініца, успырхнуўшы, знікае за воблакам калючага іскрыстага інею.

Урэшце, мне зусім і не сумна. Сёння мой дзень нараджэння, а хто ж сумуе ў такі дзень? Можна перачытаць лісты ад сяброўак — вунь іх колькі на канапе! Можна паставіць пласцінку — і загучыць музыка. Музыка Грыга, то сонечная і трагічная, то самотная і ўзнёслая. Можна глядзець, як льецца ў бакал цёмнае віно, і ўспамінаць... Не! Успамінаць я нічога не буду. Не буду! Была проста звычайная паездка ў прыгарадны лес. Звычайная студэнцкая кампанія.

Урэшце, мне зусім і не сумна. Сёння мне дваццаць пяць. За дваццаць пяць і ўсё жыццё наперадзе! — як сказаў бы Гена Сарочын, весялун і прайдзісвет, любімае дзіця Бахуса і Венеры. Гена... На яго зусім нельга было крыўдаваць. Наляціць, як віхор, і вось ужо яго смех, яго жарты і імправізаваныя каламбуры — у цэнтры ўвагі толькі што разрозненага кола дзяўчат. Тую абдыме, тую цмокне. Аднойчы ён злёту пацалаваў і мяне. І цяпер жыва ўяўляю: ён глядзіць на мяне здзіўленымі-здзіўленымі вачамі, а мая рука, балюча хліснуўшы па ягоным твары, яшчэ ўздрыгвае ў паветры. Як ён рассмяяўся раптам! Здавалася, смяяліся не толькі вочы, не толькі шчокі, а і рыжыя яго валасы, і малінавыя кончыкі вушэй, і тонкія нервовыя пальцы рук, і нават складкі касцюма невядома якога колеру.

— Глядзіце! Дзеўка-неспадзеўка...

Ён смяяўся і смяяўся. І зараз бачу, як смяюцца яго рыжыя-рыжыя валасы. А я так і засталася неспадзеўкай. Нават для самой сябе. Што гэта я? За дваццаць пяць і ўсё, што за імі!

Мелодыя Грыга напоўніла ўвесь пакой. Яшчэ хвіліна — і яна зрушыць сцены, растопіць зіму і, клічучы за сабой, паплыве ўвысь, да зор. Знікае ўсё. Застаецца мелодыя. І зоркі. І я — па тоненькаму-тоненькаму промню святла ступаю над бязмежнай цішынёй...

Трэба перачытаць лісты сяброўак.

Гэта Алёнін. З Валожына. Намесніца дырэктара па выхаваўчай частцы, наіўная, добрая Лёнка. Віншаванні можна прапусціць. Вось: «Родная мая, хоць бы табе кропельку майго шчасця! Я люблю яго. Смешна, ён мой муж, а я ўвесь час як закаханая дзяўчынка. Са школы дадому бягу, ногі самі нясуць. І ўсё мне хочацца паспець зрабіць: прыбрацца, згатаваць што-небудзь смачнае, апрануцца прыгожа.

А гэта ж школа! То затрымаешся, то планамі завалена. Падыду да яго, прытулюся, а ён цалуе мае валасы. Ты не паверыш, Ната, мне нават сорамна быць такой шчаслівай».

Лёнка, Лёнка, хіба можа быць сорамна за шчасце, за простае чалавечае шчасце?

«Не зайздрошчу я тваёй мужнасці, Ната. Ілжэш ты сабе. Не можаш ты не шкадаваць, што ўсё так атрымалася»,— гэта катэгарычная ва ўсім Аня. Нават почырк цвёрды, падобны на мужчынскі. Пра што яна?

«Мы ўжо ў тым узросце, калі трэба альбо быць замужам, альбо прама прызнаць: так, я няўдачніца. Пра які ідэальны свет ты марыш, калі твой уласны свет — бела-ружовае воблака над пыльнай дарогай жыцця. Не, Ната! Ты ведаеш, я люблю цябе, але я нічога не хачу слухаць пра тое, што магло б быць. Выходзь за таго брыгадзіра, пра якога ты мне пісала. Чэснае слова, выходзь! Не чакаць жа кахання ўсё жыццё».

Аня. Нязменны наш камандзір. Ды толькі загадвай не загадвай — што мне ў сабе цяпер мяняць? За брыгадзіра, піша? А мне здаецца: гэта так прыгожа — бела-ружовае воблака над пыльнай дарогай... Саша, канечне, добры хлопец. Падышоў учора, напрасаваны, у лакіраваных туфлях, увесь прапахлы адэкалонам — бутэльку, не інакш, «Шыпру» на сябе выліў. Стаіць, не ведае, куды свае вялікія, пачарнелыя ад сонца і мазуты рукі дзець. А навошта іх хаваць? Працоўныя рукі — імі ганарыцца трэба. Помню, я так і сказала. А ён здзівіўся. Рукі, кажа, працаваць павінны, а не красавацца.

Працаваць, а не красавацца. Гэта ён добра сказаў. Вось і яна ехала сюды, у самую глухую палескую вёску, працаваць. Тады яшчэ не ведала, што самымі цяжкімі будуць не дні работы — ад цямна да

цямна ў школе,— а святочныя дні, калі застаешся адна.

Чыё гэта я пісьмо адклала? А! Зоіна. Як і раней — сукенкі, боты, касметыка. Кожны раз не ведаю, што адказваць. Несур'ёзна ўсё неяк.

А гэта Галя піша. Галачка-выручалачка. Кожную сесію страшэнна худзела — проста натоўпамі да яе ішлі, дзверы пакоя не зачыняліся. То прапушчаную лекцыю перапісаць з канспекта, то па спіс літаратуры, то пытанне тэрміновае — не бегчы ж сярод ночы ў бібліятэку. І яна тлумачыць, паказвае, адкуль перапісаць, гартае старонкі падручнікаў, каб адасобіць самае неабходнае. Так у інстытуце і працуе.

«Наталка, Наталка мая! Ты заўсёды застанешся летуценніцай, якія ўжо тут парады! Можа, і ёсць іншае шчасце, большае, ярчэйшае, не ведаю, яшчэ якое, але ты — з племені самых шчаслівых, шчаслівых выгнаннікаў радасці. Ты пішаш, у цябе за акном вецер раздзьмухвае свечкі бяроз, з сумётаў выглядваюць з'інелыя рожкі алешын... І ўсё-ткі прыязджай, Наталка! Адкрываецца мастацкая выстаўка...»

Якое кіслае ўсё-ткі віно! Ці гэта таму, што п'ю яго адна ў цесным ад кніг пакоі з халоднымі сінявательмі сценамі? На сцяне — толькі злёгку павярнуць галаву — вісіць невялікая карціна ў простай драўлянай рамцы, напісаная алеем чатыры гады таму назад. Яго карціна. Я, упершыню за сённяшні дзень, гляджу на яе. Хоць што хітрыць перад сабой! Можа, таму я адна зараз, не паклікала нікога з настаўнікаў, бо хачу — хачу! — сядзець перад гэтай карцінай, глядзець, як льецца ў бакал цёмнае віно і ўспамінаць...

Была звычайная паездка ў прыгарадны лес. З суботы на нядзелю. Кампанія падабралася разнастайная, хоць кожны добра ведаў астатніх. Галя, Васіль Сушня з політэхнічнага, Зоя, Іван... Іван Ворыўка, здаецца, з тэатральнага. Генадзь Сарочын, мастак,—

гэта была дача яго бацькоў, куды мы ехалі... І ён. Адзіны, каго я не ведала. На той час не ведала.

— Дзяўчаткі, знаёмцеся — Лесь. Мой сябра і будучы геній. Рэкамендую,— падштурхвае да нас незнаёмца Гена, як толькі спыніўся аўтобус і мы, ледзь не на хаду, саскокваем на дарогу.

Лесь — відаць, усё-ткі Алесь! — ледзь прыкметна пахмурыцца, падымае з зямлі самы цяжкі рукзак і пачынае спускацца з адхону шашы, пэўна, добра ведаючы дарогу.

— Гэй-гэй! — не задаволена цырыманіялам Зоя.— Вы што ж, не хочаце даведацца, якім імем хрысцілі калісьці — ну, хоць мяне? Гэта проста нетактоўна.

Хлопец ставіць рукзак, амаль нячутнымі крокамі абыходзіць наш гурт.

— Вы — Зоя,— упэўнена гаворыць ён, цалуе працягнутую Зоіну руку і, пакланіўшыся астатнім, гэтак жа ўпэўнена праз імгненне ўжо зварочвае на лясную сцежку з рукзаком на плячы.

Канечне, яго завуць Лесь! Яго нельга было назваць неяк інакш. Лес стоена шуміць, праводзячы нас да дачы, і я ўжо веру, што ён размаўляе з намі, расказвае пра Вясну, шчаслівую босую дзяўчынку, якая ідзе па прамерзлай заснежанай зямлі, і там, дзе ступаюць яе ногі, з'яўляюцца праталіны і расцвітаюць пралескі. Я абавязкова сёння знайду пралескі, многа-многа пралесак! Упляту ў вянок іх пяшчотныя зорачкі. Мне калісьці даўно расказвала мама, што, калі такі вяночак, надзеўшы на косы, пасля павесіць на галінку самай маладой і прыгожай бярозы, абавязкова ўбачыш Вясну.

На дачы было холадна і няўтульна. Пачатак мая. Якое ўжо тут цяпло! І, так-сяк разабраўшы прывезеныя рэчы, разбрыліся хто куды. Я, адстаючы і адстаючы ад вясёлых галасоў сяброў, хутка застаюся адна. Хачу знайсці сляды Вясны, светлазорныя, коле-

ру неба кветкі. Наўкол стоена шуміць лес, з ціхім шоргатам ліпне да спартыўных кедаў леташняе прэлае лісце. Сэрца шалёна калоціцца ў грудзях, ужо напоенае нейкай таямніцай, чаканнем ляснога чараўніцтва.

— Вы — Ната, праўда?

Нават не ўздрыгваю. Гэта Лесь. Ён з усмешкай глядзіць на мяне з-пад густых светлых броваў, што дугамі прыўздымаюць высокі лоб. Вочы сінія-сінія! Я нібыта патанула ў іх, не паспеўшы засланіцца ад гэтага позірку. А Лесь бярэ мяне за руку і вядзе, вядзе за сабой праз зараснікі алешын, мякка адводзячы галінкі. І я не пытаюся куды. Я ведаю, што гэта і ёсць таямніца.

— Дару, забірайце.

І, бог мой, што я бачу! Прама на вачах празрыстым слупам неба калышацца паляна, а на ёй — пралескі, многа-многа пралесак. Забыўшыся ў гэты момант і пра чарадзея з прыгожым казачным імем, і пра расказанае мамай павер'е, зачараваная хараством, я ступаю на паляну. І іду, баючыся страціць раўнавагу і зламаць, раструшчыць хоць адну зорачку, іду па тоненькаму-тоненькаму промню святла над бязмежнай цішынёй...

Што гэта са мной? Блізка-блізка бачу твар Леся, яго трывожныя, а не ўсмешлівыя цяпер вочы. Ягоныя рукі, амаль не кранаючыся майго цела, трымаюць мяне над зямлёй.

— Што гэта са мной?

— Нічога. Проста я зразумеў, што табе балюча ступаць па кветках, і ўзяў цябе на рукі. Табе добра?

— Але,— я з даверам хінуся да Леся, і ён, пацяжэлымі рукамі, удзячна прыціскае мяне да грудзей і ставіць на зямлю.

— Бяжы, не заблудзіся.

Вечар яркай каляровай хусткай ляжыць на пля-

чах ялін, але ўжо адчуваецца — па тым, як сцішылася прырода, у штосьці ўслухваючыся,— вось-вось прарастуць праз яго зоркі. Акружаны маладымі яблынькамі і вясёлым гуртам хлопцаў і дзяўчат, патрэсквае сучкамі касцёр. Мяне сустракаюць градам воклічаў, сяброўскіх кпінаў. Але я нічога не чую, хоць смяюся, смяюся ў адказ, стараючыся суцішыць неразумнае сэрца — яно ж распалохае ўсе думкі.

— Браткі, дык яна ж проста закаханая! — ускрыквае Гена.— А дзе Лесь?

Леся я больш не ўбачыла ў той дзень. І на наступны дзень. І яшчэ многа-многа дзён былі зусім не па-вясноваму шэрымі і насупленымі.

І раптам — запрашэнне. Галю і мяне Гена запрашае ў тэатральна-мастацкі, на вечар, на капуснік. І цяжка ўявіць, колькі зайздросных вачэй сачыла за намі, пакуль мы перабіралі няхітрыя ўборы ўсіх аднакурсніц у інтэрнаце. Хоць навошта было перабіраць? Я ведала, што надзену сваю, няхай сабе і не новую, а любімую сукенку са светла-бірузовай парчы. Яна пасавала мне да твару, да няяркіх шэрых вачэй — а мне так хацелася быць прыгожай!

Як я садзілася ў аўтобус, як ішла да высокіх цяжкіх дзвярэй, што зразалі рог будынка, узносячы над сабой калоны, што адказвала Генадзю — ён сустрэў нас ля ўваходу,— не ведаю. Галя раз-пораз сціскае маю руку, каб вывесці з гэтага стану бязважкасці, вярнуць рэальнаму ходу падзей — грыміць музыка, на сцэне гучаць вясёлыя інтэрмедыі. Я ўсміхаюся, а ўва мне звініць: калі? калі? калі?!

Леся не было, і як толькі ўсе пераходзяць у спартыўную залу, дзе ўжо кружацца, кружацца танцавальныя пары, я ўпершыню шкадую, што прыйшла сюды, на гэты вечар, і цяпер павінна ледзь не са слязьмі на вачах усміхацца хлопцам — яны падыходзяць і падыходзяць.

— Прабачце, я не танцую. Прабачце.

Аркестр ціха спрабуе першыя такты вальса. Я, як падштурхнутая кімсьці, паварочваюся да ўваходу ў залу і бачу Леся. Высокі, у цёмна-бежавым касцюме, на адкладзены каўнер белай кашулі падаюць светлыя валасы,— ён ідзе да мяне. Я ступаю яму насустрач і, падхопленая яго рукамі, плыву, плыву на хвалях музыкі — ці па сініх хвалях яго вачэй? Мы бачым толькі адно аднаго, не заўважаючы, што амаль ніхто болей не танцуе, а ўсе глядзяць на нас, не заўважаючы, што, павярнуўшыся да Гены, які штосьці гаворыць ёй, змахвае слязінку Галя. Баюся, што мы нічога не бачым, і, калі мелодыя заціхае, не кранаючыся адно аднаго, ідзём па вузкаму доўгаму калідору да дзвярэй, за якімі ўспыхвае святло. Здагадваюся: гэта вучэбная майстэрня.

Лесь паварочвае мяне да сябе, моўчкі ўглядаецца ў мой твар, сцішаны і шчаслівы, і, адступіўшы некалькі крокаў, камечыць, зрывае кавалак палатна, які закрываў мальберт. На мальберце — невялікая карціна, пісаная алеем, у простай драўлянай рамцы.

Ад здзіўлення, радасці, якая перахапіла дыханне, не магу нават зварухнуцца. На габляванай залатой дошцы, раскіданыя закаханым пэндзлем, ляжаць нашы, мае пралескі!

— Гэта табе,— ціха гаворыць Лесь.

Я апускаю вочы — так нясцерпна зззяюць яны на твары, і праз імгненне Лесь пяшчотна абдымае мяне за плечы, не набліжаючы да сябе, быццам адмаўляючы мне ў нейкім праве, цалуе мой гарачы лоб.

— Не знікай з майго жыцця, чуеш?

І быў яшчэ адзін дзень... Цёплы чэрвеньскі дзень. Вось ён глядзіцца ў раку высокім агністым небам. Вада не тушыць іскры сонца, і там, дзе зелянее аер, бліжэй да берага, на хісткіх тонкіх сцяблінках калышуцца лілеі. Я плыву да іх, здзіўляючыся, якім за-

лацістым здаецца ў вадзе маё цела, плыву няўмела — цэлыя снапы пырскаў вырываюцца з-пад рук.

— Не дакранайся да кветак. Гэта — пацалункі сонца. Чым я буду пасля лячыць апёкі? — смяецца Лесь.

Ён стаіць на мокрым пяску, увесь асветлены Пціччу. І я вяртаюся, цягну яго за сабой у ваду, а пасля першая выбягаю на бераг. І мы сядзім — спіна да спіны — на траве, падстаўляючы сонцу плечы, рукі, адчуваючы, як пераліваецца з цела ў цела сонечнае цяпло.

Лесь пачынае гаварыць. Ціха-ціха гаворыць.

— Мой сын так любіць мяне. Ён яшчэ зусім безабаронны — адны вачаняты, у якіх жыве свет, што не ведае пакуль ні гора, ні крыўды, ні страху. Ведаеш...

Сын? Словы цяжкімі молатамі падаюць вакол мяне, усё бліжэй і бліжэй. У Леся — сын? Які сын?

Рэзкі боль у вачах. Быццам я слепну. Закрываю іх далонямі, спрабую аб чымсьці падумаць, забыць пра боль, ручаінкі слёз прабіваюцца з-пад сашчэпленых пальцаў. Гарачыя ручаінкі... Лесь спалохана стараецца расшчапіць мае пальцы, зазірнуць у твар, адчуўшы, зразумеўшы, што я нічога не ведала, што ён незнарок разбіў штосьці крохкае, нябачнае і параніў мяне.

— Не слухай мяне! Ната! Не вер! Хочаш, я панясу цябе на самы край зямлі? Хочаш, я панясу цябе далёка-далёка?

Рэзкі боль у вачах, быццам я слепну. І толькі афарбаваны болем голас Леся:

— Дзяўчынка мая, маленькая мая!

Яго далоні — ён змахвае і змахвае імі калючыя іскаркі змроку,— яго вусны ніяк не могуць прыпыніць слёзы, што цякуць і цякуць па маіх шчоках. І ён паўтарае, паўтарае:

— Дзяўчынка мая! Маленькая мая!

І я іду, бясконца іду па шашы. Куды яна вядзе, тая шаша? Я і цяпер гэтага не ведаю. Толькі раз-пораз пачынае гучаць ува мне голас Леся: «Не знікай з майго жыцця, чуеш? Не знікай з майго жыцця, чуеш? Чуеш?..»

Так. Была звычайная паездка ў вясновы прыгарадны лес. І быў вальс у пустой, ярка асветленай зале. І быў сонечны чэрвеньскі дзень на беразе Пцічы.

Але дарэмна ўсім здаецца, што са мной адбываецца штосьці. Проста я люблю часам пасядзець адна ў гэтым пакойчыку, заваленым кнігамі, і глядзець туды, дзе на халоднай сіняватай сцяне на карціне ў простай драўлянай рамцы цвітуць пралескі маёй любові.

## *Гадзіннік памяці*

На зямлю апускаецца ноч... Штосьці таямнічае ёсць заўсёды ў гэтым, праўда? Яшчэ нядаўна ляскаў пугай пастух, стары Пахом, гукаючы на ўсю вуліцу:

— Гэп! Гэп! Зачакаліся нас бабы, нябось, га? Гэп, гэп, красуні!

І, адчыняючы вароты, усміхаліся жанкі, каб праз мінуту ў звоне пругкіх струменьчыкаў малака пахаваць усе свае дзённыя нялёгкія клопаты. Яшчэ нядаўна паблізу ўспыхвалі агеньчыкі цыгарак, кожны раз прыпыняючы нетаропкую гутарку мужчын — па галасах, хто то быў, пазнаць было немагчыма. І вось ацiхла ўсё. Толькі аднекуль плыла, наплывала песня. Нават не песня, мелодыя, якую выводзіў баян...

Павел не заўважыў, як заснуў.

Дзінь-бом!.. Што гэта?

Стары з боем гадзіннік спяшаецца абвясціць поўнач, і ўдары гулка перакочваюцца ад сцяны да сцяны, напаўняючы пакой трывожным гудзеннем. Поўнач... Поўная ўлада ночы. Цішыня, скруціўшыся клубком, спіць пад акном, адкрытым проста ў чэрвень, і аблачынкі, набраклыя смуткам зорак, па промнях саслізгваюць у сны.

Сны... Іх такое мноства! Сплятаюцца, распадаюцца на яркія асколкі, каб, спалучыўшыся, зноў паўтарыць — у які ўжо раз! — малюнак незнаёмага горада. Нават не горада, вуліцы, абодва канцы якой разам з позіркам упіраюцца ў неба.

Дзінь-бом! Дзінь-бом! Позірк упіраецца ў неба. Бездапаможны зрок. Ён не можа парваць завесу дыму... За калючым дротам мерна ходзіць вартавы, і Паўліку здаецца, што гэта ён і перашкаджае яму ў натоўпе азяблых, галодных людзей высока-высока задраць галаву і ўбачыць, як ірвецца ўгару неба. Што ён вартуе, гэты немец? Зоркі? Дык іх жа панеслі з сабой на крылах самалёты. І варта ім толькі заззяць на ўсходзе, як не будзе ні немца, ні калючага дроту... Як хочацца есці! Паўлік адчувае цяпло бабуліных шурпатых далоняў і ўсё спрабуе ўбачыць неба і зоркі. І, падштурхнуты гэтымі далонямі, чуе, як шэпча — ці плача? — бабуля:

— Бяжы! У лес бяжы. Не азірайся...

І ён бяжыць. Маленькі. Безабаронны. Бяжыць і бяжыць, не заўважаючы куды, не задумваючыся навошта...

Дзінь-бом! Ён жа спіць. Чаму ж ён чуе, як б'е гадзіннік, спяшаючыся абвясціць поўнач?

— Павел! Павел!

Хто гэта кліча яго? Хто яго можа клікаць, калі неба рвецца ўгару з-пад крыла, і ён адчувае, як расце ціск, як цела ўсё глыбей уціскае ў крэсла ўладная сіла палёту.

Дзінь-бом! Дзінь-бом! З апошнім ударам гадзіннік цішыня прыўздымае голаў. Затрапятаўшы, падае фіранка, і ў струменях месячнага ззяння ўзнікае дзяўчына. Хоць што гэта ён — дзяўчынай назваць прыгажосць... Мяккія, пявучыя лініі цела, вадаспад валасоў, праз які прасвечваюць плечы, грудзі, ногі... Ён пойдзе за ёй, ён знойдзе словы...

Але дзе яна? Дзе? Незнаёмы горад, нават не горад, а вуліца, абодва канцы якой разам з позіркам упіраюцца ў неба. Вуліца, амаль нерэальная ў святле ліхтароў. Белыя, сінія, жоўтыя, ліловыя плямы святла! Яны, не кранаючыся тратуараў, вісяць у паветры, злёгку пагойдваючыся, разбіваючы цені ліп або цёмныя сцены трохпавярховых камяніц. Амаль нерэальная вуліца, рэальная — да шчарбатай выбоіны на асфальце, там, дзе спыняецца аўтобус...

Сны... Іх многа. Што ж паўтараецца і паўтараецца гэта карціна незнаёмага горада? І прыпынак аўтобуса. І аўтобус, стары, там-сям аблупілася фарба. І дзверцы, што са скрыпам зачыняюцца за ім, Паўлам, хоць ён ведае — ведае! — што гэта не яго аўтобус, што трэба прайсці за паварот...

— Павел! Павел! — Жонка катурхае яго, і, павольна расплюшчваючы вочы, ён як праз туман бачыць яе ўстрывожаны твар.

— Каго гэта ты гукаў у сне? Каго?

Хвіліну-другую Павел моўчкі глядзіць на Веру, потым, рашуча вызваліўшы плячо з яе моцных пальцаў, устае і, стараючыся нічым не грукнуць, выходзіць з хаты. Бацькоўская хата... Доўга абыходзілі яе яго сцежкі! Праўда, мо і віны яго тут няма. Вайсковец...

І адразу ж узнікае дакорлівае: не тое, не тое! Сны нахлынулі... Другі год — адны і тыя ж сны, цяжкія, абвінавачвальныя.

«Не азірайся»,— шаптала бабуля...

Шаптала ці плакала? Няўжо ён усё жыццё баяўся азірнуцца назад і ўбачыць зарослую яе магілку, сухія, галодныя вочы маці, калі яна працягвала яму тонкую лустачку хлеба ці агрызак макухі, гарачыя дзявочыя вусны...

Ён кагосьці гукаў у сне, сказала Вера. Вера... З ёй яму было спакойна. Прыгожая, упэўненая ў сабе, заўсёды роўная ў адносінах да яго... Ён кагосьці гукаў у сне?

Павел не ўбачыў, адчуў, што падышла маці. Стаяў і чакаў, пакуль яе рука кранецца яго валасоў. І, калі матчына рука неяк нясмела, ледзь чутна лягла на валасы, не стрываў, кінуўся да маці, прыціснуў да сябе і, захлынуўшыся пяшчотай, мог толькі, як даўно-даўно, у маленстве, паўтараць:

— Мама! Мама! Мама!..

— Што ты, сынок? Што ты! Прыехаў, і добра. Хоць нагляджуся на цябе. Прыехаў — то і вельмі добра.

— Мама, старэнькая ты ў мяне ўжо.— Павел цалаваў родныя рукі, адчуваючы віну, велізарную віну перад маці, і перад сабой, і яшчэ невядома перад кім...

А ноч ляцела над імі зорнай замеццю, губляючы цёплыя хвіліны маўчання, дорачы разуменне і балючую яснасць. І Павел ведаў, што ні заўтра, ні некалькімі днямі пазней ён не паедзе, як настойвала Вера, на мора, што і заўтра, і ўвесь адпачынак прабудзе ён тут, побач з маці, побач з успамінамі. Ён упершыню адчуў, што можна спазніцца выказаць маці любоў і ўдзячнасць і так і не наведаць горад юнацтва, не разабрацца ва ўсім, што трывожыць, трывожыць з гадамі мацней і мацней.

Прачнуўся ад таго, што проста пад акном, узляцеўшы на плот, залопаў крыламі, закукарэкаў певень, будзячы раніцу і яго, Паўла. Моцна-моцна за-

плюшчыў вочы, усміхнуўся, пачуўшы, як маці ціха, упаўголасу, выгаворвае пеўню:

— Ну, чаго, чаго ты расхадзіўся? Усе даўно ўжо паўставалі. Чуеш, ля калодзежа вёдры бразгаюць і трактары вуркочуць за рэчкай ад цямна... А сынок хай паспіць, куды яму спяшацца? Хай паспіць.

І калі певень, пазіраючы на яе адным вокам, устрапянуўся і голасна пракукарэкаў, яна зазлавала, замахала на яго:

— Кыш! Кыш!

І ўбачыла сына. Яшчэ раз дакорліва зірнула ўслед пеўню, і Павел засмяяўся, падхапіў маці на рукі і, не слухаючы войкання, закружыў, закружыў.

— А я не сплю! Не сплю! Я сёння еду ў горад.

І, асцярожна пасадзіўшы маці на табурэтку, апусціўся на зямлю побач з ёй, глядзеў, глядзеў на яе шчаслівы твар, зараз памаладзелы. І зноў адчуваў, як расце ў горле сухі, калючы, горкі камяк.

— Што табе прывезці, мама?

І замітусілася, захвалявалася маці.

— І не ўздумай нічога купляць, Паўлік! Пахадзі, пагуляй. Нічога мне не трэба. Усё ў мяне ёсць, чуеш?

Электрычка, весела выстукваючы ўсімі коламі, рухалася насустрач сонцу, часта спынялася, з натоўпамі людзей упускаючы ў вагоны ранішні халадок і водар палёў, і, уздыхнуўшы ўсімі дзвярыма, зноў зрывалася з месца — далей! Далей! Хоць за ўзгоркам, ужо не заслонены прасвечаным наскрозь бярэзнікам, уставаў горад, і заводскія карпусы цяснілі жылыя раёны — пад самыя аблокі ўздымаліся цяжкія гмахі дамоў. І марна цягнуліся за імі гоплем старых ліп там-сям раскіданыя скверы.

Горад жыў у іншых вымярэннях, і нават прырода — сама ўсемагутная прырода — адчувала сябе ў

яго межах госцяй, калі не прыжывалкай. Рэдкія плямы травы; да бляску адмытыя са шлангаў, выпешчаныя людской турботай кветкі, амаль нежывыя ў сваёй нерухомасці; роўна падстрыжаныя, аднолькава сумныя ліпы ўздоўж вуліц...

У вагоне загаманілі, замітусіліся людзі, спяшаючыся праціснуцца бліжэй да выхаду. Нават тыя, каму не трэба было нікуды спяшацца,— ехалі, каб пахадзіць па гарадскіх вуліцах, адчуць іх гарачы рытм, купіць сёе-тое,— падхопленыя агульным нецярпеннем, штурхаліся ў вузкім праходзе, сочачы, як наплываў, цясніў прастору за акном вакзал з яго лязгатам, сталёвым бляскам рэек, шматлікімі платформамі, на якіх, нагадваючы змену прыліваў і адліваў, шумела жыццё.

— Куды, куды прэшся са сваімі клункамі?

— Сяргей, звані! А то мо намалюешся як-небудзь...

— Сынок, трымайся за карзіну! Зараз выберамся...

— Лепш трамваем...

— Разумееш, праект будуць абмяркоўваць заўтра...

— Аслеп ты? І таўчэцца, і таўчэцца па нагах...

— Ну, усяго! Мне ў інстытут!

Усмешкі, заклапочанасць на тварах... Мітусня, рытмічнае прасоўванне наперад...

Павел штурхаўся разам з усімі, спяшаючыся выбрацца з натоўпу. І калі зусім нечакана апынуўся на плошчы, разгубіўся, не ведаючы, куды ісці далей. Сам сабе ўсміхаючыся — не, не думкам — вакзальнай мітусні, сваёй нецярплівасці, ён не паспеў вырашыць, што ён будзе рабіць у горадзе. Ды і навошта было вырашаць! Горад прымаў яго. Прымаў спакойна, ні аб чым не пытаючыся, нічым не папракаючы. Колькі ж ён тут не быў? Пятнаццаць? Не, больш.

2 Зак. 4261

Дзевятнаццаць. Божа мой, ну, канечне, дзевятнаццаць гадоў. Пастарэў, палысеў...

А горад такі ж малады, і тая ж прага расці, прыгажэць год ад году. Горад яго юнацтва! Як першы самастойны палёт — успамінаючы, заўсёды згадваецца святочная чысціня сіняга-сіняга неба. І радасць. Невядома ад чаго. Проста радасць.

Нават сёння, цяпер, водсветы той, хлапечай радасці перайначвалі ўсё, на чым спыняліся вочы...

Вітаюцца старыя ліпы, ледзь прыкметна ківаючы зялёналістымі галінамі. Вызвоньваюць трамваі. Ззяе ўсімі пырскамі сонца толькі што вымытая вуліца. З кожнай вітрыны — па цёмным шкле ён выразна бачыць кожную зморшчынку на твары — усміхаецца Паўлу высокі, не па ўзросту танклявы... Чакай, дык гэта ж ён сам! Павел гучна засмяяўся і, не зважаючы на цікаўныя позіркі прахожых, цяпер ужо крытычна пачаў углядацца ў свой адбітак за шклом.

Мужны твар... Не. Проста твар саракагадовага мужчыны. Вочы... вочы не змяніліся, што тут скажаш! А вось скулы завостраныя, і мяшкі пад вачыма... А вочы — вочы яму падабаліся: так шмат было ў іх ад ззяння гэтага летняга дня, ад яго светлага настрою!

Павел кружыў і кружыў па горадзе, пазнаючы і не пазнаючы ціхія завулкі і імклівыя праспекты, знаходзячы і не знаходзячы знаёмыя рысы ў яго абліччы. Ён не змог бы сказаць пасля, пазней, чым запоўнена была кожная хвіліна яго блуканняў. Ды гэта было і не важна...

Мільганулі, успыхнулі ліхтары. А ён ішоў і ішоў. Бы ў сне. Калі не можаш спыніцца і, паслухмяны чужой магутнай волі, не задумваешся пра тое, што чакае цябе там, за паваротам.

І раптам, інтуітыўна запавольваючы крокі, Павел адчуў, як балюча ўпіліся пазногці ў гарачыя, адразу

спацелыя далоні, як гучпа, няроўнымі штуршкамі забілася сэрца, уздуваючы жылы на скронях. Прыкрыў рукой вочы, не верачы, не хочучы верыць. Перад ім быў незнаёмы горад, намаляваны яго снамі,— нават не горад, вуліца, абодва канцы якой разам з позіркам упіраюцца ў неба. Вуліца, амаль нерэальная ў стракатым святле ліхтароў. Белыя, сінія, жоўтыя, ліловыя плямы святла! Яны, не кранаючыся тратуараў, вісяць у паветры, злёгку пагойдваючыся, разбіваючы цені ліп аб каменныя сцены трохпавярховых будынкаў...

Павел ужо не ішоў, бег да аўтобуснага прыпынку. Там, дзе пад прыземістай літарай «А» павінна была быць шчарбатая выбоіна, чарнела латка не так даўно пакладзенага асфальту.

Сэрца выскоквала з грудзей — чаму, калі ён стаяў на гэтым месцы?

«Ды супакойся ты,— угаворваў сябе Павел.— Неверагоднае — проста забытае... Чаму, калі я быў тут? Стаяў на гэтым месцы?»

Спыніўся, заскрыгатаўшы тармазамі, аўтобус. Стары — там-сям аблупілася фарба. Адчыніліся дзверы, на тратуар саскочыў франтаваты юнак з гітарай. Павел ужо зрабіў крок да дзвярэй — шафёр чакаў яго — і раптам, быццам папярэджаны кімсьці, бязвольна застыў перад адкрытымі дзверцамі.

— Не едзеш, ці што? — спытаўся шафёр.

Дзверцы са скрыпам зачыніліся, і Павел так і застаўся стаяць пад ліхтаром. Ён ведаў: гэта не яго аўтобус, трэба прайсці за паварот...

Загадка мучыла Паўла, а ён усё не мог рашыцца: ці ісці яму ў той бок, куды цягне яго невядомая сіла. Як быццам ён мог заставацца на месцы ці павярнуць назад!

Павольна, вельмі павольна цякла яму насустрач вуліца, набліжаючы дом за зараснікам бэзу, веснічкі,

ледзь прыкрытыя, гатовыя адкрыцца пасля перша-га ж штуршка. Сэрца выскоквала з грудзей... А Павел рашуча, нібы зразумеўшы, што гэта — лёс, што ме-навіта сюды ён і павінен быў прыйсці, націснуў на званок.

Дзверы амаль адразу адчыніліся.

— Стася?! — нібы аслеп, столькі святла хлынула ў душу, вызваляючы яе ад непасільнага цяжару сноў. Як ён мог забыць гэтыя тонкія трапяткія рукі, гарачыя прагныя вусны, дзве чорныя-чорныя зоркі вачэй? Як ён мог жыць без гэтага даверлівага позір-ку, без гэтай ціхай, задумлівай прыгажосці?

— Стася...

Дзяўчына пацiснула плячыма, адыходзячы ад дзвярэй.

У глыбіні пакоя ціха ўскрыкнула жанчына, ін-стынктыўна засланіўшыся рукамі. Немаладая, з рэд-кай сівізной на скронях, жанчына хавала твар, нібы-та дзевятнаццаць год чакання, адбіўшыся на ім, не маглі служыць апраўданнем таго, як яна пастарэла.

Яна не ведала, якая прыгожая была яна цяпер!

Ноч глядзіцца ў вочы зор... Стаіць такая цішыня, што чутно, як дагарае бэз, напаўняючы прастору п'янлівым салодкім водарам, як стрымлівае дыханне вецер, баючыся крануць цяжкія галіны ліп і асы-паць на траву шолах.

Ноч глядзіцца ў вочы зор, усё вышэй і вышэй па-дымаючыся над горадам, амаль нерэальным у святле ліхтароў. І ўсё далей і далей адступае асветлены акном дом за зараснікам бэзу і адзінокая постаць мужчыны пад ліхтаром, на прыпынку аўтобуса. Быц-цам ёсць аўтобус, якім можна даехаць да маладосці, да свайго мінулага!..

Вас ніколі не здзіўляла, якое высокае над намі неба?

## *Дачка Цярэшчыхі*

Стары парк, відаць, і называць паркам не выпадае — у некалькі шэрагаў растуць старыя магутныя таполі, спалучаючы дзве вуліцы, Савецкую і Пралетарскую. Але людзі даўно прывыклі і да назвы, і да грачынага шумнага суседства — гнёздаў на разгалістых таполях столькі, што, калі ападае лісце, дрэвы здаюцца пакрытымі вялізнымі чорнымі шапкамі. Урэшце, людзі хутка да ўсяго прывыкаюць.

Вось і я. Месяц, як прыехаў у пасёлак,— на камбінаце патрэбен быў інжынер. А тут і горад за паўгадзіны язды на электрычцы, і радня сяя-тая наскрэблася... Месяц, як прыехаў, а ўжо прывык і да вуліцы, па якой зрэдку, вытрасаючы ўсе свае жалезныя вантробы на выбоінах, праносіўся грузавік і ледзь не з-пад колаў з кудахтаннем разбягаліся куры. І да гэтага парку. І да людзей, што кожнага дня трапляліся на вочы. Жыву я ў канцах, па Савецкай, у цёткі Мар'і, далёкай сваячкі па бацьку. І вось, двойчы на дзень, іду праз увесь пасёлак. Прыглядаюся да ўсяго — заняць жа вочы трэба!

Непадалёку — у полі зроку ўвесь прамежак паміж сталоўкай, магазінам і паркам — спыняецца гурт хлопцаў. Дзевяты-дзесяты клас... Усе патлатыя, загарэлыя да чарнаты. Спыняюцца і, перагаворваючыся, раз-пораз пазіраюць у бок магазіна. Да мяне далятаюць абрыўкі размовы.

— Мо падняць і адвесці дадому?

— Была ахвота!

— Сентыменты, Серж. Напілася баба. Першы раз, ці што!

— І нам бы глынуць...

— Маці кажа...

— Ты што, мамачку тройчы на дзень успамінаеш?

— Цярэшчыха ізноў брыкнула. Смех!

Я ўжо бачу гэтую Цярэшчыху. Немаладая жанчына, хутчэй хударлявая, чым мажная. П'яны разгублены твар, выкачаная ў зямлі спадніца — там, дзе яна злёгку задралася, відаць белыя, як намазаныя смятанай, ногі з вузламі жыл. Глядзець брыдка. А на яе ж глядзяць усе. Жанчына зноўку падае, мармычучы штосьці, спрабуе падняцца. І ці таму, што глядзець на гэта немагчыма, брыдка, ці таму, што я — цяпер ужо спіной — чую смех патлатых загарэлых хлопцаў, рашуча паварочваю да цёткі.

Памагчы ёй аказалася не так ужо і проста. Яна чаплялася за мае рукі, спрабуючы зазірнуць мне ў твар, і ўсё паўтарала:

— Сынок... сынок... сынок...

Я блізка-блізка бачу яе зрэзаны маршчынамі, абветраны твар і вочы — балючая-балючая сінь калыхалася ў іх.

— Куды вам ісці? Я правяду вас...

— Не трэба! Я сама. Дзякуй...

Павярнуўшыся на голас, убачыў, што побач стаіць дзяўчына. Зусім дзяўчынка. Танюткая, меднавалосая, уся нібы прасвечаная сонцам, яна здавалася нерэальнай тут, у гэтым месцы, побач са мной, побач з п'янай — ледзьве на нагах трымаецца — кабетай. Шчыра, я на імгненне забыўся і на Цярэшчыху, і на свой намер памагчы ёй. А яна неяк адразу выпрамілася, пачала няўклюднымі рухамі атрэсваць пясок са спадніцы.

— Дзякуй! Дзякуй...— трасла галавой Цярэшчыха, гледзячы, як і я, на дзяўчыну. І што страшна ўразіла мяне — праз момант, абапёршыся на яе руку, ужо ішла, амаль што цвёрда ступаючы, у бок парку.

Зірнуў ім наўздагон і заспяшаўся прэч — знайшоў як час бавіць! А дзяўчына — проста красуня! Міжволі ўсміхнуўся, пачуўшы з хлапечага гурту:

— Хто гэта?

— Інжынерчык... З камбіната.

Сімпатычныя хлопцы. Фанабэрыі мнагавата, ну, ды гэта пройдзе. З цягам часу гэта ва ўсіх праходзіць. А ў пасёлку, выходзіць, ёсць не толькі стары парк з разгалістымі, магутнымі таполямі, што гайдаюць у паветры грачыныя гнёзды...

— Цётка Мар'я, вы ведаеце Цярэшчыху?

— Цярэшчыху? Ведаю,— цётка Мар'я, не перастаючы пераразаць яблыкі-ападкі на сушню, косіцца на мяне.— Што-небудзь здарылася?

— У яе, відаць, нялёгкі лёс?

— У каго ён лёгкі, Віктар? За ўсімі нашымі лёсамі — вайна.

Цётка не хацела расказваць. Яна маўчала, не падымаючы вачэй ад рук, занятых працай. Можа, і ўспамінаць было цяжка — сама кукавала адна, так і не склаўшы сям'ю: то вайна, а пасля — якія жаніхі!

— У яе хто-небудзь загінуў?

— Усе загінулі. У першы ж дзень вайны. Станцыю бамбілі — хату яе як языком злізнула... Чацвёра дзяцей у хаце было. Як яна жыве пасля таго, яна і сама не ведае. Усе — да аднаго! Мужык загінуў ужо на фронце...

— А меднавалосая... рыжая дзяўчынка? — адчуваю, што абыякавасць у голасе не пасуе да пытання.

— Дзяўчынка? — Цётка пакідае работу і, прыжмурыўшыся, глядзіць на мяне, быццам хоча запытацца пра штосьці і не пытаецца.— Цярэшчыха падабрала дзяўчынку каля мёртвай жабрачкі ў сорак шостым. Так і не дазналася, хто яна. Ратавала малую — як сябе ратавала. Так і жывуць удваіх.— Цётка Мар'я памаўчала і дадала ціха, думаючы пра нешта сваё:— Піць — яна і раней піла, хаваючыся ад дачкі. А цяпер — як смерць сваю чуе... Адна Іванка з ёй і спраўляецца.

— Іванка? Гэта ж славацкае імя.

— Можа, і славацкае.

— Прыгожая,— выдыхаю я, злёгку чырванеючы пад паглядам цёткі.

— Многія тутака сохнуць па ёй. А падысці няма смелых — дзіўнаватая яна якаясь,— цётка Мар'я ўздыхае і зноў бярэцца разразаць і кідаць у вялікае рэшата роўныя скрылікі антонавак.

— Чаму дзіўнаватая? — я адчуваю, як цікаўнасць расце, перарастаючы ва ўпэўненасць, што я абавязкова знайду гэтую дзяўчыну, убачу яе яшчэ і яшчэ раз.— Гэта нічога, што я пытаюся?

— Нічога,— яна ледзь прыкметна ўсміхаецца.— Ты ж са мной рэдка калі пасядзіш, пагамоніш. Усё свае клопаты, свае маладыя думкі.

— Мар'я Антонаўна! Вы ж ведаеце, мы манціруем новае абсталяванне ў цэху пластмасы. То затрымацца трэба, а то і дома над чарцяжамі лішнюю гадзіну пасядзець. Вы ж ведаеце!

— Ды ведаю, ведаю я. У цябе свае клопаты, што ж табе са мною, старою, сядзець! — замахала рукамі цётка.— А Іванка што ж! Гэта людзі яе дзіўнаватай лічаць. Маладая, прыгожая, а адна і адна. То з кніжкай сядзіць у садку, то пойдзе на луг і далей, ажно да самага лесу. А то і на вуліцы спыніцца і нібыта слухае нешта, пільна глядзіць у адну кропку. А што слухае, неяк і не зразумець. Была і я падышла да яе ў такі момант, а яна мяне нават не заўважыла.

Яна яшчэ раз уздыхнула і працягвала:

— Дзіўнаватая... Глядзіць на зямлю, сабе пад ногі. Я зірнула — мураш цягне сухую травінку. І больш нічога нідзе. Я і мураша не адразу ўбачыла. А ёй, бач ты, цікава!

— І гэта ўсё?

— Па мне, дык няхай сабе і глядзіць. Гараваная яна, вось што я табе скажу.

— Колькі ёй? Шаснаццаць?

— Мо крыху і больш. Дзесяць класаў сёлета скончыла. Суседка, вучыцелька Герасімаўна, казала: вучыцца яе пасылаюць у гэту... як яе?.. Словам, музыцы вучыцца. Спявае дужа ж хараша. Голас, здаецца, такі ж, як і ў іншых дзяўчат, а заспявае — душа пераварочваецца. Гараваная яна...

— Дык хіба важна, што яна гараваная, Мар'я Антонаўна? Талент, мусіць жа.

— Талент талентам, пляменнічак. А калі не пагараваў чалавек за сябе ці за каго іншага, дык ён і рады дасць не пазнае.

— І-ван-ка...

— Хай дасць ёй бог шчасця, а людзі не пакрыўдзяць! — Цётка Мар'я засяроджана глядзіць на свае рукі.

Цень прабягае па яе твары, і мне здаецца, што думае яна цяпер пра сябе, успамінае сябе, маладую.

— Я пайшоў. Прайдуся. Вы кладзіцеся, не чакайце мяне.

— Ідзі, ідзі, пагуляй! — словы даганяюць мяне за веснічкамі, і я яшчэ раз азіраюся на прамую, вельмі прамую, застылую ў гэтай позе постаць жанчыны і ўзмахваю рукой.

Вечар мякка тушыць фарбы неба, і ўсё выразней акрэсліваюцца навіслыя над платамі вішні, хаты, што туляцца адна да адной, выбягаючы на дарогі з агародаў, засаджаных бульбай. Вуліца, з узгорка на ўзгорак, вядзе мяне да старых таполяў. Я не знаю, куды я іду. Ведаю, што іду шукаць медпавалосую дзяўчыну, Іванку. А яна вяла маці ў бок парку...

Хутка парк застаецца ззаду. І гэтак жа, як і мая, цягнецца вуліца паўз зарослыя вішняком хаты, збіраючы ля калодзежаў усе сцяжынкі і жанчын, якім

заўсёды ёсць пра што пагаварыць. Іду і іду ўздоўж вуліцы, трывожна ўзіраючыся ў вокны ледзь не кожнай хаты.

— Каго ты шукаеш, дзіцятка?

Толькі цяпер заўважаю непадалёку ад сябе на лавачцы старую, якая сядзіць, абедзвюма рукамі абапіраючыся на кіёк паперадзе сябе. Мо запытацца?

— Дзе тут хата Цярэшчыхі, бабуля?

— Цярэшчыхі? А вось трэці двор яе і будзе,— бабка глядзіць на мяне ва ўсе вочы, спрабуючы разгледзець у прыцемках.— А хто ж ты будзеш ім?

— Жаніх.

Слова вырвалася міжволі, хоць ніякага тлумачэння я ўсё роўна не змог бы знайсці. І хапіла ж дуру!

— Шаніх? — прашамкала старая, ківаючы галавой і спрабуючы прытрымаць мяне за рукаў.

А я ўжо ішоў паўз яе, злуючы па сябе, пасмейваючыся недзе ў душы. Вось і трэці двор. Ля самай брамы — маладая стромкая бяроза... Азіраюся. Старая стаіць, абапіраецца на свой кіёк і глядзіць у мой бок. Здаецца, я нават бачу, як часта-часта ківаецца ў яе галава.

Што я скажу, калі сустрэнуся з кім-небудзь у двары?

Не зарыпеўшы, адчынілася фортка. Ступаю ў цень куста бэзу, які закрывае асветленае акно, прыслухоўваюся да таго, што адбываецца ўва мне. Жаніх!

Яшчэ некалькі крокаў. Акно адчынена, яно прыцягвае мяне, і хутка я ўжо зусім побач з ім, за цёмнымі шыракалістымі галінкамі. У пакоі, акрамя двух ложкаў і шафы, нічога няма... Не, ёсць яшчэ стол — на ім акуратнымі стосікамі кнігі. І паліцы за сталом. Кнігі, кнігі! Нарэшце бачу Іванку. У простым халаціку з блакітнай бязі ў гарошыну, уся ахутаная яркімі валасамі, яна сядзіць на табурэтцы каля ложка — твару яе не відаць. На ложку, скурчыўшы-

ся ў балючы камячок, тварам да сцяны, ляжыць Цярэшчыха, а Іванка грэбенем расчэсвае яе густыя яшчэ, пасівелыя валасы. Мякка-мякка кранаецца грэбенем валасоў — і столькі пяшчоты ў гэтых рухах, што міжволі сціскаецца сэрца.

— Ты як маленькая ў мяне, мама, глядзі і глядзі за табой,— гэта Іванка, голас гучыць ціха-ціха.— Ну, як я цябе пакіну адну? Ты ж і са мной па мне сумуеш, харошая мая, родная мая. А нашто ж, каб людзі смяяліся! Яны ж не ведаюць, якая ты ў мяне — якая работніца, якая пявуння. А ты абяцала слухаць мяне, абяцала, абяцала,— яна раптам сцішылася, рука з грэбенем апусцілася на калені.

— Гавары, яшчэ гавары! — ціха шапчу я, усхваляваны і гэтым малюнкам, і дзявочым голасам, што закалыхваў матчын боль. А Іванка выпрамляецца на табурэтцы — цяпер мне відзён яе тонкі профіль,— зводзіць рукі за галавой і, злёгку пагойдваючыся, пачынае спяваць. Ціха, нібы спрабуе голас:

Зялёная вішня з-пад кораня выйшла...

Старая, балючая песня. Выпушчаная на волю, яна параненай птушкай кружыцца нада мною, над яблыневым садам, які цесна абступае хату і дарожку святла ад акна, доўга кружыцца над вечарам, патухлым і таму поўным таямнічага мігцення.

І настаў дзень. І другі. І трэці... Жнівень спяшаўся ўправіцца са сваёй гаспадаркай, усё прыбаўляючы і прыбаўляючы клопату людзям. Звыклыя клопаты. Звыклая хада часу.

І я штодзень хаджу праз увесь пасёлак да прахадной камбіната, спяшаючыся, з нецярпеннем чакаючы вечара, прыцемкаў, калі можна будзе ісці да Цярэ-

шчышынай хаты, стаяць з надзеяй убачыць Іванку хоць на кароткі міг, пачуць яе голас.

Я і цяпер іду туды, мінаючы двары. Спыняюся пад бярозай, прагна гляджу на акно, на дарожку святла на двары і не адразу заўважаю дзяўчыну, зусім побач, за брамаю. А калі заўважаю, падсвядома зрабіўшы крок назад, у цень лісця, адчуваю, як сэрца штурхае мяне да брамы, да дзяўчыны.

— Прабачце! Не палохайцеся, Іванка...

— Гэта вы!

— Я хацеў...

— Я ведаю — Іванка гаворыць мякка. Азіраецца на акно і прыціскае палец да вуснаў.— Не думайце кепска пра маму. Яна ў мяне вельмі добрая.

— Іванка!

— Не трэба нічога гаварыць. Вы ж прыйшлі ўбачыць мяне... Добрай ночы!

Гляджу, як яна лёгкай хадой ідзе да ганка, у святле акна ўспыхваюць на імгненне яе медныя валасы, і я ніяк не магу праглынуць камяк, што засеў у горле. Ніколі раней не было ў мяне гэткай разгубленасці, бездапаможнасці... Дзяўчына, дзяўчо зусім, распараджалася маім жыццём. І каб жа распараджалася! Я менавіта гэтага і хацеў. Яна проста жыла непадалёку ад мяне — і жыццё страціла ўсякі сэнс, усякую прывабнасць, калі я не бачыў яе, не глядзеў на яе хоць здалёк...

— Сёння раніцой памерла Цярэшчыха.

— А Іванка?

— Дактары кажуць, сэрца было хворае. А я так скажу, ад тугі яна памерла. Не змагла б яна і дня пражыць адна у хаце,— цётка Мар'я ражком хусткі выцерла слязінкі ў кутках вачэй, раптам пацямнелых і халодных.

— Цётка Мар'я, што з Іванкай?

— Адпакутавала, нябога, і за сябе, і за сям'ю

сваю. За ўсю зямлю адпакутавала, няхай пухам яна ёй будзе...

— А Іванка? Што з ёй, цётка Мар'я?

— Во-ой! Ніхто і не ведае, чым ёй памагчы. Як бы бяды з дзеўкай не здарылася! Спявае.

— Спявае? — адчуваю, як ліпкі страх распаўзаецца па ўсім целе.— А людзі? А ўрачы?..

— Віктар, ты куды? Не можа, не можа ўрач вывесці яе з хаты. Куды ты? Там жа паўпасёлка сабралася,— яна крычала яшчэ штосьці, але я ўжо нічога не чуў, акрамя гулкіх удараў сэрца. Хутчэй! Чаму мне раней не сказалі? Хутчэй, хутчэй!

Мільгаюць двары, твары людзей. Хтосьці спрабуе спыніць мяне каля самага ганка. Вось і знаёмы з акна пакой. Чаму так многа людзей? Ах, ну, канечне! Ля стала, падпёршыся рукой і ціха пагойдваючыся з боку ў бок, сядзіць Іванка. Спявае яна ці не спявае? Ціха! Іванка спявае. Я толькі цяпер чую, што яна спявае і плачуць людзі. Можа, плачу і я, бо адчуваю, як пячэ твар штосьці гарачае, нясцерпна гарачае.

— Іванка!

Яна не чуе мяне, пагойдваецца з боку ў бок.

— Іванка! — я падымаю яе за плечы, моцна скаланаю.— Ты чуеш мяне, Іванка?

Песня заміpae ў яе на вуснах, яна неяк здзіўлена глядзіць на мяне і раптам пачынае асоўвацца ўніз, уніз. Падхопліваю яе на рукі — побач мітусіцца маленькі круглы мужчына ў белым халаце — і нясу да дзвярэй. Людзі расступаюцца, уголас галосяць бабы.

— А божа ж мой, што гэта робіцца!

— А няўжо ж слёз было мала? А няўжо ж гарачка не хапіла-а!..

— А дзіцятка ж ты наша, а роднenькае...

Цяроцічыху пахавалі на ўзгорку пад бярозай, адкуль відаць чыгунка, па якой раз-пораз праносяцца, пагрукваючы, цягнікі, і станцыя, заўсёды тлумная і асветленая агнямі.

А я звальняюся з камбіната, збіраю свае няхітрыя пажыткі, каб развітацца з пасёлкам і са старымі таполямі, што, як шапкамі, пакрыты зараз грачынымі гнёздамі, і з цёткай Мар'яй, якая, раз-пораз выціраючы вочы, глядзіць на мае зборы. Еду ў горад. Там, у бальніцы, скаваная сваёй хворасцю, чакае мяне Іванка.

## *Цёплая ралля*

Восень. Рэдка яна падараецца такой лагоднай, сонечнай. Хмары блукалі дзесьці далёка, зрэдку цямнела якая з іх над лесам, засцячы сонца, і тут жа раставала. І сонца зноў залівала барвай лістоту клёнаў і ціхую роўнядзь вады бліжэй да берага. І дзень зноў яркай залацістай каронай адбіваўся ў Пцічы, прыслухваючыся да звонкіх дзіцячых галасоў і птушынага, праўда, пацішэлага цяпер, спеву,— і сука́ў, сука́ў тонкія ніці павуцінак.

Карона дня! Занадта прыгожа гэта гучыць. Але як інакш назавеш высокі залаты купал неба, што ўздымаўся, здаецца, над самай вёскай. Ды што над вёскай! — над самай хатай Вольчынай, што пакасілася, згорбілася ад часу, над гэтым дваром, зарослым пырнікам, праз які віхляў няроўны след толькі што працягнутага бокам плуга...

— Дзякуй вам, дзеткі. Дай вам бог здароўя! Мо няхай бы і пасядзела яшчэ бульба ў зямлі — вунь якія цёплыя дні стаяць! Ды так мне, старой, клопату

мешп. Дай вам бог здароўя,— дзякавала суседзям старая Волька.

— Дай вам бог шчасця, — усё шаптала яна, хоць двор даўно ўжо апусцеў, і яна, адна са сваімі думкамі, сядзела на перавернутай цыбарцы, сухімі сагнутымі пальцамі цярэбячы складкі байкавай спадніцы.

Сядзела доўга, адпачываючы, марна спрабуючы адагнаць успаміны. Думкі цяклі павольна, ціха, нібыта баяліся зачапіць, развярэдзіць боль, які столькі гадоў насіла Волька ў сабе, у сэрцы. Было, вырываўся — і тады чорнае полымя, успыхваючы ў вачах, тушыла сонца. Але жыць жа трэба было! І рукі звыкла працягвалі палоць лапіну гуркоў паміж яблынямі, або паліваць кусты вяргіні пад акном ці рассыпаць зерне куранятам. Работы заўжды хапала. І невялікая гаспадарка, а ўсё ж дагляду патрабавала.

— Дай вам бог шчасця,— ужо невядома каму жадала Волька. Людзям. І ў яе было калісьці шчасце, і яе не абышло яно, як жа!

Колькі гадоў ёй тады было? Маладая была... Толькі-толькі на вячоркі бацька дазволіў хадзіць. Высокая, стан танюткі. Косы — цяжкім вянком на галаве. І сярод самых прывабных дзяўчатак знаходзілі яе вочы хлопцаў. Дзе цяпер тыя хлопцы? — сухія сагнутыя пальцы цярэбяць і цярэбяць край спадніцы,— дзе яны?

Захар, сын удавы Сцепаніды — герой. Казалі людзі, Залатую Зорку яму ў самым Крамлі ўручалі. Стары, праўда, Захарка цяпер, слабейшы за яе. А Хведар Праўдзей летась памёр, царства яму нябеснае! У старшынях усё хадзіў, памёр летась... Пятрок жывы. Конюхам дажывае свой век. Ад густога кучаравага чуба і сівых пасмаў не засталося, а нічога, яшчэ тупае. А Іване...

Кружыцца галава. Здаецца, дзень цячэ паўз яе высокім светлым небам, і — вярнулася Волька ў ма-

ладосць, у тое далёкае лета, што выдалася нейкім асабліва пічодрым: па лузе — трава ў пояс, на ніве — жыта як сцяна, у сэрцы — песня нараджалася... Вярнулася і вось — падаткнуўшы спадніцу, уваходзіць у раку, афарбаваную гарачымі фарбамі заходу, глядзіць не наглядзіцца, як, падхопленыя спакойнай плынню Пцічы, плывуць лёгкія, як яе мроі, аблокі.

Вада, ажно да пясчанага дна прасвечаная прамянямі, мякка лашчыцца да ног, і яна рашуча скідае адзенне і ступае ў ваду. Вышэй, вышэй, да самых плеч, ахінае яе прахалода, плёскаецца вакол, абдымае, нясе яе, пагойдваючы, на хвалі, паўз цёмныя кусты лазняку, што схіляюцца да самай вады, паўз яркую высокую сцяну неба за імі. І ўжо не яна, Волька, выкупаўшыся, упершыню адчуваючы такую нязвыклую лёгкасць ва ўсім целе, бяжыць да берага, а бераг, заслонены вясёлымі пырскамі, набліжаецца да яе. І раптам!..

Палахліва сцялася сэрца. Зусім блізка, там, дзе сцежка ўецца паўз самы аер, яна ўбачыла Івана. Не, адразу ўбачыла не Івана, а нібыта ў яго вачах — сябе, усю ў дробных кропельках вады...

— Якая ты! — ціха, амаль бязгучна гаворыць хлопец. А можа, ён маўчыць?

Да вярбы, пад якой бялее адзенне, некалькі крокаў. Закрычаць! Губы як здранцвелі, крык ужо душыць яе. Але хлопец, адвярнуўшыся, ужо ідзе ўздоўж берага. Ён так і не азірнуўся на яе больш. І яна, замітусіўшыся, дрыготкімі рукамі пачынае ліхаманкава нацягваць на сябе сарочку, спадніцу. Бессаромніца! Выскачыла! Маці дазнаецца — косы павыдзірае. А Іван, а Іван! — крутасвет, ніводнай дзеўкі ў вёсцы не міне, каб не закрануць, а тут... Бессаромніца! Гараць шчокі, гарыць усё цела — Волька ніяк не можа вызваліцца ад адчування, што хлапечы пагляд абдымаў яе, абдымае...

Дзень павольна патухае. І Вольчыны думкі, нібы пачынаючы новы круг, ціха кружляюць над ім. Зноў прыгадаўся Захар Сцепанідзін — казалі людзі, залатую зорку яму ў самым Крамлі ўручалі. Пастарэў ён цяпер, слабейшы за яе. Дык і то ж, гады немалыя за плячыма! А Хведар Праўдзей — у старшынях усё хадзіў — памёр летась, няма Хведара. Пятрок, той яшчэ нічога. І зараз — конюхам. Тупае. А яе Іване...

Двойчы сватоў засылаў. Бацька ўпёрся — і слухаць нічога не хоча.

— Адна дачка, ды самому, сваімі рукамі за гэтага прайдзісвета аддаць — не будзе таго! Пакуль жывы, не будзе!

Бацька ўпёрся. А яна, Волька, што ні рабіла б, Іван перад вачыма стаяў. Куды б ні ішла, заўсёды ён сустракаўся на дарозе. І аднойчы...

Якая спёка стаяла ў той дзень! Прыпарвала. На захадзе, над самай кромкай зямлі, вісела хмара. Яна ўсё расла, насоўвалася бліжэй. Трэба было спяшацца, паспець зграбці сена ў копы да дажджу — і ўсё цяжэйшай здаецца лёгкая палатняная кофта, і ўсё больш павольнымі робяцца рухі. Але ўсе завіхаюцца — вось-вось абрынецца неба. І неба абрынулася — затапіла ўсё срэбным, халодным ззяннем. Смех, крыкі, вясёлыя воклічы... Кінуліся хто куды.

— Хутчэй! Хутчэй!

— Ужо можна не спяшацца — хоць выкручвай.

— Генька, не вытанцоўвай, хавайся пад алешыну!

— Дожджык, дожджык, секані!

— Дзеўкі, ау-у! Дальбог, за маімі шырокімі плячыма ўтульней, як за алешынай...

— Дожджык, дожджык, перастань!

У першыя ж імгненні вымаклая да ніткі, Волька смяецца і ўсё-такі таксама кідаецца ад дажджу пад старую вольху, з надзеяй знайсці пад ёй нейкае схо-

вішча. І, не дабегшы, ужо бачыць Івана — стаіць Іван пад вольхай, чакае яе, працягваючы насустрач рукі. І столькі нерашучасці ў гэтым руху, гэтакая туга ў вачах яго — ну, што ж ты! — што, забыўшыся на ўсё, кінулася яна ў кола дужых хлапечых рук, прыціснулася тварам да грудзей яго, мокрая, шчаслівая.

— Люблю цябе! Люблю! Люблю! — горача зашаптаў Іван, яшчэ не верачы і ўжо адчуўшы: яна — з ім і гэта назаўсёды.

— Люблю цябе! Люблю! Люблю цябе! — урываўся гарачы шэпт паміж пацалункамі. І нічога не было больш на свеце, акрамя гэтых слоў, акрамя іх дваіх, маладых, закаханых адно ў аднаго і ў гэты лівень, што хлынуў на зямлю, затапіў усё срэбным, халодным ззяннем.

Нічога не было больш у свеце.

Але ж ішла вайна. Сусветная. Першая па ліку. Страшная ў сваёй будзённасці...

Волька ражком хусткі выцерла слёзы, хоць ні адна слязінка, нібыта выплакала яна іх змаладу, не скацілася з глыбока запалых, выцвілых воч. Уздыхнуўшы — ніяк не адбаліць мінулае, хоць столькі год прайшло! — цяжка паднялася, узяла кош, у якім ляжала з дзесятак буйных, адна у адну, ружаватых бульбін, пасунулася ў хату. Святочныя хвіліны радасці — каб жа толькі імі трымалася! Зажылася яна на гэтым свеце. Ды цяпер ужо хутка, цяпер вельмі хутка...

Паставіла кош, звыкла, не гледзячы, дастала з прыпечка чыгунок, зачэрпнула вады. Нож паслухмяна застыў у руцэ, і праз імгненне няроўная стужка шалупіння пацякла з-пад яго ў кош, раз-пораз ірвучыся і зноў закручваючыся спіраллю. Усё цішэй

і цішэй. І вось ужо рукі ўпалі на калені — вярнуліся думкі, цяжкія, упартыя.

Вайна... Думалі, не зачэпіць іх, абміне. Абмінула! Пайшоў Іван ваяваць з германцам — малілася, каб вярнуўся. Хоць калекам! — вунь Ігнат Штышыхін без рукі пяцёра дзяцей на ногі паставіў. Малілася. А што малітвы, калі вайна. І пракляцці не памагалі.

Як магло адбалець такое? І зараз заплюшчыць вочы — і бачыць аграмаднае, крывава-чырвонае сонца прама перад сабой. Здаецца, што гэта не яна павольна ступае па веснавой раллі, зачэрпваючы з сяўні зярняты і роўным, дакладным рухам рассыпаючы іх паперадзе сябе, а сонца, аграмаднае, крывава-чырвонае, навальваецца на яе ўсё больш і больш.

На пакравы забрылі Івана — значыцца, больш за паўгода мінула. Дзіцёнка пад сэрцам носіць — нарodзіцца, а як жыць?

Зямля ліпне да босых ног, ісці цяжэй і цяжэй — нібыта ўсё поле цягне яна на нагах. Чуваць, як свёкар паганяе каня. І раптам — крык! Жудасны. Звернуты да яе.

— Волька-а! Вой, божа ж мой, Во-олечка-а!

Крычыць, набліжаючыся да іх разаранай палоскі, суседка Аксіння, і, баронячыся ад таго, што ўжо прыйшло, ад чаго не абараніцца, Волька засланяе рукамі цяжкі, акруглы жывот і, губляючы апору, са стогнам завальваецца на бок. Рассыпанае зерне жывымі залацінкамі ззяе, пераліваецца каля яе, але яна ўжо не бачыць гэтага. Не бачыць яна і спалоханага свёкра, які кінуў каня і подбегам, правальваючыся ў раллю, шыбуе сюды, і Аксінню, што разгублена забегала вакол яе.

— Ахрэм, бяжы да падводы, нясі якое радно. Не!

Чакай, як жа я... Ну, бяжы, бяжы, чаго стаіш як слуп! — порстка скідаючы з плеч камізэльку, закамандавала Аксіння.— Дзедам будзеш, дасць бог.

Яна, звыкла перажагнуўшыся, пачала завіхацца каля Волькі. Волька, як праз сон, адчувала прысутнасць суседкі, чула яе голас, змагаючыся з болем, што рос і рос унутры яе.

Палёгка прыйшла потым, калі побач заплакала дзіця. Волька, яшчэ не ўсведамляючы, што гэта яе — яе! — дзіця, вачыма, у якіх не растала цем, ужо шукала Аксінню.

— Што з Іванам?!

— Вось цяпер твой Іван,— ціха сказала Аксіння, падымаючы над ёй дзіця.

Разглядзеўшы непрыгожы, зморшчаны і такі ўжо родны тварык сына, Волька заплакала. Прыслухваючыся, як прачынаецца ў ёй новая сіла, як прачынаецца ў ёй маці, яна плакала і глядзела не адрываючыся на сваё дзіця...

Дзынькнуў, выпаўшы з пальцаў, нож. Не павярнуўшыся на стук — забылася, што збіралася начысціць на вячэру бульбы,— Волька падышла да старога фотаздымка сына ў шлеме танкіста, пачала папраўляць вышываны ручнік, на якім ззялі два ордэны Славы. Сынок яе. Сыночак!

Ражком хусткі выцерла слёзы, хоць ні адна слязінка — відаць, выплакала яна ўсе іх змаладу — не скацілася з глыбока запалых, выцвілых воч. Навошта жыла яна, навошта кукавала адна, калі тыя, каго так любіла, чыёй любоўю даражыла больш, чым сваім жыццём, не вярнуліся? Дзве вайны. Адна за адной. А яна ж кахалася з Іванам, каб быць шчасліваю! А яна ж нарадзіла сына, каб ён быў шчаслівы!

Волька задыхалася ў хаце. Гучна цікалі ходзікі — ніколі раней не заўважала яна гэтага, так звыклася з імі. А тут... Ходзікі цікалі так гучна, што звінела ў вушах. Яна выйшла ў сенцы, пастаяла. Вярнулася ў хату і падцягнула гіру, раптам успомніўшы, што тая ледзь не краналася падлогі, і пасунулася ў двор.

Садзілася сонца. Цені ад яблынь мякка краналіся пастарых сценаў хаты, уздрыгваючы пры кожным павеве ветру. Пахла зямлёй. Да галавакружэння пахла прэлым лісцем і зямлёй. А калі яна прайшла ў агарод, дзе ўсяго некалькі гадзін раней Косцік, сусед, разворваў бульбу, ёй захацелася скінуць цяжкія боты і босай ступнёй адчуць зямлю, яе пругкасць, яе цяпло.

Ногі праваліліся ў цёплую, пульхную раллю. Кружылася галава. Апошняй яе думкай было:

«Вось і добра. У цёплую раллю зерне лягло — азіміна будзе густой навесну...»

Высока ў небе над вёскай, над зямлёй кружыліся і кружыліся птушкі, развітваючыся з летам, напаўняючы прасцяг крыкам і шумам крылаў.

## *Шчаслівая*

Так, яна шчаслівая. Чаму? Відаць, гэта зусім і не абавязкова ведаць, калі радуешся проста ад таго, што пачынаецца новы дзень, і зноў высока-высока над зямлёй падымецца сонца, і адкрыецца вачам бязмежны прасцяг восені. Проста ад таго, што недзе зусім побач, за гародамі, прачнулася ў зарасніках аеру Свіслач, а вецер ціха перагортвае

апалае лісце ў бярэзніку. Душу перапаўняе радасць, верыцца, што наперадзе — штосьці таямнічае, невядомае, якое чакае Алёна вось ужо столькі гадоў. А што?..

Яна хвіліну-другую насмешліва ўзіраецца ў люстэрка, падабаючыся сама сабе якраз гэтай усмешлівасцю воч, гэтай падсвядомай упэўненасцю ў сваім хараstве, у сваім шчасці. Пасля звыклым рухам уключае душ, і пругкія струмені, са звонам ламаючыся аб гарачае пасля сну цела, пачынаюць дыміцца, лёгкай парай напаўняючы ванны пакой; і можна толькі ўслухоўвацца, як, злёгку ўздрыгваючы, цвярдзеюць, наліваюцца пружыністай сілай грудзі, як веселаляскоча вада і набліжаецца той момант, калі здасца, што гэта звініць ужо не вада, што гэта ў ёй, у Алёне, звініць, вызваньвае радасць.

«Добрай раніцы!» — піша яна на запацелым люстраным шкле, як шкадлівае дзяўчо, раз-пораз азіраючыся з усмешкай на дзверы. Потым рашуча накідвае на плечы халацік і, стараючыся нічым не грымнуць, ідзе ў пакой. На спінцы крэсла вісіць прыгатаваная звечара сукенка. Але спяшацца не хочацца. Алёна падыходзіць да сына, з пяшчотай папраўляе коўдру, усміхаецца і так, з усмешкай, паварочваецца да мужа, які спіць...

Андрэй не спаў. Ён глядзеў на яе, не хаваючы свайго захаплення, так, нібыта ўбачыў яе ўпершыню толькі цяпер, і маўчаў. Алёна, яшчэ ўсміхаючыся, сарамліва захінула халацік, зашаптала:

— Ты што? Ты што?

— Алёнка! Ты сама нават не ведаеш, якая ты ў мяне...

Андрэй лёгка саскочыў з ложка, шчасліва згроб яе сваімі дужымі рукамі, прыцягнуў да сябе. І захліснула іх, апякла гарачая хваля, растварылася ў мяккім шэпце цішыня...

Цішыня праводзіла Алёну да самай рэдакцыі, куды чатыры — так, ужо чатыры! — гады назад прыйшла яна ўпершыню, тады яшчэ зусім дзяўчынка, з дыпломам журфака, з упэўненасцю ў сваёй таленавітасці — пісала вершы. Цяпер ўжо і згадвалася пра гэта радзей, можа, толькі ў такія хвіліны, як цяпер.

Роўна, сцішана шумела таполя каля веснічак. Алёна крыху памарудзіла, прасачыла паглядам, як упаў на асфальтавую дарожку адзін з пажоўклых таполевых лістоў. Адразу каля ўваходу, на абшарпанай старой табурэтцы побач з дзяжурнай, чакаў яе шафёр рэдакцыйнага «газіка» Саша Белазуб.

— Ну што, едзем, Сашок? — павітаўшыся, запыталася ў яго Алёна.— Прабач, я пазней сёння...

— Чаго там!

Хлопец таропка падхапіўся з табурэткі, павярнуўся да яе, быццам хацеў запытацца аб чымсьці, але рашуча павярнуў да дзвярэй. Хутка стала чутна, як корпаецца ён ля машыны, прагравае матор.

— Ніякіх здарэнняў, цётка Ганна? Усё ціха? — Алёна прыпазнілася і адчувала сябе вінаватай.

— Ціха, ціха. Вайна, дзякуй богу, далёка. А мёртвых хіба пачуеш! Усё гукаю сыноў,— цётка Ганна правяла шурпатай, сухенькай далонню па твары, нібы здымаючы з яго нябачныя павуцінкі гадоў.— Усё гукаю. Ты ідзі, ідзі, дачка!

Старая заківала Алёне і, праводзячы яе позіркам, уздыхнула.

Утульна ўмасціўшыся на скураным сядзенні машыны, пад шоргат колаў і цёплае вуркатанне матора Алёна ўсё спрабавала спалучыць словы старой з гэтым днём, які ўставаў ім насустрач, святлеючы і святлеючы небам. Сёння — дванаццаты дзень верасня. Ну, канечне! І ведала ж яна, як і ўсе ў рэдакцыі ведалі: сыны цётчыны ў гэты дзень загінулі. Абодва — у адзін дзень. А яна старой: «Ніякіх здарэн-

няў?» Прыкра і цяжка стала на душы. Згадала свайго Міхасіка, яго маленькія цёплыя ручаняты, што так мякка абдымалі яе за шыю. Згадала сына, а ўсміхнуцца яму не змагла. Штосьці перашкаджала ўсміхнуцца нават у думках...

— Вы любіце свайго мужа, Алёна Сяргееўна?

— Што?!

Гэта Саша запытаўся? Рэзка павярнулася да хлопца. Але той маўчыць, уважліва сочыць за шляхам, не паварочваючы галавы. Алёна разгубілася. Ці, можа, спалохалася? Хоць што, урэшце, яе напалохала? Прагучала пытанне: «Вы любіце свайго мужа?» Так, яна любіць свайго мужа. Любіць! — цэламу свету не пабаялася б сказаць пра гэта. Што ж яе так напалохала?

Саша маўчыць нават неяк зацята. І, назіраючы за ім нейкі час, Алёна раптам нечакана супакойваецца. І ўсміхаецца, перавёўшы позірк на дарогу. Яна перакапана: Саша тут ні пры чым; ён проста мілае, неразумнае хлапчанё. А яна вельмі любіць свайго Андрэя. Усё — так проста!

Машына, звыкла парыпваючы пасля кожнай выбоіны, ідзе хутка, і праз добра вымытае шкло відаць, як устае насустрач ім сонца. Дзень уступаў у свае правы. Звычайны рабочы дзень...

Праязджаючы паўз калгасны двор, дзе стаялі выраўненыя пад шнурок яркія «Нівы» і чмыхаў маторам пыльны стары грузавік, Алёна ўглядалася ў купку людзей, што, відаць, збіраліся ехаць у поле. Большасцю там былі жанкі. Пазнала Вольку... Колькі ёй — трыццаць? трыццаць пяць? Прыгожая. А чамусьці глядзець на яе балюча. Можа, здарылася што? Можа, гора якое? Смяецца, а ў вачах туга...

Алёна зрабіла рух да шафёра, каб ён прыпыніўся

на хвіліну. І, схамянуўшыся, ціха прамовіла ў адказ на запытальны Сашын позірк:

— Не, не! Да канторы.

Папярэдне ж трэба было зайсці да старшыні. Спецыяльна ехала! Размова ў Алёны да яго сур'ёзная, і пужае, што зноў нічога ў яе не атрымаецца. Не любіць зарачанскі старшыня размоў. Усё стараецца выправаджваць карэспандэнтаў. А калі ўшчуваюць у райкоме, смяецца: «Хіба ж яны праўду калі напішуць!»

А ў чым яна, праўда? І хто ведае яе лепш за яго, Мікалая Іванавіча Верашню? Салдат вайны, трыццаць гадоў — нязменны старшыня. Людзі за яго — гарой...

У праўленні было ціха. Мільганула спалоханая думка: няма, паехаў Верашня па справах, не дачакаўшыся яе, Алёны. Але сакратарка, хуценька схаваўшы ў кішэню люстэрка, перад якім толькі што падводзіла тушшу вейкі, кіўнула:

— Заходзьце, заходзьце! Мікалай Іванавіч чакае.

— Добрай раніцы! Добрай раніцы! — гукае Верашня насустрач Алёнінаму прывітанню.

Сапраўдны волат, каб не мяккая, крыху сарамлівая ўсмешка на акруглым твары, ён устае, выходзіць з-за стала і, абедзвюма рукамі паціскаючы руку жанчыны, асцярожна саджае яе ў крэсла.

— Што, лічбы спатрэбіліся? Ці, можа, абяцанні мае? А? Вось частуйцеся — добрыя яблыкі ўрадзілі сёлета. А? І рад бы пагутарыць, спяшаюся.

— Мікалай Іванавіч, хоць некалькі слоў!

— А вы пасля з іх артыкул складзеце, угадаў?

— Але ж...

— Мы многа гаворым. Дальбог! Яшчэ больш пішам. Не крыўдуеце? А мне ўсё часцей здаецца, што нам трэба шмат над чым задумацца. Кожнаму для сябе. Сумна гавару? Пастарэў? А?

Вершыня гаворыць, разбіраючы паперы на стале, усміхаючыся госці...

— Волька Маланюк? — лёгкі цень засланіў усмешку ў глыбіні яго шэрых, са сталёвым водблескам вачэй.— Пазнаёмлю, пазнаёмлю! Лепшая звеннявая-льнавод. І палі пакажа, і раскажа ўсё, што мы робім. Згода?

На вуліцы было сонечна. Зрэдку наплывалі лёгкія пухнатыя аблачынкі, але вецер нёс іх далей, на поўнач. І зноў іскрылася неба, асыпаючыся залацінкамі святла на лістоту дрэў. То тут, то там чырванелі клёны — калі яшчэ холад патушыць іх! Ціха кружыліся ў паветры яркія матылі восені — адзін, другі бярозавы лісток... Зямля прагна п'е цяпло, апошняе цяпло гэтага шчодрага ўраджайнага года.

У калгасе капаюць бульбу. Работы толькі-толькі пачынаюцца, няма пакуль што ні студэнтаў з горада, ні памагатых з раёна. На полі завіхаюцца жанкі, і з контурам нагружаныя падводы павольна цягнуцца за свіран, дзе пад камандай старога Гната мужчыны ссыпаюць бульбу ў бурты. Пагляд гараджанкі выхопліваў то цьмянае свячэнне вывернутага пяску, то маляўніча раскіданую ўдоўж баразны бульбу, то пырскі саломы, то кашулі ў шматкаляровую клетку на плячах мужчын, якія паскідалі світкі... Аж страціць увачу! А шлях вядзе далей, туды, дзе за пагоркам, зарослым алешнікам, павязаны ў снапы, сохне на сонцы лён.

Алёна ідзе няспешна, прыглядаючыся да сваёй спадарожніцы. Памякчэў, пасвятлеў Вольчын твар. Яна разгаварылася, увесь час расказвае пра дзяўчат са свайго звяна. Пра Галю Сцёпчыкаву, якая летась села на трактар, а зараз мужа свайго, Ягора, на спаборніцтва выклікала. Пра ўпартую, з характарам,

Лену Васільчык. Пра тое, як лёгка, прыгожа са снапамі яна ўпраўляецца. Яна і яшчэ Таня. Пра тое, як сёлета сабраліся ўсе разам у полі ў ноч, калі зацвітае лён, і спявалі. Так спявалі — усё наўколле заслухалася!

І раптам зусім выразна Алёна ўявіла сабе тую ноч, блакітны ліхтар месяца. Канечне ж, у такую ноч сінім-сінім будзе лён! А пагоркі, нібы хвалі... Яна ўжо бачыць гэтыя хвалі і дзяўчат у светлых бязважкіх сукенках, што струменямі месячнага святла сцякаюць да ног. А мяккія, колеру ночы, іх валасы шумяць, шэпчуцца, то рассыпаючыся па плячах, то ўзлятаючы над плячыма язычкамі сіняга полымя, раздзьмухнутага паветрам, адным лёгкім павевам ветру...

Фантазія? Пэўна ж. Волька расказвае прасцей, яна нават напела словы старой шчымлівай песні.

Хто калі сказаў ім, простым вясковым жанчынам, пра іх хараство? Ці трэба гаварыць не пра хараство? Тады пра што?

Памяць паслужліва падсоўвае Алёне свой малюнак... З натугай, дзесьці зусім побач, вуркоча і вуркоча трактар. А позірк увесь час упіраецца ў сагнутыя, нібы здранцвелыя ў гэтым становішчы, спіны жанок. Гразь, не выцягнуць ботаў. Буракі, цяжкія ад паліплай зямлі, абрываюць рукі — яшчэ, яшчэ адно намаганне!

— Што, знемаглася? — гэта якраз Волька тады яе пашкадавала.

— Нічога. Вы ж усе працуеце!

— Мы што? Мы звыклыя. І чорт нас не бярэ, праўда, бабы? — адгукнулася яшчэ адна жанчына.— А ты ішла б сабе, дзеўчына. Памагла — і досыць!

А Алёна, сцяўшы вусны, зноў і зноў схіляецца над разорай, зноў і зноў слізгаюць пальцы па мокрых лісцях бурачніку. Нічога! Усе ж працуюць. Ці ж

яна ўжо такая слабая! Буракі, цяжкія ад наліплай зямлі, абрываюць рукі — яшчэ, яшчэ адно намаганне! Хто калі сказаў ім, вясковым кабетам, пра іх харaство? Ці не пра хараство трэба тут гаварыць? Тады пра што?

Дзесьці недалёка вуркоча трактар. А побач — плячо ў плячо — крочыць, раз-пораз ускідваючы на Алёну позірк, прыціхлая Волька.

— Пра сябе раскажыце,— просіць Алёна.

— Пра сябе? — здзіўляецца жанчына.— Дык я ж вам і расказваю! Я ўсё больш з дзяўчатамі. Цягнуся за імі, падручнікаў накупляла. Толькі цяжкавата,— вырываецца ў яе, і яна неяк вінавата глянула на карэспандэнтку.

Алёна пачала ўспамінаць усё, што ведала пра гэту жанчыну. Ведала не так ужо і многа. Вядомая ў раёне звеннявая. І іх газета пісала пра яе поспехі неаднойчы. Ордэн заслужыла сваёй працай. Хацелася ведаць больш. І не проста ведаць, адчуць, у чым сіла гэтай невялічкай, амаль яе ўзросту, жанчыны. Зразумець, няхай толькі для сябе, адкуль у яе гэта моцная, упартая воля. Праца, праца... А якая яна, калі адпачывае? Чым жыве? Чаму, нават калі яна ўсміхаецца, не растаюць ільдзінкі ў глыбіні яе шэрых вачэй?

І Алёна ўсё шукае пытанне, якім бы яна разбудзіла гэтую засяроджанасць Волькі ў сабе. І не знаходзіць яго. Пытаючыся пра сям'ю, яна не думае, што пра гэта нельга зараз пытацца, бо забаліць, заные Вольчына сэрца і тая ўся сціснецца ў камячок, каб не заўважанымі для госці засталіся яе пакуты, яе боль. Ды і адкуль Алёна магла ведаць пра ўсё!

— Іван не жыве са мной...

— Чаму? — неасцярожна вырываецца ў Алёны,

і яна са страхам глядзіць на жанчыну, ужо разумеючы сваю памылку — пытанне як абраза!

Волька ўспыхвае, робіць крок назад, закрываючы твар далонямі. Яна не чуе спалоханага воклічу «прабачце!», якім Алёна хоча аслабіць нечакана нанесены ўдар. Раптам усё, што набалела, што не давала ёй уздыхнуць па начах, што пякло і пякло з таго далёкага вечара, нібыта выплёскваецца гарачым крыкам:

— Чаму?! А на чорта я яму здалася са сваёй работай! Ці мала маладых дзяўчат, якія ходзяць у прыгажунях! — і вочы падвесці ёсць час, і сукенку наймаднейшую выбраць. Невялікі гарадок, а горад — хіба там столькі працаваць трэба, як у нас! Калыхнула адна такая красуня спадніцай — і пайшоў мой Іванка, пабег за ёй у вальнейшае жыццё, прападай усё пропадам!

— Даруйце,— голас раптоўна абмяк, хоць здавалася, што балючыя словы яшчэ ўсё носяцца ў паветры, скардзячыся і пратэстуючы.

— Прабачце,— паўтарае Волька.— Я не змагла б без сваёй работы, што тут гаварыць!

— Гэта вы мне прабачце! Я не ведала...— спяшаецца Алёна сказаць, растлумачыць нешта.

Але жанчына, не развітваючыся, ужо ішла ўздоўж поля да вёскі. І Алёна не кінулася ўслед, не спрабавала суцешыць. Не было ў яе слоў, не ведала яна такіх слоў.

Дзе было ўзяць суцяшальныя словы?

У нейкім цяжкім одуме праседзела Алёна тыя паўгадзіны ў машыне, якія спатрэбіліся на зваротны шлях. І перш чым зайсці ў будынак рэдакцыі, доўга стаяла ля ўваходу. Потым яе ўвагу прывабіла дзяўчына, што ішла праз двор, пад амаль голымі ўжо таполямі. Яе абцасы звонка пастуквалі аб асфальт, дзяўчына махала чорнай скураной сумачкай, і штосьці прымушала глядзець на яе. Твар здаваўся знаё-

мым, хоць Алёна была ўпэўнена, што не ведала гэтае дзяўчо.

Ужо ў пакоі, калі добра сцямнелася і яна вычытвала апошнюю старонку карэктуры, твар дзяўчыны зноў прыгадаўся Алёне. І яна ўспомніла. Як жа яна адразу не ўспомніла!

Гэта было зусім нядаўна, на мінулым тыдні. Яна, Алёна, спяшалася ў «Сельгастэхніку». Мужа ўбачыла здалёк, на другім баку вуліцы. Андрэй ішоў з дзяўчынай, раз-пораз нахіляўся да яе, нешта горача даказваючы. Тая ўсміхалася, і Алёну тады ўразіла якраз гэта ўсмешка на павернутым да Андрэя твары — радасная і шырокая...

Заныла ў грудзях. Раптам здалося, што павінна здарыцца штосьці кепскае. Калі ўжо не здарылася! Алёна замітусілася, збіраючы свае няхітрыя прылады: блакнот, ручку, касынку — яе нядаўна купіў ёй Андрэй...

Крокі гулка аддаюцца ў цішыні вуліцы, зараслай пырнікам, а бліжэй да платоў і гонкім вішняком. Алёна ледзь не бяжыць дадому, адчуваючы, як расце, прыгінае яе стома, як адчайна калоціцца сэрца. Калі адчыняюцца дзверы і яна бачыць сына з цацкамі на дыване і Андрэя, які спяшаецца ёй насустрач, сілы раптам пакідаюць Алёну. Яна знямогла апускаецца на крэсла, не стрымлівае болей слёз. І слёзы цякуць па шчоках і цякуць — Андрэй, прыкленчыўшы на падлозе, ля крэсла, выцірае іх, паўтараючы:

— Што ты! Ну, што ты!

Пакой, заліты мяккім святлом лямпы, зморшчаны тварык сына, гатовага заплакаць — хтосьці пакрыўдзіў яго маму! — устрывожаны, з затоенай пяшчотай голас Андрэя... Пакой, заліты святлом...

Якая яна шчаслівая! Божа мой, якая яна шчаслівая!

## *Снегапад*

Яны стаялі адзін супраць другога, не гаворачы ні слова. Неасцярожныя, крыўдныя, няхай сабе і справядлівыя, словы былі ўжо сказаны. І трывожнае пачуццё віны, вялікай і непапраўнай, усё далей і далей разводзіла іх у розныя бакі, хоць яшчэ не было зроблена ніводнага кроку, хоць варта было працягнуць руку...

Зоя моцна, да болю, сціснула пальцы. І не адчула болю. Адчула, як уздрыгнулі, затрапяталі павекі, як гарачая чырвань заліла твар. Гэтага яшчэ не хапала! Яна рэзка павярнулася і амаль пабегла па расчышчанай ад снегу дарожцы. Слёз не было. Здавалася ж, што яны пяклі шчокі, вусны — і Зоя глытала, глытала іх, не заўважаючы, што ідзе ў процілеглы ад дому бок, што паліто так і засталося незашпіленым і вецер шалёна рве яго, блытаючыся ў рамянях спартыўнай сумкі.

Чаму зноў вінавата толькі яна? За што ён яе так? Пытанні вярталіся зноў і зноў. Крыўда туманіла вочы. Дзяўчына бачыла перад сабой толькі жорсткі твар Сяргея... Сяргея Пятровіча, няхай так! Няхай для яе ён назаўсёды Сяргей Пятровіч! Ён не меў права гэтак крычаць. Прайграла не яна, прайграла каманда. Не бог ведае якая каманда! Ніводнага паса над сеткай... Забіваць! Забіваць! Што яна, бог? Чаго яны ад яе вечна чакаюць? Усё! Хопіць! Курсавая нават не распачата. У кіно не памятае калі хадзіла з сябрамі...

— Куды спяшаешся, сястрычка? А што, калі б я раптам не ўтрымаўся? — хлопец злёгку абдымае Зою, так нечакана тая наляцела на яго, не заўважаючы да апошняга моманту.

Здзіўленне, потым страх мільганулі ў вачах дзяўчыны. Мільганулі і зніклі. Страсаючы з плячэй рукі

незнаёмага, Зоя ціха, чамусьці з палёгкай засмяялася. Быццам лёгкім рухам плеч скінула з сябе ўвесь цяжар гэтага дня, усё, што гняло, прымушала чырванець і злавацца.

— Прастудзішся,— апраўдваўся юнак, зашпільваючы Зоіна паліто, і яна прымала гэты нечаканы клопат, не пярэчыла і ўсё смяялася, смяялася.

— Ты хто? Чараўнік?

— Ён. Хіба не падобны?

— Вось калі б яшчэ барада!

— Не нашу. У знак пратэсту. Усе — барадачы, трэба ж неяк адрознівацца!

— А як наконт моды?

— Ніколі не быў пакорным.

— Скараешся толькі неабходнасці?..

— І маме. Як, сястрычка, наконт мамы?

— А што?

— Не будзе на цябе пакрыўджана, калі ты затрымаешся са мной? — хлопец, нахіліўшыся, заглядаў у твар.

— Гэта ўжо што, выпрашана? — зноў засмяялася Зоя.

— Выпрашана. Пасядзім за кубачкам кавы, пазнаёмімся.

— А мне здалося, што мы ўжо сто гадоў знаёмы...

— Юра.

— Зоя.

Яны дурасліва раскланяліся і, смеючыся, зусім запаволілі крокі. Падаў снег. Падаў за ветрам, зусім нячутна. Рэдкія сняжынкі кружыліся ў святле ліхтароў, там, дзе мяжа паміж святлом і ценем, з цёмных пухнатых матылёў пераўтвараючыся ў срэбныя бліскучыя іскры. Вечар толькі пачынаўся, доўгі, казачна прыгожы зімовы вечар. А паміж ярка асветленай залай, дзе гулкія ўдары мяча перамяжаліся воплескамі, свісткамі ці трывожным перашэптваннем, і гэ-

тай запесенай снегам алеяй была цэлая вечнасць. Зоя нават моцна-моцна заплюшчыла вочы, каб паспрабаваць уявіць на імгненне дзяўчат, Сяргея... і хоць гэтым неяк адгарадзіцца ад снегападу, ад ліп з фантастычнымі наростамі снегу, ад вясёлых Юркавых вачэй. Нічога не атрымалася. І цяпер было ўсё роўна, куды ісці, абы ісці і ісці, не спяшаючыся, з асалодай удыхаючы марознае паветра.

Хіба гэта падае снег? Гэта белая цішыня сцелецца пад ногі, і яны камечаць яе, і снег доўга зацярушвае ззаду ліловыя правалы слядоў.

— Снег, снег, снег! Гэта ўпершыню, праўда? Зіма амаль што канчаецца, а я толькі цяпер убачыў: падае снег...

— Ты чараўнік?

— Чараўнік. Раптам захацелася напісаць — на вялікім-вялікім палатне! — цябе, і гэты вечар, і сваю радасць.

— Радасць? — Зоя нечаканым лёгкім узлётам рукі калыхнула цяжкую галінку, і цэлае воблака снегу накрыла хлопца.

Ён доўга атрасаецца, круцячы галавой і смешна фыркаючы... Жаданне пацалаваць дзяўчыну сёння — цяпер жа! — расце ў ім, перахоплівае дыханне. Зоя! Зоечка! Зоя!.. Як мог ён так доўга не сустракаць яе! Не ведаць яе! Сустрэцца ў такім вялізным горадзе — адно гэта было ўжо шчасцем, а калі яго вусны крануцца...

Юра застыў. Аслупянеў. Ён не верыў сваім вачам. Зоі не было. Ні побач. Ні воддаль — на заплямленай святлом ліхтароў алеі. Вечар ляцеў з нябачнай вышыні, рассыпаючыся на мірыяды сняжынак — яны цяпер не пырхалі ўверх-уніз, ледзь асмельваючыся апусціцца на халодную зямлю, а ляцелі густа, прыліпаючы адна да адной па ляту.

— Зоя! — гукнуў спалохана юнак.— Зо-о-я!

Гулка шлёпнуўся з дрэва камяк снегу. І зноў кружацца, узлятаюць, падаюць сняжынкі насустрач позірку. Усё наўкол здаецца амаль неверагодным у сваёй прыгажосці. І гэта нават балюча, таму што раптам пачынаеш разумець, што такія хвіліны — непаўторныя, што іх ніколі нельга будзе вярнуць.

Зоя... А можа, і не было сустрэчы з дзяўчынай? Можа, ён выдумаў усё, зачараваны цішынёй, вячэрнім снегападам?

Зоя стаяла за некалькі крокаў. Проста постаць яе злівалася з ценем старой ліпы, да якой яна прыціскалася гарачым тварам. Проста не хацела — не магла яна падзяліць з Юрам гэту яго радасць. Дзяўчына плакала. Яна не бачыла, як разгублена кружляў яшчэ нейкі час па алеі, двойчы вяртаўся назад нечаканы яе знаёмы. Як ён пайшоў у бок ракі, усё азіраючыся і азіраючыся, так і не зразумеўшы, што адбылося. Як хутка, быццам спяшаўся, замятаў усе сляды вецер...

Калі, паплакаўшы, выплакаўшы крыўду і крыху супакоіўшыся, яна пайшла па алеі назад, у бок інстытута, яна ўжо не згадала ні хлопца, ні сваю кароткую размову з ім. Сустрэліся — і разышліся. Зоя ішла хутка, усё больш рашуча адсякаючы ад сябе вечар узмахамі рукі. Сумка нібы прырасла да пляча. На твары, па якім сцякалі сняжынкі, гарачым бляскам свяціліся вочы. Яна не ведала, ці ёсць хто-небудзь цяпер у спартыўнай зале, не ведала, што будзе рабіць там адна, так позна — яе падштурхоўвала злосць, нечаканая злосць на сябе, на непаслухмяны мяч.

Дзверы ў пакой, дзе яны звычайна распраналіся, былі адчынены, хоць там нікога не было. Пуста. І нязвыкла ціха. Рассыпаючы халодны звон, кожны

раз пібы разрываючы тонкія пябачныя ніці паветра, капала вада ў душы. Зоя пераапранулася, разаграваючы пальцы рук, абдумваючы праведзены, прайграны імі матч. У залу ўвайшла ўпэўнена, нібыта ведала, што чакаюць яе. Зусім не здзівілася, убачыўшы ў кутку, на складзеных матах, Сяргея. Сяргея Пятровіча. Ён устаў, паспрабаваў патушыць здзіўленую радасць у вачах, ступіў ёй насустрач.

— Ты вярнулася?

Не адказаўшы, Зоя ўзяла з жывой — мячы адразу раскаціліся — піраміды мяч, стукнула па ім, правяраючы пругкасць, і моцнымі ўдарамі пачала тушыць яго высокія скачкі. Раз! Раз!

Сяргей спыніўся непадалёк, ён ні аб чым больш не запытаўся. Моўчкі стаяў і глядзеў. І любаваўся. З пругкасцю мяча ўзлятала Зоя, ловячы ўдар. Уся — увасабленне звонкай пружыністай сілы. Румянец разліваўся па твары...

Зоя раптам злавіла ў скачку мяч, павярнулася, кідаючы яго Сяргею, з кароткім, загадным воклічам:

— Пас!

Той, усміхнуўшыся, высока падкінуў мяч у яе напрамку, і кароткім, рэзкім, моцным узмахам рукі Зоя паслала яго па той бок сеткі, у «шасцёрку».

— Яшчэ!

Сяргей, ужо ўцягнуты ўладным голасам дзяўчыны ў гульню, зразумеўшы, чаму прыйшла яна сюды цяпер, стаў пасылаць мяч за мячом насустрач Зоі, насустрач рэзкаму ўзмаху яе рукі. Разбуджанае ўдарамі, рэха кідалася ад сцяны да сцяны.

— Хопіць!

Сяргей пачынаў трывожыцца. Гэта не было гульнёй. Ён адчуў раптам, што ў Зоі можа не хапіць сіл — характар быў мацнейшы за яе.

— Хопіць!

— Пас!

Рухі ў Зоі выверапыя, дакладныя. Узлятае насустрач мячу, замах — і ўдар даганяе другі ўдар мяча аб падлогу па той бок сеткі. Адзін, другі, трэці...

Сяргей стаіць, апусціўшы рукі.

— Ну, што ж... вы? — ціха гаворыць Зоя.

Потым уздрыгвае, заўважаючы сваю мокрую футболку, адварочваецца і павольна ідзе да дзвярэй праз усю залу.

— Ты пахадзі, пахадзі! Астынь! — у голасе Сяргея гучаць загадныя трэнерскія ноткі.— Пераапранешся, прыходзь — пагаворым.

Ён ведае, што яна паслухаецца, і ўсё-ткі глядзіць услед Зоі запытальна. Потым, не спяшаючыся, збірае раскіданыя па ўсёй зале мячы, садзіцца на гімнастычную лаўку. Чакае.

Зоя вяртаецца няскора. Заходзіць ужо ў паліто, з сумкай. Наблізіўшыся, спыняецца перад ім, уся патухлая, абыякавая.

— Сядай! — спакойна гаворыць Сяргей.

Зоя працягвае стаяць, па-ранейшаму не ўздымаючы вачэй.

— Сядай, табе гавораць! — узрываецца той, ускочыўшы з месца.— Трэнер яшчэ я ці не, д'ябал на яго?

— Што вы так крычыце? — ледзь чутна вымаўляе Зоя. І Сяргей раптам разумее, што яна не прыйдзе больш на трэніроўкі, ніколі не прыйдзе. І палохаецца. Кім ён для яе тады будзе?

Ён паварочвае Зою да сябе, заўважае прыхаваныя слязінкі, бярэ ў далоні яе твар.

— Прабач! Чуеш? Ты не хочаш мне прабачыць? Я дарэмна зазлаваў тады — спадзяваўся на цябе... Відаць, каманда і не магла пакуль што абыграць фізкультурны.

Зоя маўчала. Слязінкі дрыжалі ўжо на самых вейках.

— Прабач! Я ведаю, ты не можаш без спорту. А я... я не змагу без цябе!

Зоя раптам уткнулася галавой у яго плячо і гучна, па-дзіцячы ўсхліпнула. Ён не супакойваў яе, абняўшы, проста стаяў і маўчаў і ўжо не спрабаваў схаваць шчаслівую ўзрушанасць. Хутка плач аціх, і здавалася, што гэта не яны двое, а гулкая спартыўная зала ўслухвалася ў тое, як вечар шпурляе ў высокія зарашэчаныя вокны жмені калючага лютаўскага снегу.

## *Крыўда*

Сонца чаплялася за вецце старой галінастай бярозы — не пройдзе і паўгадзіны, як яркае палотнішча зары закрые ад яго гэты замошчаны камянямі шлях, буслянку на страсе Аленінай хаты, падводу і запрэжанага ў яе шэрага ў яблыках жарабца з цёмнай адмецінай на лбе. Па праўдзе гаворачы, шэрым у яблыках яго называлі толькі па даўняй звычцы. Кароткая зваляная поўсць на ўпалых баках, змуляная, ажно ільсніцца, шыя, якую ён на працягу многіх гадоў пакорна падстаўляе пад хамут, грыва, даўно не расчэсваная — нават вецер не мог распатлаць яе, адно лена адкідваў пры кожным уздыху...

Сонца вялізным чырвоным шарам застыла на пагорку, над самым крайком поля, і скацілася за далягляд. Святло адразу нібыта загусла, кожную мінуту губляючы па некалькі яркіх ніцяў, і, ледзь крануўся зямлі прыцемак,— пачала ўсходзіць над ім першая, яшчэ цёплая зорка.

Дзень дагарэў. Можна было прыгадаць усё спачатку, з тога моманту, калі раніца Аленіным голасам гукнула каня ў зарослым яблыневым садзе і Гарун ціха заржаў, пагаджаючыся, што прыйшоў час зноў упрэгвацца ў работу. Хутка вазок ўжо ціха пагрукваў ззаду.

Пасля ночы было яшчэ зябка, хоць лужыны туману, якія Гарун старанна абыходзіў, фыркаючы і вышэй падымаючы ногі, пачыналі высыхаць. На старым пакручастым голлі, затканым жоўта-зялёна-чырвонай лістотай, цяжкімі кроплямі расы ззяла неба. Ніштo не парушала цішыні, нават пагрукванне вазка, здавалася, чулася аднекуль здалёк. Упаў, набраклы прахалодай, яблык, і ад мяккага стуку яго ціха ўздрыгнула сцежка пад нагамі, спатыкнуўся, натапырыўшы вушы, Гарун.

— Ну, чаго ты, дурненькі? — голас Алены цёплы, супакойлівы.— Гэта верасень губляе сваю ўладу. Дзень-другі — і зацыруболіць дождж, збіваючы лісце...

Алена, кінуўшы лейчыны ў вазок, ідзе зусім побач з Гаруном, зрэдку паварочвае да яго галаву.

— Апусцеў, зарос зусім сад... Адно дзеці пачаставацца і забягаюць. Выкарчаваць — рука ні ў кога не падымаецца, а даглядаць няма каму. Колькі тут нас, баб, засталося! — усюды не паспееш. Во, і цябе ж не кіну. Мужыкоў нашых вайна забрала — ужо і ў сне не прыходзяць дамоў... Маладым, калі і застаюцца ў вёсцы, трактары, машыны давай — ведама ж, вучоныя!

Яна адводзіць рукой нізка навіслую галінку, згінаецца і падымае вільготную ад расы, цяжкую антонаўку. Выцершы далонямі, нейкі момант разглядае яе, удыхаючы салодкі пах, і кладзе ў кішэню ватоўкі.

— Хутка задажджыць. Хутка ўжо. А нам з табой і па гразі давядзецца шмат яшчэ выхадзіць. Бульба

выберацца, буракі пойдуць. Капусту да маразоў хо-
піць вывозіць...— Яна памаўчала.— І ты пастарэў.
Ды мо як паціху пераробім сваю работу.

Зноў ідучы побач з канём, кранулася яго мяккай
пысы.

— Пераробім...

— З кім гэта ты гамоніш, Алена? — перастрэла
яе пытаннем Наста.— Ці не з канём?

Старая сяброўка чакала яе непадалёк ад пераезда,
дзе дарога крута паварочвала і ўздоўж чыгункі віх-
ляла па калдобінах да могільніка і далей, туды, дзе
ў нізіне, за ручаём, ужо трэці дзень рэзалі жанкі ка-
пусту.

— З Гаруном. З ім. Прывыклі за столькі гадоў
адно да аднаго і во гамонім.

— А я ўбачыла вазок — дай, думаю, пачакаю. Усё
весялей будзе. Тп-р-р!

Наста, падабраўшы спадніцу, мосціцца ў вазку,
каб ямчэй, каб мякчэй было сядзець. Запрашае
Алену:

— Сядай! Яшчэ находзішся за дзень, не мала-
духа ж...

Конь чакае і, ледзь Алена ўладкоўваецца побач з
сухенькай жвавай сяброўкай, кранаецца з месца. Па-
гойдваючыся, дарога паплыла за пухнатым воблакам,
афарбаваным першымі промнямі сонца.

— Ну, як твае? — Алена пытаецца па звычцы, не
надаючы пытанню асаблівага сэнсу.

— А што з імі зробіцца? Жывуць. Усё болей сва-
рацца.

— Сварацца?

— Ніна мая наравістая. І гэта ёй не так, і тое не
гэтак,— Наста ўсміхаецца, на маленькім зморшчаным
твары ўсміхаюцца адны вочы. А голас раптам зату-
жыў, стаў глыбокім, прыглушаным.

— Наважылася ў горад пераязджаць. Пакуль

дзеці пойдуць, кажа, трэба ў горадзе прыжыцца. Што і рабіць, дзе і якія словы шукаць, каб адгаварыць яе, не ведаю...

— Не ведаеш?!

Алена ўпусціла канцы хусткі, якую хацела тужэй сцягнуць, каб не выбіваліся пасівелыя валасы пасля, у час работы, і, забыўшыся на нейкі момант на гэты свой рух і развязаную хустку, успляснула рукамі.

— Не ведаеш?! Не пускай! Не пускай, Наста, адгаворвай. І гэтыя ў горад! Ці ж у нас блага? Ці ж няма да чаго рукі прыкласці?

— Адгаворвала...

Апусціўшы галаў, Наста прыціхла, нібы разглядвала свае лёгенькія жылістыя рукі на каленях. Потым прыхілілася плячом да гэткай жа, як і сама, пастарэлай сяброўкі.

— Адгаворвала, Алена. І сварылася, і галасіла. Га? — Яна ўздыхае.— Зяць, той нічога, не супраць, здаецца, і ў калгасе працаваць. Механікі ж патрэбны. З ім старшыня гаварыў... А Ніна заўпарцілася — у горад, і ўсё тут. Га? І чаго іх усіх у той горад прэ? Тут жа дыхаць вальней, тут жа сонейка і сустрэне і ў ноч правядзе...

— А божа ж ты мой... Мы век свой ужо дажываем на гэтай зямлі, а дзеля чаго, калі нават дзяцей сваіх не навучылі любіць яе? Скажы, Наста, хто пасля нас, як памром мы, будзе даглядаць тут усё — кароўку ў поле выганіць, бульбу пасадзіць і выбера, гной вывезе на поле? Хто?

— Нехта ж дагледзіць — есці скрозь трэба будзе. А дзеці... Хто іх, цяперашніх, ведае! Часам паглядзіш, Алена, на свае рукі, спрацаваныя, чорныя, прыгадаеш, як у дождж і спёку корпаемся мы ў зямлі, колькі чыгуноў з бульбай пацягала ў печ ды з печы, дык і падумаецца: можа, няхай хоць дзеці нашы пажывуць!

Пагойдваючыся, плыла за пухнатым воблакам дарога — конь, нікім не пануканы, ішоў і ішоў насустрач раніцы. І, забыўшыся на яго, сядзела ўсхваляваная, з расхрыстанай хусткай, бязвольна апусціўшы рукі, Алена. Як было сабраць усе балючыя думкі і знайсці адказ на сваё ж трывожнае запытанне? Нехта дагледзіць... Яно канечне. Не будзе зямля пуставаць. Але чаму тыя, хто вырас, узгадаваўся тут, так лёгка з'язджаюць адсюль, кідаюць гэтыя палі, бярэзнікі, пагоркі? Сад яблыневы травой зарос, гармоніка, як раней, не пачуеш, рэха ў маім пустым двары начуе...

Усё едуць, едуць у горад шчасце шукаць. А хіба ж яна, Алена, не шчаслівая? Хараство якое ўсюды! І стамляешся, і неспакойна часам ад думак, што сівеюць разам з ёй, а паглядзіш вакол — і адтаюць вочы, і парадуецца душа спакою. Вось каб яшчэ звінеў у хаце галасок унучкі! Дык і яе ж Косцік...

Алена ўзяла лейчыны, тузанула за іх і амаль злосна выгукнула:

— Но! Но-о!

Гарун здзіўлена павярнуў пысу, косячы вокам, і ўсё той жа роўнай хадой працягваў ісці далей. А жанчына ўжо зноў забылася на яго, доўга-доўга завязвала хустку на галаве, адчуваючы, як злёгку ўздрыгваюць пальцы.

— Няхай пажывуць, кажаш... Яны пажывуць! Лацвей ім сёння і жыць! А ты — як дажываць будзеш? Ты як — адна ў пустой, гулкай хаце? Што ты рабіць будзеш?

— Жыць буду,— ціха, амаль нячутна адгукнулася Наста.— Ты ж жывеш...

Кабеты прыціхлі, думаючы кожная пра сваё, думаючы пра адно і тое ж: пра дзяцей і іхняе незразумелае жыццё, пра старасць, якая так і не прынесла спакой, пра цяпер ужо зусім блізкія халады.

Лагчына, спусціўшыся ў якую копь прыпыніўся, цягнулася да самага гарызонта, да цёмна-сіняй стужкі лесу там, на гарызонце. Поле густа парасло лебядой — высокая, ледзь не ў рост чалавека, лебяда, здавалася, заглушыла ўсё. Што магло вырасці тут, у гэткім гушчары? Дык не! Качаны капусты былі адзін у адзін — вялізныя, важкія, ажно хрумсцелі ў руках. А тое, што часам не відаць было іншай кабеты ў лебядзе — адно голас чуваць! — толькі выклікала жарты.

— Ты ж глядзі не заблудзіся. Анюта! А як не знойдзем?

— Дык гэта ж ёй падалося, што брыгадзір у той бок пайшоў!

— Брыгадзіра і за хвост цяпер не зловіш. Як жа, чакае ён мяне! — азвалася Анюта, смяшліва хмыкнуўшы.

— А мо і чакае. Нешта ж цябе ўсё ўправа цягне...

— Нам з табой, Наста, унукаў у капусце трэба шукаць, а не брыгадзіра.

— А што, брыгадзір наш яшчэ хоць куды! Такога знайсці ў лебядзе, не пашкадуеш, мабыць. Ростам не выйшаў, нос даўгаваты, але ж затое ў лысіну як у люстэрка можна глядзецца!

Наста рагоча, бо добра ведае, што Яўген дзесьці непадалёку, там, дзе фыркае конь, цярэбячы нарыхтаваны хапок травы.

— Пасаромелася б сваіх гадоў, Наста! Вось язык бог бабе даў, не язык, а мянташка,— адгукнуўся той.— Людзі завіхаюцца, а яна...

— І я завіхаюся, Яўгенка! Словы ж бяды не чыняць. А ты ці не пакрыўдзіўся часам, га?

Смех прытаіўся ў Наставых словах, і Яўген, нібыта адчуўшы гэта, прамоўчаў. Але Насту ўжо нельга было спыніць.

— Бабы, я вось думаю: чаго гэта Цімафеіча да

нас прыставілі? П'е? Дык і мы ж можам выпіць, калі хто пачастуе, налье чарку. Сварыцца любіць? Ды любая з нас магла б яго яшчэ і павучыць, ад прыроды гэта ў нас.

— Цьфу ты! — зазлаваў Яўген, і чуваць было, як ён падаўся ў бок шляху.

Жанкі рагочуць, трымаючыся за бакі.

— Ну і Наста!

— Адбрыла дык адбрыла!

— Брыгадзір! А ўся брыгада — чатыры з паловай кабеты...

Жанчыны збіраюцца ў купку, рассаджваюцца на паасланыя мяшкі, дастаючы з кішэняў невялікія пакуначкі.

— Алена! Хадзі, з'ядзім што-якое,— гукнула Наста сяброўку.

Тая падышла, расшпільваючы ватоўку, з дакорам паглядзела на Насту.

— Пакрыўдзіла чалавека...

— Выжыве! — адрэзала Наста, пасоўваючыся, даючы ёй месца побач з сабой.— Крывы, гарбаты, п'яніца — не пра Яўгена будзе сказана! — абы мужык: глядзіш — ужо ў камандзірах ходзіць. А ўсё нашымі рукамі робіцца.

— На трактарах, па машынах яны ж сядзяць,— пярэчыць Алена.— Хапае і ім!

— Ды я ж без злосці...

Хлеб, ладныя скрылікі сала, памідорыны, галоўкі цыбулі... Ежа ва ўсіх амаль аднолькавая; елі не спяшаючыся, зрэдку перакідваючыся словамі. Жанчыны, усе у гадах, добра ведалі адна адну з маленства і прывыклі дзяліцца і рэдкай радасцю, і рэдкай нягодай. Здавалася, яны не заўважалі, як пільна ўзіраецца ў іхнія твары неба, як разгладжвае воблакі

вецер і, крапутыя яго дыханнем, калышуцца сцяблі-ны лебяды зусім побач, каля плеч, як ціха струменіц-ца сонечнае святло паўз выцвілыя іхнія позіркі. Але і тады, калі стома наваліцца цяжкім сном, сплюшч-ваючы павекі, гэты празрысты восеньскі дзень будзе калыхацца над імі, яшчэ доўга адганяць ад вокнаў цемру.

Хутка жанчыны падняліся і, стаўшы кожная ў свой рад, працягвалі работу. Раз-пораз згінаючыся да самай зямлі, сачылі, каб нож падсякаў качаны роўна, вылузваючы іх з ніжніх, шырока раскінутых лісцяў. Было відаць, як зрэдку то адна, то другая з іх вы-прамлялася, выцягвала з кішэні ці то брусок, ці то проста які зломак каменны і чыркала па ім нажом, даючы адпачыць здранцвелай спіне.

Наста памагала Алене нагрузіць падводу. Моўч-кі, у нейкім задуменні — здаецца, і не яна смяялася нядаўна! — укладвала капусту ў вазок, качан да ка-чана, нібыта вывяраючы кожны свой рух. Першая азвалася Алена:

— Думаю, думаю — а ўсё ніяк не пагаджаецца сэрца. Адны гарады застануцца на зямлі, ці што?

— Хіба нам павінна галава балець? Не мучай ты сябе, Алена. Няхай жывуць дзеці, як ведаюць. А нам... Колькі ўжо нам засталося?

Прыпыніўшы работу, Наста стаяла сцішаная, спахмурнелая і — раптам раскінула рукі, прытупну-ла нагой і нечакана пагрубелым голасам прапела:

І жыць будзем, і гуляць будзем,
А смерць прыйдзе — паміраць будзем!..

— Храбрышся ты, дзеўка,— кінула Алена, не пе-растаючы складаць качаны ў вазок.

— Не галасіць жа...— памаўчаўшы, азвалася тая.

І ўсхліпнула. І скамечаным ражком хусткі пача-ла выціраць куточкі вачэй.

— Вось твой паехаў і...— яна раптам прыкусіла язык, кароткім позіркам зачапіўшы сяброўку.

Вазок атрымаўся ладны, можна было і ехаць. Конь, прыслухоўваючыся да цішыні, пераступаў з нагі на нагу. Ужо ўзяўшы лейчыны, Алена павярнулася да Насты, загаварыла:

— Косцік піша, што расце Ірынка, ужо літары пачала запамінаць. Пяць ажно гадкоў будзе ёй заўтра...

Воз крануўся. Неяк прыгорбіўшыся, пастарэўшы, пайшла яна побач з ім. І доўга, пакуль не схавала іх лебяда, глядзела ўслед Алене Наста. Яна, як і ўсе ў вёсцы, ведала, што ўжо шмат месяцаў не піша Аленін Косця, што звялася яна, чакаючы вестачкі.

Тройчы яшчэ абярнулася Алена ў калгасны двор, дзе пад навесам усё расла груда капусты, і назад, перабраўшы рукамі дзесяткі качаноў, перадумаўшы ўсё сваё жыццё. І падвёзшы баб да пераезда, адкуль бліжэй было ў той канец вёскі, ехала цяпер адна гравейкай. Побач, за лужынамі — наліў яшчэ пазаўчора дождж, і гусі абжылі іх, гагаталі сыта, задаволена — цягнуліся платы, за якія чаплялася ўжо зноў пыльнае голле вішняку. Хаты, у гэтым канцы — усё больш новыя, пад шыферам, з вялікімі вокнамі,— узвышаліся над маладымі дрэўцамі, прыцягвалі позірк. А дзяцей было не чуваць — мала дзяцей было цяпер у вёсцы. Хіба што летам, калі прыязджалі з горада, на канікулы, на лецішча, гарадскія...

Алена ўздыхнула. Да яе не прывозілі Ірынку і ўлетку.

— Баба Алена, падвязі!

Алена, уздрыгнуўшы ад нечаканасці, паглядзела на кірпатага хлапчука. У адной кашульцы, запраўленай у штонікі, і высокіх гумавых боціках, у якіх ён

тануў, бег малы за вазком. Як гэта яна толькі зараз убачыла яго!

— Ты, відаць, Сапуноў будзеш? Угадала, нябось?

— Угу,— пацягнуў носам малодшы Сапуноў.

— А куды ж цябе падвезці?

— А хоць куды! Хоць да хаты сваёй! — І тут жа выклаў навіну: — Табе паштарка пісьмо падсунула пад дзверы...

— Пісьмо?!

Алена замітусілася, саскочыла з вазка, расшпіліла ватоўку — дыханне стала няроўным, гарачым.

— Пісьмо?! Ад Косціка?

Малы здзіўлена сцепануў плячыма. Што гэта з ёй? Ад Косціка ці не ад Косціка...

Алена дрыготкімі рукамі выцягнула з кішэні духмяную цяжкую антонаўку, працягнула яе хлапчуку, панукаючы каня.

— Но! Но!.. А яблык смачны, пакаштуй. Гэта табе за вестку. А заўтра пакатаю. Абавязкова пакатаю!

Яна дагаворвала, ужо ўскочыўшы на падводу, сцебануўшы Гаруна. Той, нібы адчуўшы, што і сапраўды трэба было спяшацца, пачаў перабіраць нагамі хутчэй.

Вось і яе двор! Алена саскочыла, кінула лейчыны на плот, подбегам, суцішваючы радасць, перабегла двор, дастала з-пад парога ключ і ўсё ніяк не магла пацэліць ім у адтуліну. Рукі не слухаліся... Калі дзверы адчыніліся, пісьмо яна ўбачыла адразу, на ходнічку. Пісьмо. З Мінска. Ад Косціка!

Не заходзячы ў хату, разарвала канверт. Літары скакалі ўваччу. «Алена Міхайлаўна...» Што гэта? Алена яшчэ раз зірнула на канверт. З Мінска. І адрас Косцеў. Нявестка піша! — здагадалася ўрэшце і пачала супакойвацца. Якая розніца, хто напісаў? У руцэ было — пісьмо.

«Алена Міхайлаўна, у Канстанціна — свая справа, адказная, у яго — пасада...»

Згадалася раптам Алене сонечная-сонечная раніца, калі было многа-многа святла — па сонцу на кожным рамонку! Калі жаўранкі заглушалі нават мяккі стук капытоў жарабя, якое, здавалася, плыло над лугам, высока ўскінуўшы пысу. І Косцік — маленькі яе Косцік! — бег за ім, ловячы ручанятамі яркія промні і жаўруковыя песні. Не канчаўся луг, не згіналіся рамонкі...

Заіржаў устрывожаны Гарун: скрозь гаспадыня раней упарадкуе яго, напоіць, адпусціць пасвіцца ў сад за калгасным дваром, а пасля — ідзе дадому... Заіржаў гучна, патрабавальна. Але Алена не чула. Яна, апусціўшыся прама на парог, усё сядзела, схіліўшы галаву на грудзі, нерухомая, безжыццёвая. На сцежцы, выпаўшы з рукі, ляжала разгорнутае пісьмо нявесткі. «Алена Міхайлаўна, у Канстанціна — свая справа, адказная, у яго — пасада. Грошы ён высылае, і немалыя, улічваючы, што вы ў вёсцы і адна. Чаго ж вам яшчэ? Жывіце сабе, колькі засталося, паціху, піце малако — у горадзе яго таксама хапае. Не можам мы вам пісаць часцей, не можам». Замест кропкі ўнізе стаяў подпіс: «Нінэль Ягораўна».

## *Нінка*

Туфлі былі зусім новыя. Вузенькія, на высокім абцасе, пад колер сукенкі — сінія-сінія, яны прыгожа, пад дробны перастук, неслі Нінку па вуліцы. Так, так. Яны менавіта і неслі — нібыта наструненымі здаваліся ногі, нібыта прыслухоўвалася ўсё

цела да лёгкіх крокаў. Шырокімі, свабоднымі складкамі калыхалася ўкруг тонкага стану шаўковая сукенка, гарэзліва час ад часу ўзляталі гнуткія рукі, папраўляючы то завіток над адкрытым ілбом, то вялікі бант, знарок гулліва завязаны на грудзях, то раменьчык сумкі на плячы. І тады на вуснах з'яўлялася ўсмешка, на пейкі момант асвятляючы твар. Хоць — божа літасцівы! — як балюча, да слёз у вачах балюча было ісці гэтак лёгка, гэтак прыгожа. Здаецца ж, доўга выбірала, прымервала туфлі, а вось — цесныя. Ці мо занадта вузкія?

Вось і інтэрнат. Дзверы грукнулі ззаду, засланяючы яе ад горада, ад цікаўных вачэй сустрэчных хлопцаў. Звыкла пашукала сваё прозвішча на канвертах, раскіданых на стале дзяжурнай.

— Добры вечар, цётка Люба!

— Дай бог табе здароўечка! Затрымалася ты. Што так? Вашы ж даўно папрыходзілі,— пільным позіркам аглядаючы дзяўчыну, пацікавілася цётка.

— Пешкі прайшлася.

— Ад фабрыкі? Гэта на такіх абцасах?!

Нінка падымалася ўжо ўверх па лесвіцы, а тая ўсё гаварыла ўслед:

— І навошта так выстрэнчвацца? На работу ж, не на гулянку ішла. Як на мае ногі...

У калідоры было пуста. За некалькі крокаў ад дзвярэй у свой пакой пачула галасы дзяўчат — дзверы былі зачынены не шчыльна. Дома! Прысланілася спіной да халоднай сцяны, скінула туфлі, з палёгкай уздыхнуўшы, пацерла перацiснутыя пальцы. Пра што гэта там Соня з Валяй?

— Я сама бачыла!

«Гэта Соня, маленькая, кругленькая. Заўсёды здаецца, што яна свеціцца ўсімі сваімі вяснушкамі...»

— Ну і што! Ну і цалавалася яна з ім! Гэта ж Нінка!

«Гэ-э... Ды гэта ж яны пра мяне!»

Яна ўжо хацела штурхнуць дзверы і нечакана для сяброўак перапыніць іх абгаворы — мала да чаго яны дагаворацца! Хацела... і не змагла адарвацца ад сцяны. З туфлямі ў руках, прыціскаючы іх да грудзей, так і засталася стаяць у калідоры.

— Дык яна ж не толькі з Косцем цалуецца, Валя! Ёй жа ўсё роўна з кім...

— А табе не ўсё роўна? — голас у Валі абыякавы, адчуваецца, што яна ведае, у якім кірунку пойдзе гаворка далей.— Няхай цалуецца, пакуль маладая.

— Але ж я люблю яго...

Стала ціха-ціха. Нінка ўсё мацней прыціскала да сябе туфлі, быццам баялася, што не ўтрымае іх,— так гулка, так адчайна білася сэрца ў грудзях. Што гэта з ёй? Трэба адчыніць дзверы, не слухаць нічога! Не адразу пазнала Валін голас.

— Ты?! Косцю? Але ж ты ніколі...

— Ніколі! Канечне! У нас жа ўсё: Нінка! Нінка! Нінка! А вы — ты! — калі-небудзь пацікавіліся, што мне баліць? Што мяне мучыць? — Соня плакала, падзіцячы шморгаючы носам.

— Дурненькая... Мы ж цябе любім, і ты гэта ведаеш. Ну чаго ты, чаго? Падумаеш, Косця! Ну, закаханы ён у Нінку, і чорт з ім! Мы табе такога жаніха знойдзем!

Чуваць было, як плакала Соня. І яшчэ... Нінка ніяк не магла ўспомніць пасля, як прагучала гэта — гучна, ціха ці мо зусім не прагучала:

— У мяне ад Косці будзе дзіця!

Дзіця!.. А як жа яна, Нінка?!

Яна не помніла, як, дзе ўссунула на ногі туфлі, як выбегла з інтэрната, абмінуўшы здзіўленыя вочы

цёткі Любы і купку незнаёмых хлопцаў ля дзвярэй, як апынулася ў скверыку, разрэзаным чыгуначным палатном на два няроўныя кліны.

Дзіця! Трэба было паспрабаваць спакойна ва ўсім разабрацца. Спакайней, спакайней! Як магло здарыцца, што яна нічога не заўважала, ні аб чым не здагадвалася? Соня — Косця — яна... Не! Так нельга. Так балюча. Балюча? Нічога, няхай пабаліць, няхай!

Нібыта спатыкнуўшыся аб нявыказаную думку, знямела. Галасы, якія спрачаліся ў ёй, гучалі цяпер ужо дзесьці далёка-далёка — рэхам дакочваліся толькі асобныя словы: «Балюча... балюча... балюча... упершыню... упершыню...» Упала ў траву, не ў траву — у свае далоні. Апякаючы твар, уціскалася ў іх усё бездапаможней і бездапаможней — нічога не хацелася ўспамінаць. Нічога! Гарачыя слязінкі скочваліся праз сашчэпленыя пальцы зусім нячутна, хоць у душы яе штосьці звінела, абрывалася, ламалася...

Косця бываў у іх і раней. А хто не бываў? Заходзілі на агеньчык, на песню, што так радніла ўсіх, завітаўшы з успамінаў пра вёсачку на Случчыне. На чай...

Косця нібыта і не вылучаўся асабліва — праўда, калючы быў увесь і занадта чуйны. Яго было чуваць нават тады, калі ён маўчаў: смяяліся вочы, рухаліся, штосьці перастаўляючы, штосьці пагладжваючы, рукі, парыпвала крэсла ці маспічына...

— Што гэта наша каралева так позна? І без кавалера?

— У кавалера — рукі занадта доўгія, за слуп зачапіўся. Так і стаіць на рагу праспекта.

Памятае, яна тады не здзівілася, сустрэўшы хлопца непадалёк ад інтэрната. Нават чамусьці парадавалася. Вечар абдымаў іх, атрасаючы на плечы святло

ліхтароў. Прахожых было мала, усё больш па двое, яны хутка зліваліся з ценямі ліп, раставалі, і толькі водгулле лёгкіх крокаў яшчэ доўга было чуваць на пустой, гулкай вуліцы.

— Я правяду?

— Навошта? Я ж — дома. Тут усё маё: вуліца, ліпы, ганак за якіх дваццаць крокаў...

— Цэлых дваццаць крокаў! Вечнасць! Ты магла б падзяліць яе са мной,— Косця смяяўся, але нейкім незнаёмым, запаволеным смехам.— Я правяду?

— Але ж мы ўжо прайшлі гэтыя дваццаць крокаў. Паглядзі!

— Сапраўды? Давай вернемся, га? Я ж не паспеў цябе разгледзець як след.

— А хіба не заўважаў раней?

Ёй падабалася гэтая няхітрая гульня ў хлопчыка і дзяўчынку.

— Заўважаў. Але табе так да твару гэты вечар. Заставайся ў ім! Я буду побач.

— Але ж позна ўжо. Мяне чакаюць...

— Чакаў я. Ідзём?

І яны пайшлі. Узяўшыся за рукі, ішлі і ішлі, абмінаючы ліхтары, не зважаючы на іх няяркае святло. Што ведаў пра яе Косця? Што ведала яна пра яго? А важным было зусім іншае: куды прывядзе іх вечар, што там — за ім? І няхай гэта ўсё яшчэ было падобна на гульню, Нінка раптам зразумела, адчула: там, за вечарам, і абрываецца сцежка, якая ідзе за ёй следам з дому, з маленства...

Яны мала гаварылі. Хоць не! — яны гаварылі ўвесь час, не вымаўляючы ніводнага слова. Гаварылі рукі, заўсёды знаходзячы адна адну ў першы ж міг сустрэчы,— гаварылі пра ўсё, што не хацелі гаварыць вусны, вочы. Вусны...

Так, цалавалася з хлопцамі Нінка і раней. Ёй нават падабалася кранацца пацалункам хлапечых губ

і пасля вырывацца з іх палону, вяртаючыся ў ледзь чутны шолах лісцяў і крокаў. Але ніколі, ніколі не заўважала яна, як аграмаднае неба, хіснуўшыся ў вачах, завальваецца за плечы, як соладка, п'янліва пахнуць у валасах зоркі, як кружляе вакол, баючыся парушыць штосьці нябачнае, цішыня. З ім, з Косцем, забывалася яна на ўсё, была то гарэзлівай, то раптам ціхманай, адкрываючы яму — і сабе! — горад, але зусім іншы горад, свой: ціхія, зарослыя вішняком завулкі, здзірванелыя, пыльныя куточкі сквераў, залітыя мазутай, звыклыя да гулу электрычак сцежкі каля самых рэек, старыя, праржавелыя капелюшы ліхтароў, што так нагадвалі карасінавыя лямпы.

Чаму блукалі яны па гарадскіх ускраінах, далёка ад яркага святла, ад людзей? Хто з іх першы зварочваў убок ад запруджанай людзьмі і машынамі вуліцы? Гэта атрымлівалася заўсёды неяк само сабой, ледзь не адразу пасля таго, як сустрэнуцца. Косця... Што ведала яна пра яго? Што ён майстар участка на маторным заводзе? Што яму дваццаць шэсць гадоў? Што вучыцца на вячэрнім аддзяленні інстытута механізацыі? Што жыве з маці? Дык і гэта не сам ён расказваў. І чаму ён пачаў бы ёй расказваць! Хіба гэта галоўнае? А калі не гэта, дык што? Тое, што не мог.

Нінка адарвалася ад зямлі, ад гарачых сваіх далоняў. Пахіснулася. Рэзкім рухам скінуўшы туфлі, падкурчыла пад сябе ногі. Паспрабавала падняць галаву, але позірк усё чапляўся за амаль нябачныя ў траве туфлі.

Усё яна пра Косцю ведала. Ведала яго рукі, крыху шурпатыя ад штодзённай работы з металам і пяшчотныя — ён любіў перабіраць яе паль-

цы ў сваіх і пасля, нечаканым рухам лёгка крапаючыся носа, запытацца:

— Ці не аба мне сумуеш?

— Аб табе.

Яна станавілася на дыбачкі і цягнулася, цягнулася да хлопца, пакуль неба, хіснуўшыся ў вачах, не завальвалася кудысьці за плечы, губляючы зоркі,— яны пасля ўсю ноч так соладка, так п'янліва пахлі ў валасах.

Нінка ведала ягоныя вочы — светлыя-светлыя азёрцы радасці: яны то смяяліся, калі Косця выгаворваў ёй за тое, што яна не хацела вяртацца дадому, то ціха свяціліся, калі ён, падхапіўшы яе на рукі, кружыўся пад чутную толькі яму адпаму музыку. То раптам пачыналі сумаваць, калі яна расказвала пра свае няхітрыя справы.

Ведала, ведала, ведала! Ён любіў яе, любіць яе! Бо што ж гэта, калі — не любоў? Няхай не сказалі яны адно аднаму гэтых слоў, не паспелі сказаць!

Нінка пагойдвалася з боку ў бок, сціскаючы далонямі галаву, нібы закалыхваючы боль. Нават не боль, думкі балючыя. Згадвала Косцю: зноў і зноў ён схіляўся над ёй — спрабуючы суцешыць, сказаць штосьці. Яна разумела цяпер: ён аберагаў яе ад яе ж часам няўрымслівых жаданняў, баяўся пакрыўдзіць, папалохаць яе сваім пачуццём — звыкаўся з пяшчотай, з асцярогай у адносінах да яе, такой неасцярожнай і гарачай. Ён...

Усё так. Нінка стомлена ўпусціла на калені рукі. Усё так. Чаму ж так балюча адгукаецца ў душы самае светлае, самае радаснае?

Соня! Балюча захлынулася яна раптам разуменнем усяго, што адбылося. Канечне ж, у гэтым справа. Соня... Маленькая, кругленькая — заўсёды здаец-

ца, што яна свеціцца ўсімі сваімі вяснушкамі. Нечакана ўсплыло даўняе-даўняе...

Соня, закрыўшы твар валасамі, плакала, раз-пораз піскліва выкрыкваючы: «Ненавіджу... Ненавіджу!» Плечкі яе трэсліся, крык быў такі жаласны, што Нінцы здалося: і яна вось-вось заплача, закрычыць. Яна пацягнула малую за рукаў.

— Ты чаго? Каго ты ненавідзіш?

Тая раптоўна сціхла, адкінуўшы валасы, баязліва, адным вокам зірнула на Нінку.

— Усіх.

— І мяне?

Соня — яна зноў хацела заплакаць — адступіла на крок.

— А ты таксама будзеш дражніць мяне: «Рыжая! рыжая!»?

— Не буду. Ты ж — не рыжая, ты... ты... сонечная! Вось якая!

Нінцы было вельмі шкада Соню, у той момант яна і не ўспомніла, што і сама неаднойчы абзывала дзяўчынку «рыжай», смеючыся над яе тоненькімі рыжымі коскамі і вяснушкамі — цэлым роем вяснушак на твары.

— Ты — сонечная! Запомні! Пойдзем, я пакажу табе свае фанцікі, у мяне іх мно-ога!

І Соня пайшла за ёй — яна паверыла ў словы гэткай жа, як сама, але прыгожай Нінкі. Паверыла і пайшла глядзець фанцікі... Пасля — пайшла за ёй у дзесяцігодку, хоць штодзень трэба было дабірацца да гарадка. Паехала за ёй у горад, паступіла на фабрыку, хоць настаўнікі раілі ёй трымаць экзамены ў інстытут...

Нінка паднялася, адшукала ў траве туфлі, паспрабавала насунуць іх і, адчуўшы боль у пальцах, не стала. З туфлямі ў адной руцэ, з сумачкай у другой

павольна пайшла ў бок інтэрната. Было, відаць, позна. Ніхто не трапляўся па дарозе. Хоць ці заўважыла б яна каго цяпер!

Над ёю, сцішанай, чужой самой сабе,— сабе той, ранейшай, шчаслівай,— цёмным глухім небам калыхалася ноч. Ноч, у якой не было ніводнай зоркі, хоць усё наўкол прапахла імі: асфальт, ліпы, вузлы правадоў, ліхтары, сцены...

Ад сцяны аддзялілася высокая постаць мужчыны. Цень ад яе спалохана кінуўся ў розныя бакі і, раскрыжаваны, застыў на тратуары.

— У кавалера — доўгія рукі і ён зачапіўся імі за слуп?

Косця! Але і паміж імі ўжо сцяна. Сцяна болю, якая ўсё расце, расце. Выставіўшы наперад рукі з туфлямі і сумачкай, Нінка зрабіла крок і — уперлася ў яе. А сцяна была цяпер ужо ўсюды, акружала яе, сціскваючы ўсё мацней і мацней. Яна зрабіла яшчэ адзін крок. Праз боль. Падсвядома. І ўперлася цяпер у Косцеў пагляд, спалоханы, пацямнелы.

— Што здарылася? — яна, напэўна, спытала гэта вельмі гучна, таму што словы пакаціліся гулкім рэхам — ад яе да яго і зноў да яе.— Здарылася... здарылася... здарылася...

— Ты любіш мяне.

— Любіш мяне... любіш мяне... любіш мяне...— зноў завохкала рэха зусім побач.

Нінка адштурхнула рукамі сцяну і зрабіла яшчэ адзін крок. І яшчэ адзін... Праз боль. Праз слёзы. Свядомасць вярталася да яе, яна пачынала разумець, што адштурхнула — Косцю. І ўздрыгнула, уздрыгнула ўсім целам, пачуўшы роспачнае, адчайнае:

— Нінка! Што ты робіш?!

Як падштурхнутая гэтымі словамі, апусціўшы галаў, ішла і ішла. І тады, калі, даганяючы,— абагнаў-

шы! — упаў перад ёй поўны горычы клік, крык: «Нінка-а!», толькі схілілася ніжэй і, не павярнуўшыся назад, у ноч, у мінулае сваё, ціха сказала:

— Я — Ніна...

## *Крык чаіцы*

Дык вось гэта і ёсць мора? Сіняя роўнядзь ажно да самага гарызонта, покуль вока можа ахапіць, з цацачнымі караблікамі там, удалечыні... Стаміўшыся, позірк пачынае чапляцца за разлапістыя галіны акацый, праз якія прасвечваюць латаныя шыферам стрэхі хатак і жывая хвалістая стужка берага — гэта ж столькі народу сабралася адусюль! Бач ты...

Незнаёмы вецер — гаркаваты пах казыча ў носе, расхрыствае пінжак, абдзімае гарачай, колкай вільгаццю. Спёка! Пятрок выцірае лоб далонню, ставіць чамадан на збіты тратуар, азіраецца. Вузкая брукаваная вуліца, сціснутая з абодвух бакоў невысокімі домікамі — тыя ляпяцца ледзь не адзін па адзін,— пакручаста віецца паўз яго, навісаючы над берагам, паволыіа абмінае скалы. Задраўшы галаву, ён бачыць, як караскаюцца ўгору па дзіўнаватых, нібыта са спілепымі верхавінамі, соснах воблакі, і ўздыхае.

Ён разумее, што гэта яго ўнутраная нездаволенасць, прыдзірлівыя думкі, якія злосна варушацца ў ім, быццам папракаючы: «Прыехаў! Убачыў!» — ад таго, што дарога ягоная сюды была доўгай, у вагоне, дзе было тлумна, горача. Ад таго, што адчуваў сябе ледзь не хворым, не ведаючы, чаго ён, больш пяцідзесяці гадоў пражыўшы на Случчыне, у лясістым куточку Беларусі, пёрся такую далячынь, у спёку і тлум. Урачы сказалі: сэрца! Але ж сэрца і ёсць сэрца,

а што падціскае часам, дык не адным жа мёдам ча-
стуе жыццё... Камандзіра свайго пахаваў, Пахо-
мыча...

Пятрок стрымаў уздых, рашуча падняў чамадан. Тлумачылі: дарога сама прывядзе, значыцца, угору... Раз-пораз кідае абыякавы позірк у бок мора, якое то хаваецца за густымі акацыямі, то асляпляе гарачым бляскам; ідзе шпарка, размеранай, упэўненай хадой, стараючыся не здзіўляцца ні шыракаполым шляпам ва ўсіх на галовах, ні кароткім, як у дзяцей, штанам, з якіх тырчалі валасатыя мужчынскія ногі, ні чужой гамонцы — не нашы, пэўна: надта ж нягеглыя, пааб-чапляныя фотаапаратамі.

Можна было б скінуць пінжак, але так зручней перакідваць з рукі ў руку даволі-такі важкі чамадан. Вуліца лезе ўгару і ўгару...

У пакоі, куды яго прывяла нізенькая круглатвара-рая сястра ў халаце, сонца расквечвала стракатыя фіранкі, і яркія, самай рознай формы плямы калыхаліся на падлозе, засланай вялікім дыванам,— Пятрок пакасіўся на свае запыленыя сандалеты,— на сцяне, на нізкім ложку каля сцяны. Ложкаў было два, і ён хмыкнуў, уявіўшы свайго суседа тоўстым, чырванатварым, у кароткіх, як у дзяцей, штанах.

— Вось тут і ўладкоўвайцеся,— сказала сястра.— Ваш ложак справа. («Той, заплямлены сонцам»,— адзначыў Пятрок.) Абед праз паўгадзіны.

І яна пайшла.

Пятрок яшчэ нейкі момант стаяў пасярэдзіне пакоя, потым, зірнуўшы на ложак суседа, паставіў чамадан, скінуў сандалеты і ў шкарпэтках — крокаў было зусім не чуваць — паставіў іх каля дзвярэй. Спрабаваў засунуць чамадан пад свой ложак, але гэта ў яго не атрымалася.

— А, сусед! — адразу ж за стукам дзвярэй загучаў хрыплаваты голас.— Здароў будзеш!

— Дзень добры! — падняўся Пятрок.— Во, халера, чамадан ніяк не прыстрою.

— А навошта яго туды? — загукаў сусед па пакоі, тоўсты, чырванатвары, у кароткіх парусінавых штанах.— У шафу стаўляй. Выцягні што трэба і стаўляй. Месца хопіць! Мяне Валерыем Віктаравічам завуць.

Заўважыўшы, што той, з кім ён гаворыць, здзіўлена разглядае яго, не кранаючыся з месца, раптам зазлаваў:

— Ну, чаго ты вочы вылупіў? Жывот адгадаваў? Дык заслужыў жа спакой — пенсіянер. І гады! Пяць з паловай дзесяткаў — не жартачкі.

— Не, я нічога,— Пятрок пачырванеў нават: сапраўды, чаго прычапіўся паглядам да чалавека? — Пятрок я. Пятрок Юркевіч. З Беларусі.

— Што з Беларусі, здагадаўся. Мова знаёмая — ваяваў там калісьці. Вызваляць вось, праўда, не давялося,— загаварыў Валерый Віктаравіч, павесіўшы на спінку крэсла ручнік.

Памаўчаў. Потым, убачыўшы, што сусед уладкаваў рэчы ў шафу, дадаў:

— Хадзем, пакажу, дзе памыцца. Не ведаеш, нябось...

Пра-цэ-ду-ры... Цьфу! І выдумалі ж слова! І так цябе павернуць, і гэтак. Ужо нашто мора многа, дык і пра мора: водныя працэдуры... Ат, гары ты! Пятрок злаваў і на дактарак, што ніяк не давалі агледзецца, абжыцца, і на сябе, лысага дурня з пуцёўкай, і нават на гэты сонечны дзень, што плёхкаўся хвалямі каля самых ног. Плюнуць няма дзе — усё людзі кругом. З-за свету панаехалі!

— Чаго гэта вы не распранаецеся, мілок? Распранайцеся, самы ж загар! — прапела зусім побач набітая тлушчам дамачка, што нібыта ўся распаўзлася на дашчаным лежаку.

— Бацька я табе, а не мілок,— агрызнуўся Пятрок і, заўважыўшы, як зморшчыла насаты твар дарадчыца, пачаў прасоўвацца ўздоўж самай вады да бетоннай сцяны, што ўразалася далёка ў ваду. Там, у ценю, было слабадней. Распрануўся, лёг прама на друз, падклаўшы апратку пад галаў, шырока раскінуў рукі. Дыхалася лёгка, а думкі варочаліся дзесьці на самым дне памяці. У калгасе хутка пачнецца жніво...

З мора дзьмуў ветрык — гарачы, ён астываў тут, у ценю, побач з Петраком, прыемна абдзімаючы ўсё цела. Лагодны знаёмы ветрык! Вунь, у паўкроку, калышацца жыта. Хоць не! Адкуль тут жыта? Вецер жа з мора...

А жыта, высокае, у пояс, калышацца зусім побач. Пятрок ужо кранае рукой важкія, налітыя зернем каласы, адчуваючы, як прыемна шчыкочуць яны далонь, раз-пораз гладзіць іх, слухае ціхі шолах — то вецер забаўляецца, прабягаючы ўздоўж поля.

Яго хтосьці гукае. Пятрок хоча азірнуцца — шыя як здранцвела. А голас ужо дзесьці збоку, за плячом — абмінае яго... Вунь! Гэта ж яго Наста! — танюткая ўся, у квяцістай сукенцы, з белай касынкай. Яна аддаляецца і аддаляецца. Пятрок напружвае ўсе сілы, вырываецца з путаў здранцвення — зямля адпускае яго! — і напрасткі, праз жыта бяжыць за Настай. Бяжыць, і з балючым хрустам ламаюцца пад нагамі каласы, чапляюцца за штаніны. Ен ужо амаль дагнаў яе!

Наста паварочваецца, і... Пятрок з жахам бачыць, што гэта не яна. Што гэта тая, набітая тлушчам да-

мачка з лежака: грудзі вылазяць з ліфчыка, да каленяў спаўзаюць цяжкія глыбокія складкі.

— Чаго ж вы не распранаецеся, мілок?

Убачыўшы, што расцякаецца яе насаты твар ва ўсмешцы, усё шырэй і шырэй, Пятрок спалохана заплюшчвае вочы і прыкрываецца далонню... І ляціць, ляціць кудысьці, як у бездань, пад страшэнны грукат і свіст. Кулі! Вакол свішчуць кулі!

Ён з палёгкай намацвае на грудзях аўтамат і прыціскаецца да дрэва. Ізноў акружылі фрыцы.

— Набрыдзь! Нелюдзі! — крычыць ён насустрач вычварным ценям, што перабягаюць з месца на месца зусім блізка, перад самымі вачыма, і націскае на гашэтку.

Лес расступаецца — да неба шугае полымя над хатай... над другой!.. над трэцяй! Гарыць вёска. Міхайлаўка яго гарыць!

Пятрок кідаецца праз патрушчаны, у чорных апалінах бульбянік насустрач агню, насустрач Ганцы, сястры сваёй, якая не плача, галосіць. А праз галашэнне — словы, што больш нагадваюць стогн:

— Во-ой, людцы! Во-ой, людцы-ы!..

Пот, ліпкі, гарачы, засціць вочы. Пятрок ужо нічога не бачыць. А страшны, амаль нечалавечы крык разрывае душу...

Прарэзліва — то набліжаючыся да берага, то зноў адлятаючы — крычыць чаіца! Прахапіўшыся, адганяючы сон, Пятрок трэ лоб і не адразу разумее, што крычыць яна, гэта бела-ружовая птушка. Нейкі момант ён нібыта ўсё яшчэ далёка адсюль, у мінулым, потым заўважае, што пабольвае рука — адляжаў, нябось, вунь як паўрэзваліся каменьчыкі ў скуру,— што ўвесь спацелы: сонца дабралася і да яго! Сочыць за чаіцай, за цяжкімі ўзмахамі крылаў, што ўсё адся-

каюць крык, а той дрыжыць у паветры, кружляе над морам, над устрывожанымі людзьмі. На дождж, ці што, крычыць? Але ж на небе ні воблачка — толькі сіні бляск і вогненны, ажно плавіцца, шар сонца.

Пятрок выкупаўся, згроб адзенне, сунуў ногі ў сандалеты і пачаў выбірацца з пляжа. Калі трохі абсох, убаку, пад самай лесвіцай, апрануўся, глянуў на гадзіннік, выняўшы яго ў кішэні: дванаццаць! Самы поўдзень. Ісці ў напоўнены спёкай пакой не хацелася, прыцягвалі хай сабе і не такія, як дома, сосны, і ён пашыбаваў, абмінаючы санаторый, угару, да лесу.

— Ты дзе ў вайну?..

Пятрок, адклаўшы газету, ужо хацеў тушыць лямпу, бо сусед заўсёды прыходзіў пазней. Ды нешта сёння не гулялася і таму. Прыйшоў. Бач ты, адразу: «Ты дзе ў вайну?..»

— Дзе? У лесе.

— Партызаніў, значыцца,— канстатаваў Валерый Віктаравіч, павольна развязваючы гальштук і разглядваючы сябе ў люстэрку.

— Ваяваў.

— А я, брат, пры абароне Масквы выбыў са строю. Рука, грудзі — навылёт! Апамятаўся на Урале. Вось так. Пакінулі на заводзе — і там мужыкі патрэбны былі. Прыкіпеў да зямлі ўральскай і цяпер там жыву.

— А я — конюхам ў Міхайлаўцы. У вёсцы.

Мабыць, смешна было шкадаваць гэтага дагледжанага, упэўненага ў сабе чалавека, а Петраку раптам стала шкада Валерыя Віктаравіча — надта ж сумныя вочы ў таго былі сёння. Прыгадалася мо што... Ён адчуў сімпатыю да свайго суседа.

— Я і на трактар садзіўся — баразна роўна бегла ззаду, ды з коньмі ямчэй за ўсё. Прывык. Куды я без

іх! Ніяк не магу пагадзіцца, што ўжо не патрэбны яны ў сённяшняй гаспадарцы. Калгасы на сабе выцягнулі — і непатрэбнымі сталі? Не! Я — конюхам...

Памаўчаў.

— А ў вайну? Хапіла ўсяго... Што ж успамінаць цяпер!

Пятрок адкінуў прасціну, абапёрся на локаць, закурыў.

— Успамінаецца...— Валерый Віктаравіч шырэй адхінуў штору, пагайдаў на далоні, нібы ўзважваючы, пачак «Прымы».— Ты куры, куры! На мяне не пазірай — дактары забаранілі.

Са шкадаваннем адклаў цыгарэты, апусціўся ў крэсла.

— Знаёмага сустрэў. Сябравалі калісьці. З вайны лейтэнантам прыйшоў, усе грудзі медалямі завешаны. Тры ордэны... Ат, дай цыгарэту!

Пятрок сеў на ложку, чыркануў запалкай, узіраючыся ў твар суседа, загаварыў:

— Сустрэліся, і добра. І добра. Са шмат кім ужо ніколі не сустрэцца... Даўно не бачыліся? З сябрам-то?

— Даўно. Ледзь пазнаў.— Валерый Віктаравіч адкашляўся, зноў прагна зацягнуўся дымам.— Які мужык быў! Ты і ўявіць сабе не можаш. Не склалася жыццё... Паношаны ўвесь нейкі, пакамечаны. Мармыча: спіўся, брат, у горле дзярэ... дай на бутэльку... Не склалася!

— Пячэ нешта.

Мужчыны моўчкі курылі, глядзелі ў цёмны правал акна.

— Вось ты кажаш: не ўспамінаць... Косці перабітыя дасюль баляць — колькі год мінула! А душа? Калі ў душы штосьці надламалася? — загаварыў зноў Валерый Віктаравіч.— Вось і Федзька! — на вайну простым сантэхнікам пайшоў, прыйшоў героем. Квет-

кі, пацалункі, слава на ўсю акругу. Ключ гаечны з рук выпадаў. Яму б вучыцца — сям'я, дзеці пайшлі. Трэба было з дня ў дзень працаваць. Працаваў тэхнікам. На пральні, здаецца. І сарваўся... Вып'е — успамінае. Усё ваюе!

— Сваю работу не любіў,— спахмурнеў Пятрок.— Ваюе... А хоць і на вайне! І там — работа. На крайку смерці работа. Падрыўніком я быў. Ордэн далі за мост падарваны... Ды лепш бы я два такія масты сам, сваімі рукамі пабудаваў, чым дасюль абломкі яго са сноў выбіраць! А тэхнікам што ж... Каля машын, як каля коней, хадзіць трэба.

— Ордэн, кажаш? — Валерый Віктаравіч закашляўся. Цыгарка патухла, а ён, не заўважаючы, усё пастукваў ёй аб край попельніцы.— А за работу... работу конюха табе ордэн далі?

— Не. Мне за яе грошы плацілі. Раней — меней. Цяпер, калі ўсім палегчала,— болей.

— А Федзьку не грошы былі патрэбны...

Пятрок раптам зазлаваў, пачаў шумна ўладкоўвацца на ложку. Разгаварыліся!.. Збоку зірнуў на суседа, які ўсё страсаў попел з патухлай цыгаркі, хоць, здавалася, даўно ўжо забыўся на яе.

— Ды кладзіся ты!

Валерый Віктаравіч паслухмяна скамячыў цыгарку і патушыў лямпу.

— І хапала табе?

— Чаго?

— Грошай.

— Вось ты пра што! — заварочаўся Пятрок, прыслухоўваючыся, як парыпваюць спружыны.— Мо і не хапала часам. Але ж трох сыноў на ногі паставіў, і хата — новая, пад шыферам... Колькі мог калгас плаціць, столькі плаціў.

Сусед прыціх. Мо заснуў. Спрабаваў заснуць і Пятрок, але яшчэ доўга праляжаў з заплюшчанымі

вачыма — згадваліся то Наста, то самы меншы, Стась, то доўгая вясковая вуліца, абсаджаная вішняком. У грудзях — дзесьці глыбока-глыбока! — ныла вайна...

Мінуў дзень, канчаўся другі, завяршаючы тыдзень. Выхадзіўшы іх, як кажуць, удоўж і ўпоперак,— прапускаў і працэдуры і час абеду,— Пятрок рашуча выцягнуў з шафы чамадан і пачаў збіраць рэчы. Папраўдзе, дык што там было асабліва збіраць? Шмат чаго з таго, што клала ў дарогу Наста, так і праляжала ў чамадане. Ручнік, вышываная кашуля, шчотка...

— Ты чаго гэта чамадан вывалак? Спатрэбілася што? Ці так, засумаваў? Вячэра ж хутка,— сусед кінуў кашулю на ложак, узяў ручнік.

— Ды не хачу я есці! — не падняў Пятрок вачэй.— Дадому еду.

— Дадому?!

Валерый Віктаравіч на міг застыў каля дзвярэй, потым грузна павярнуўся, задыхнуўшыся ад цяжкага гарачага маўчання.

— Дадому? Ты што, звар'яцеў? Такую дарогу праехаўшы... У цябе ж яшчэ больш двух тыдняў наперадзе!

— Паеду.

— Мо здарылася што?

— Чаіца ўсё крычыць...

— Чаіца? Пры чым тут чаіца? Чайкі заўсёды крычаць, на тое яны і чайкі.

Шчоўкнуў замок чамадана. Пятрок падняўся, абвёў позіркам пакой, працягнуў Валерыю Віктаравічу руку.

— Паеду я. З усімі развітаўся...

— Чакай! — спрабаваў спыніць яго той.

— Убачыш Федзьку свайго, скажы: не ён адзін ваяваў. Ат! Будзь здароў!

Пятрок ірвануў на сябе дзверы і, чапляючыся за іх чамаданам, памкнуўся прэч. Калідор, лесвіца, дарожка, пасыпаная друзам... Ішоў хутка, не ўціраючы пот з ілба. Больш двух тыдняў не дабыў? А што, яго прывязалі тут?!

Сястра, Ганка, прасіла дроў пасобіць. Хто ж ёй пасобіць? А ён дасюль не сабраўся...

Ішоў хутка, нібыта баяўся спазніцца на цягнік, што адыходзіў толькі праз тры гадзіны, раз-пораз пазіраючы ўгору, у неба, дзе, устрывожаная чымсьці, крычала чаіца.

## *Сінія яблыкі*

Верасень выдаўся лагодным, сонечным. Цэлымі днямі сады купаліся ў сонцы, і таму, нават калі яно танула ў гарачых прыцемках, старыя яблыні яшчэ доўга свяціліся афарбаванай ім лістотай і буйнымі, адзін у адзін, чырванабокімі яблыкамі. Нібыта пазалочанай промнямі лістотай і буйнымі, адзін у адзін, чырванабокімі яблыкамі — на пакручаных, абымшэлых галінах...

Вяруңька не магла назваць колер яблыкаў, той увесь час мяняўся: ад цёплага-цёплага ружовага — калі пагойдваліся яны на сонечных праменьчыках, да таямніча-невядомага з няўлоўнымі сінімі пражылкамі — калі лісцямі загароджваў ад іх святло вецер. Яна і не шукала назвы, проста ёй было добра тут, сярод старых яблынь — не помніла іх іншымі, не ўяўляла. Ёй было добра тут заўсёды — і адной, і з Лявонкам, які часта прычэпліваўся за ёй ад самай

школы. Яна не гукала яго. Ніводненькага разу! Але і не прагапяла. Не прагапяла нават тады, калі малеча крычала ўслед: «Цілі-цілі-цеста, жаніх і нявеста! Цілі-цілі-цеста...» Ну, які жаніх быў Лявонка? Вечна шморгаў носам і запіхваў пад рэмень занадта кароткую сацінавую кашулю — нос жа ўсё роўна заставаўся кірпатым, а кашуля вытыркалася то ззаду, то спераду. Ды і хіба бываюць жаніхі ў чацвёртым класе?

— Ты смелая!

— Смелая. А ты?

— Не-е... Зноў будуць лупцаваць дома.

— За двойку?

— І за двойку...

Яны ішлі, пакінуўшы дзесьці збоку сцежку, воддаль адно ад аднаго. Спынялася дзяўчынка, каб дакрануцца да шурпатага камля яблыні ці падняць мяккі, даспелы яблык з травы, спыняўся і яе праважаты — шморгаў носам, упарта папраўляў кашулю. І зноў яны ішлі ў бок пагорка, за які заўсёды садзілася сонца, каб адкрыўся вачам неабсяжны прасцяг ажно да самае Пцічы. Вярунька штовечар прыходзіла сюды, хоць наўрад ці змагла б растлумачыць чаму. Вабілі яе тыя далячыні за рэчкай — добра, што дзень не канчаўся з апошнім урокам, што ён гукаў яе, абяцаючы шмат іншых сонечных дзён, дорачы ёй гэтыя яркія пёркі заходу.

— А ты таксама атрымаеш двойку,— усеўшыся за некалькі крокаў ад яе, сумна сказаў Лявонка.

— Я?

— Ты намалявала сінія-сінія яблыкі...

— Падумаеш!

— А сінія яблыкі — не бываюць.

— Бываюць! Бываюць! — застукала далонямі па партфелю Вярунька.

— А ты бачыла?

— Не бачыла. Але абавязкова ўбачу. Абавязкова!

Яна ўскочыла на ногі, замахала рукамі, атрэсваючы спаднічку, і падхапіла партфель, і пабегла, пабегла ўніз з пагорка — ці гэта яблыні беглі ёй насустрач, чапляючыся адна за адну цяжкімі галінамі?

Вяруньцы зусім і не хацелася вяртацца дадому, але як гэта: «сінія яблыкі не бываюць»? Бываюць! На зямлі ўсё павінна быць. Мала чаго яны з Лявонкам не заўважалі, не ўбачылі дасюль...

Бег яе запавольваўся і запавольваўся, у двор яна ўжо ўваходзіла, ледзьве перастаўляючы ногі, прыгадалася, што сёння — субота. Зноў гэтая субота! Вярунька паставіла ля дрывотні партфель, наведалася ў свой невялікі кветнік у палісадніку, дзе раскашаваліся белыя астры, пакорпалася каля іх, пагладжваючы пяшчотныя сонныя пялёсткі. Пасля пагаманіла з Булькам, які лена памахваў хвастом на яе ціхія словы. Прайшла ў гарод, доўга стаяла там, назірала, як цямнее неба, усё ніжэй і ніжэй апускаючыся — ледзь не на самую страху хаты. Хутка высыплюць зоркі!

Трэба было ісці дамоў. Вярунька адарвала позірк ад неба і, нібыта цярэбячы сцежку паперадзе, ужо ў поцемках пайшла назад. Ад ганка вярнулася па партфель. Акно свяцілася — свяцілася неяк трывожна, раз-пораз перакрэсліваў яго невыразны за фіранкай цень. Цені.

Пазіраючы на акно, не рашаючыся ступіць на ганак, Вярунька балюча адчувала, што не разумее, не можа зразумець, чаму ў тым дарослым свеце ўсё так складана, так заблытана. Чаму там можна сварыцца — зусім не так, як яны з Лявонкам! — знаходзячы самыя непрыгожыя словы? Чаму там трэба піць па выхадных днях і ў святы гарэлку, калі можна пайсці ў сад ці на луг — далёка-далёка — да самай ракі? Чаму так цяжка дарослым кожны-кожны дзень быць справядлівымі, быць добрымі?

Яна, відаць, таксама станавілася дарослай — вось жа не хацела ісці ў хату, хоць любіла ўсё-ўсё дома: і ціхае парыпванне маснічын, і старыя, пажаўцелыя фотаздымкі ў рамцы на сцяне, і вышываныя мамай ручнікі, і цяжкі дубовы стол, які выглядаў такім магутным, непахісным, асабліва побач з новенькімі, абабітымі стракатай тканінай крэсламі...

Вярунька ўздыхнула, перахілілася праз нізенькі плот і зламала некалькі кветак — маме!

Адкрыла дзверы, пераступіла парог і, не адпускаючы клямку, спынілася — спыніў бацькаў голас. Словы, грубыя, гвалтуючы слых, здавалася, адскоквалі ад Вяруңькі, разбіваліся аб сцены, аб столь, аб падлогу, цяжкімі, калючымі асколкамі сыпаліся і сыпаліся вакол — яна не магла зрабіць ніводнага кроку. Слёзы набеглі на вочы і застылі каля самых павек — нічога нельга было разгледзець напэўна; усё кружылася, плыло, хісталася.

— Вярунька! — кінулася да малой маці.— Вось бачыш...

Дагаварыць яна не паспела. Бацька — не, гэта быў не яе бацька! бацька не зрабіў бы так! — учапіўся за яе, захлынуўся крыкам:

— Што-о? Гэтак ты мяне слухаеш? Гэтак?

— Пусці маму! Ты... ты... ты напіўся!

Слёзы нарэшце выліліся з вачэй і пакаціліся па шчоках. Вярунька, як падштурхнутая кімсьці, адарвалася ад дзвярэй, дабегла, уціснулася паміж ім і маці. Яна дрыжэла ўсім целам, а калаціла, калаціла кулачкамі ў бацькавы грудзі. Як праз сон пачула, што загаласіла маці...

Вярнуў яе ў хату, запоўненую лямантам, боль. Адкінутая занадта рэзкім узмахам рукі — нібыта не бачыў яе бацька! — упала, стукнулася плячом аб па-

рог. Хіснуўшыся, знерухомела люстра. Вярунька ўбачыла маці — матчын твар, перакошаны болем, рукі яе, узнятыя над галавой, у якіх...

— Не-е! — закрычала яна, не пазнаючы свой голас.— Не-е!! Не трэба!

Тонка-тонка зазвінела аконнае шкло. Застыла з узнятымі рукамі маці. І раптоўна, цверазеючы ад гэтага крыку, пачаў асядаць на падлогу, дзе валяліся партфель і патрушчаныя, нежывыя кветкі, бацька. Вярунька, заплюшчыўшы вочы, усё роўна бачыла іх да болю выразна. Заціснула вочы далонямі, кінулася ў дзверы, адчуўшы, што зараз усё парушыцца, усё знікне, застанецца толькі вось гэты яе страх — і яна ніколі больш не зможа абрадавацца мамінай песні, што так весела тчэцца са знаёмых, але такіх незвычайных слоў, свістульцы ў руках бацькі, дотыку яго калючай шчакі, яго пяшчотнаму: «Вярунька — вярэнька, шпачок мой маленькі...»

Сад сустрэў яе ціхім ласкавым шэптам. Але ён размаўляў з ветрам, не з ёй, і Вярунька ўсё ніяк не магла знайсці прытулак для сваіх думак, ніяк не магла спыніцца, усё кружляла, кружляла між яблынь, уздрыгваючы кожны раз ад дотыку галіны да пляча. Чужая яна была зараз і гэтаму вечару, і мудрым ад пражытых гадоў дрэвам, і яркаму, занадта яркаму небу над галавой. Знямогшыся, упала там, дзе спатыкнулася аб спілаваную вясной, ужо ссохлую галіну. Адштурхнула яе нагой і ўпала на цёплы яшчэ пагорак, сцялася ў пругкі балючы камячок і знерухомела. Ціха дыхала зямля, шапталася лісце, саслізгвалі па промнях, апускаючы іх у траву, зоркі — Вярунька нічога не заўважала. Яна не заснула, не! Яна проста не магла прывесці крыўду сюды, расказаць пра яе, няхай нават толькі вачыма, поўнымі слёз.

Прыціскаючыся тварам да духмянай, крыху прывялай травы, Вярунька спрабавала вярнуць іншы вечар — той, раней, калі яшчэ свяціла сонца, калі яна, Вярунька, спяшалася — хоць позіркам! — сустрэцца з далячынямі за Пціччу, калі можна было лёгка назбіраць на траве каляровых пёркаў заходу. Вунь яны якія яркія!..

Раптоўна ўбачыла Лявонку. Зусім побач, за некалькі крокаў ад сябе. Той ніяк не мог злавіць край кашулі — вецер кожны раз вырываў яго з рук. Толькі ўхопіць яго Лявонка, а кашуля — зноў пузыром, а вецер зноў дражніцца. Убачыла — і засмяялася. І загукала:

— Лявонка! Лявонка! Гэта ж з табой вецер гуляецца.

— А няхай!

— Лявонка, злаві вецер — ён нас пагушкае.

— А ты ніколі болей не будзеш плакаць?

— Не буду. Бачыш, я смяюся...

А смех раптам рассыпаўся па траве дробненькімі-дробненькімі срэбнымі кропелькамі. Вярунька кінулася іх збіраць, а кропелькі пачалі расці, расці. Хутка ўжо ўвесь пагорак быў пакрыты... яблыкамі. Так, так, яблыкамі! І яблыкі ўсё падалі, падалі аднекуль зверху, буйныя, наскрозь прасвечаныя гарачым ззяннем неба, хоць, здаецца, і падаць ужо не было куды. Цэлая гара яблыкаў! Ужо не відаць было ні Лявонкі, ні старых яблынь. І тады яна пабегла. Але не ў бок хаты сваёй, а ў бок рэчкі, насустрач незнаёмай далячыні. Пабегла, узмахваючы рукамі, як крыламі, і гара таксама рушыла за ёй — яблыкі раскаціліся, заскакалі побач, наперадзе, абганяючы яе.

— Вярунька! Вяру-унька-а!

Спынілася. Азірнулася. Гукаў бацька. Ён стаяў непадалёку, высокі, у вышыванай кашулі, і працягваў ёй новую свістульку. Вярунька хацела падбегчы

да яго, расказаць пра Лявонку і пра гару яблыкаў і пра далячыні за Пціччу, але ногі чамусьці не слухаліся, як па крузе вадзілі яе вакол бацькі, ні на крок не набліжаючы.

— Адкуль ты ведаў, што я тут?

— Ведаў.

— Адкуль? Адкуль? Лявонка сказаў?

— Не. Хіба можна ў твайго Лявонкі што-небудзь дапытацца? Вецер на вуха шапнуў...

— Хітранькі! Ты ж у хаце быў.

— Быў. А вецер стукнуў у шыбіну, я выйшаў, і ён расказаў мне ўсё.

— Што — усё? Што? — спалохалася Вярунька, раптам успомніўшы, як хіснулася і застыла нерухома люстра над маці.

Спалохалася, а побач ужо нікога не было, яна адна сядзела на сухой калодзе, што каля калгаснай канюшні. Нікога не было, нікога-нікога! І ўсё-ткі нехта цягучым салодкім голасам паўтараў і паўтараў адно і тое ж:

— Вазьмі альбом і алоўкі! Вазьмі альбом і алоўкі!

Вярунька памацала рукой вакол сябе і знайшла альбом — свой школьны альбом! — і карабок з алоўкамі. Хто гэта ёй камандаваў?

— Узяла? Слухай мяне ўважліва. Ты — у чароўным царстве...

Вярунька агледзелася і хмыкнула: канюшня — справа, далей — хата дзядзькі Ахрэма і ліпа з буслянкай, за ёй — праз шэсць хат — і іхняя хата, і сад. У чароўным царстве!

— Ты — у чароўным царстве і ўрасцеш у гэтую калоду, калі не зможаш намаляваць усё, што цябе акружае, такім, якое яно ёсць. Якое ёсць!

— Раскамандаваўся! — зазлавала Вярунька.

Ёй ужо даўно трэба было быць дома, а яна казкі

слухае... Паспрабавала саскочыць з калоды, адчула: трымае. Тузанулася раз, другі. Што гэта?

— Малюй усё, што цябе акружае, такім, якое яно ёсць! Малюй усё, што цябе акружае...— ізноў загучаў у ёй цягучы салодкі голас.

А што! Можна было паспрабаваць намаляваць. Вяруньцы зусім не было страшна. Маляваць яна любіла, а альбом і алоўкі — пад рукамі. Схіліўшыся, яна пачала работу, здзіўляючыся, як лёгка ўзнікалі на белым аркушы хаты з высокімі бляшанымі стрэхамі, калодзеж, нядаўна апусцелая буслянка, сад, што ўзбіраецца на пагорак. Сад атрымаўся самы прыгожы — яблыні дружна цягнуліся ўгору галінамі, абвешанымі буйнымі, наскрозь прасвечанымі сонцам яблыкамі...

— А сінія яблыкі не бываюць.

— Бываюць! Бываюць! — затузалася на калодзе Вярунька, адмахваючыся абедзвюма рукамі ад непрыемнага голасу.— Бы-ваюць!

— Вярунька, донечка, што ты? Што ты? Гэта ж я... Ты заснула і ўбачыла штосьці і, відаць, непрыемнае ў сне...

Вярунька пазнала мамін голас, пазнала рукі, што перабіралі яе валасы, прапускаючы між пальцаў тоненькія пасмачкі,— рукі пахлі хлебам, зерняткамі кмену, малаком і яшчэ чымсьці няўлоўным, родным, маміным! Здагадалася, што ляжыць у маці на каленях — не, паклаўшы на яе калені галаву, і гэта ўжо не сон — мама сапраўды знайшла яе ў садзе, у гэтым бяздонным вечары. На душы было ціха-ціха, і Вярунька зажмурылася яшчэ мацней — толькі б заставалася з ёй гэтая цішыня! І мама!

Маці адчула, што малая ўжо не спіць, але па-ранейшаму, усё гэтак жа нетаропка, пяшчотнымі дотыкамі пагладжвала — перабірала яе валасы, па-ранейшаму гаварыла мякка, быццам для самой сябе:

— Ты дужа не асуджай бацьку, добра? Бацька ж твой! Ты ж ведаеш, раніцой ён будзе плакаць, рукі нам цалаваць. Вайна ўсё... Такім, як ты, маленькім адзін у вайну застаўся — на вачах маці загінула, у агні згарэла, а ён памагчы ёй нічым не мог... Пакуль яшчэ ў дзіцячы дом трапіў! Усяго нацярпеўся. Ты дужа не асуджай яго, дачушка. Гэта ж ён, як вып'е, такі...

Ціха-ціха было ў садзе. Зямля спала, і, цяпер ужо халаднаватае, дыханне яе было глыбокім, роўным — ні травінка не шалахнулася, ні лісток не здрыгануўся. Толькі аднекуль — глыбокі роўны звон! У ім, ледзь прагучаўшы, танулі словы.

— Ты хутка вырасцеш, Вяруня, і зразумееш, што трэба ўмець і дараваць, калі любіш каго, калі хочаш яму памагчы. Калі хочаш яму дабра...

Ціха-ціха было ў садзе. І ў душы ў Вяруні.

— Ты хутка вырасцеш, Вяруня, і будзеш прыгожая. Прыгожая і гэткая ж добрая, як цяпер. Усе людзі некалі будуць прыгожымі і добрымі!

— Чаму? — Вяруня мацней прыціснулася да маці.

— Чаму? Таму што мы жывём на прыгожай зямлі. Нам нельга інакш.

— Мама, а на зямлі сінія яблыкі бываюць?

— Сінія? — у голасе маці не было ніякага здзіўлення, проста перапытала.— А ты расплюшчы вочы, устань і паглядзі. Мы ж — у садзе.

Вяруня адарвалася ад матчыных каленяў, расплюшчыла адно вока, потым другое — і ад захаплення, ад нечаканасці ўскочыла на ногі. У яе перахапіла дыханне. Яблыні, разыходзячыся ад яе дзівосным веерам, прыкрывалі далягляд, і неба, і месяц на небе. І на галінах — многа-многа! — нерухома віселі сінія яблыкі. Усе галіны былі ўвешаны імі, вялікімі, празрыста сінімі ў сінім паветры.

— Я ведала! Я ведала! — запляскала ў далоні Вярунька.

Яна бегала ад яблыні да яблыні, кранаючы рукой яблыкі,— ёй здавалася, што яна нават чула, як яблыкі тоненька вызвоньвалі ад дотыку. Азіраючыся на маці, прыспешвала яе — паглядзець, падзівіцца разам з ёй. Вярунька адчувала сябе ў гэты момант такой шчаслівай, што ёй немагчыма было ўтрымаць у сабе ўсё шчасце, не падзяліцца ім. Схапіла маці за руку, даверліва прыціснулася да яе і шапнула:

— Пойдзем, мама, я пакажу табе раку і далячыні — там, за пагоркам...

## *Падабраны нож*

У кожнай гульні ёсць правілы. Помніце, лавіткі... Складваецца ў некалькі столак шалік, ім, калі давядзецца табе вадзіць, завязваюць вочы, і ты пачынаеш кідацца то ў адзін бок, то ў другі, натыкаючыся на кожны шолах, на смех, на паветра.

Дзіўна, але аднойчы, згледзеўшы пажоўклае лісце на дрэве позняй, мо апошняй сваёй восені, раптам заўважаеш, што так і пражыла дзесьці зусім побач са шчасцем — з тым дзіцячым, ружовым ад цяпла шалікам на вачах.

Пэўна ж, ні ў якім разе не бяруся сцвярджаць, што цяпер, перажыўшы, як я часам жартую, нават свае гады, я ведаю, якое яно, шчасце. Не ведаю. Мо і не трэба гэтага ведаць? Гордых яно любіць. І каб кожны чалавек умеў быць гордым...

Не, не! Не думайце, што зараз, прызнаўшыся, што пражыла на свеце нямала гадоў, я пачну ў нечым вас пераконваць, азірацца на ўласнае жыццё, кожны

раз знаходзячы там пераканаўчыя прыклады. Ну, якія прыклады ў маім адзінокім жыцці! Радавалі ў ім толькі дзеці — кожныя чатыры гады прыходзілі яны да мяне ў клас, заўсёды ў чымсьці іншыя, чым іх папярэднікі, заўсёды аднолькава няўрымслівыя, цікаўныя. Адно, што так і не пастарэла сярод іх, маленькіх, вясёлых гарлапанаў, сярод іх шумных радасцей і бяскрыўдных драм. Не пастарэла.

Здавалася б, і быць такога не можа, а зірну ў люстэрка — і вось яна я! Цяжкая русая каса ўкруг галавы, мяккі, злёгку падсінены позірк вялікіх, няправільна пасаджаных вачэй, суніцамі падмаляваныя губы. Не прыгажуня. Але і ростам выйшла і тварам. І да работы рукі ляжалі. Вось толькі гордай не была. Па шчырасці, дык і не ведала маладой, як гэта — быць гордай? Фанабэрлівай была ў нас Гэля Зміткова. Змітрок быў мужык учэпісты, свайго не ўпусціць. А дачушка адна. Вось і стрэнчыў ёй — у зрэбных спадніцах не хадзіла. Шавіёт ажно з горада вёз... Сёння ўжо і згадваць смешна: шавіёт! А тады — ого! То ў адной спадніцы крутанецца перад хлопцамі, то ў другой. А мы ў бок той і не глядзім. Паскідаем лапці ў закутак, каб дома не сварыліся, што на гулянках стоптваем, і гармонік за намі не паспявае — адно пяткі мільгаюць!

Ды і навошта была яна, тая гордасць, мне, вясковай дзяўчыне? Змалку мы сваіх хлопцаў ведалі — не гэткае ўжо вялікае поле за вёскай, каб, ведучы каня ўздоўж сваёй баразны, вачыма ні з кім не сустрэцца. Не гэткія ўжо лугі за Пціччу, каб у сенакос не выкупацца гуртом — далёка чуваць быў вясёлы смех. І стамляліся ж, па сабе ведаю. Работы хапала, а ўсё ў вольную хвіліну дома нельга ўседзець. Ці ўзрост такі быў? Ці час надышоў — кахацца? Двойчы ў дзень стала я касу часаць і ўкладваць вакол галавы цяжкой каронай. Крадком ад маці грэла цвік над

лямпай і закручвала тонкія пасмы валасоў каля вушэй, каб віліся, каб прыгожа спадалі ўздоўж твару. Да зорак стала прыглядацца...

Вось тады і з'явілася яна. Кася. Высокая, танклявая, у палатнянай сукенцы, сшытай гарадской майстрыхай, і вузкіх чаравічках, дзяўчына нам адразу здалася чужой — тут, у вёсцы, да стрэхаў зарослай канаплямі. Маці яе, Алену, малодшую дачку кульгавага Сёмчыка, што памёр колькі год таму, вёска помніла. Тая скруцілася некалі з заезджым купцом, шаснаццаці вёснаў не налічыўшы. Ды і не купец то быў — так, мяняў сёе-тое... Праўда, Сёмчыха жывая яшчэ была, корпалася пацíху ў гародзе.

Так, Касяй яе звалі. Помню, я зайздросціла ёй. Да слёз у вачах зайздросціла. Спачатку — лёгкай сукенцы з прыгожым каўнерыкам, які адварочваўся і адкрываў шыю, сукенцы са складкамі, што спадалі ўздоўж цела, няўлоўным рухам адказваючы на кожны Касін рух, на кожны крок. Усе нашы пазіралі на гэты ўбор, нібы прымяралі яго на сябе,— і марыць пра гэткае было боязна.

Дні стаялі высокія, колькі там часу заставалася да жніва — а трэба ж было накасіць які стажок і ў Мар'інскіх балотах. Вёска пусцела, кінулі і мы хату на бабку Сцепаніду...

Надзел наш не сказаць каб і вялікі. Але ж і касцоў, як суседзі жартавалі, усяго паўтара: бацька ды Міколка трынаццацігадовы. Маці занядужала, хапіла работы і мне. Але ўправіліся не горш, чым іншыя. Ладны стог сена, пакрыты зверху маладымі бярэзінамі, асядлаў пагорак. Ды і воз быў ладны, сама лягчаць па ім, закінуўшы рукі за галаў, і разглядаць воблакі. Вунь іх колькі плыло, ружовых, афарбаваных сонцам! Ці гэта вецер нёс іх, ціха пагойдваючы над выбоінамі?..

— Но-о! Цягнешся! — выгукнуў бацька.

Я перавярнулася на жывот, падперла шчокі рукамі і, удыхаючы гарачы пах сена, пачала выглядаць дарогу. Балота канчалася. Вада больш не хлюпала пад коламі. Часцей сталі трапляцца галінастыя алешыны. А хутка ўбачыла я і некага з аднавяскоўцаў. Жанчыну. Тая сядзела на зямлі, далёка ўперад выцягнуўшы ногі. Крыху нахіліўшыся, яна завязвала хустку. Корпалася доўга — рукі, відаць, кепска слухаліся. Бацька першы пазнаў Сёмчыху.

— Цётка Ганна, добры вечар! — прыўзняў ён шапку.

— Добры вечар, добры...— заківала старая.— Гэта ты, Іван? Відаць, скончылі работу.

— Скончылі, дзякуй богу.

Бацька прытрымаў коней.

— А вы чаго тут, цётка? Ці ж сын з нявесткай самі не ўправіліся б?

Сёмчыха, склаўшы рукі на каленях, адказала не адразу, доўгім позіркам углядваючыся ў бацьку.

— Яно-то ўправіліся б, Іван. А і мне ж яшчэ хочацца пабыць там, дзе людзі. І не вартая больш ні на што — які з мяне работнік! — а ўсё з людзьмі лягчэй. Ды і за ўнучку боязна. Што, як пакрыўдзіць хто захоча? Гордая яна ў нас.

І я раптам адчула, як загараюцца хваляваннем шчокі, і здалося: звініць у вушах цішыня, заглушаючы ўсе гукі навокал. Сюды ішла Кася. Гэта была яна, яе нельга было зблытаць з кім-небудзь з нашых, хоць цяпер на ёй была гэткая ж апратка, яшчэ і не падагнаная — цётка ж жанчына мажная, спадніца двойчы абярнула дзявочы стан Касі. Яна ішла вельмі прама, высока несучы галаву.

— Добры вечар!

Дапытлівы позірк у наш бок.

— Бабуля, нас чакаюць!

Лёгкі, няўлоўны дотык рукі да пляча старой. На

момант напружылася ўся постаць — Кася памагала Сёмчысе ўстаць. І зноў свеціцца ўсмешка ў светлых, колеру неба вачах.

— Затрымала я цябе, Іван. Едзь. Хай табе бог скрозь памагае! — пажадала Сёмчыха і выцерла ражком хусткі вочы.— Хадзем, унучка, хадзем!

— Бывай здарова, цётка! — абярнуўся бацька, паганяючы коней.

Азірнулася і я і доўга-доўга глядзела назад, дзе даўно ўжо нікога не было відаць — толькі звілісты след колаў раставаў і раставаў удалечы.

Я і зараз гляджу назад, нібы аднаўляючы ў памяці той далёкі даваенны год. Шмат што забылася. Забылася назаўсёды. І толькі тое, што звязана з Касяй, з яе частымі тады прыездамі, яркімі малюнкамі захоўвае памяць дасюль. Яны разрозненыя, гэтыя малюнкі, але помніцца ўсё так выразна, нібыта адбывалася ўчора.

...Кладкі праз ручай не было. Пажартаваў хто, ці падшыванцы, ведаючы, што вяртацца з Вялені будзем гэтай сцежкай позна, адцягнулі жэрдку ўбок — знайсці яе ў поцемках было проста немагчыма. А берагі ў ручая балоцістыя... Пачуліся незадаволеныя дзявочыя галасы, пасмейваліся хлопцы.

— І вечар, як назло, халодны!

— Вярунь, а мо мы з табой да раніцы тут перачакаем, га? Авось не змерзнем!

— Гэта з табой?

— А хоць з любым! Любога выбірай.

— І ўсё б вам смяяцца! Што рабіць будзем?

Сяргей — ён мне братам траюрадным даводзіцца! — з закасанымі па калені штанінамі падскочыў да Касі, якая хоць і была сярод нас, а ўсё трымалася крыху ўбаку.

— Можна? — весела спытаўся ён і, не чакаючы адказу, падхапіў яе на рукі.

І вось яны ўжо на тым беразе. Чую, як смяецца Кася.

— Сяргей, і мяне!

— І мяне! І мяне! — пасыпалася адусюль.

— А праважатыя ў вас нашто? — адбіваўся той.

Мы іх ўжо не дагналі.

Мы — гэта і я з Шурам. Шура... Шура Бог — так звалі яго запярынскія хлопцы. Чаму? Хто яго ведае! Дужы ён быў, уладны. Неяк змалку павялося, што вакол яго збіраліся ўсе, пабойваючыся яго рук. Пабойваючыся яго слоў: біў імі бязлітасна, з усмешкай па вуснах. І са мной ён паводзіў па-рознаму: то быў лагодным, пяшчотным, то падсмейваўся, паддражніваў: «Ну, чаго ты ходзіш за мной? Няўжо прыгажэйшага няма?..»

Кажуць, першае каханне рэдка бывае шчаслівым. А калі яно адзінае?

Снег лёг рана. Ён яшчэ быў мяккі, цёплы, правальваўся пад нагамі, але, відаць, збіраўся ляжаць ужо да вясны. Змесяць яго коні, чародкі дзяцей, а ён ізноў кружыцца ў паветры, ізноў засыпае ўсе сцежкі.

Сыпаўся снег і тады, калі мы шумна, адзін за адным, павыходзілі з хаты, дзе з дазволу старой бабкі Сцепаніды часта заседжваліся да ночы — заўсёды, як сыходзіліся ў якім канцы вёскі дзяўчаты і хлопцы і пачынаў спяваць гармонік у руках рыжага Косціка, ішлі сюды...

Мілай мой, мілай мой,
Чым ты ганарышся?..—

зацягнула Вера Хадоскіна, падхапіўшы Косціка пад руку.

Гурт моладзі павярнуў услед за імі, каб выбраць мінутку і застацца на крайку белай-белай ночы кожнаму — з любай, кожнай — з любым, толькі ўдваіх. Колькі крокаў зрабілі ў той бок і мы. І раптам Шура... Шура прытрымаў мяне за рукаў і ціха прапанаваў, ці то запытаўся:

— Мы пройдземся ў другі бок?

— Але ж нам...— асеклася я, натыкаючыся на раптам чужую, прыгорбленую спіну хлопца.

Я ведала іншага Шуру, высокага, плячыстага, з шырокай усмешкай на твары. Трасяне доўгім чубам — шапкі ён не насіў,— кудзеркі рассыплюцца над ілбом, і чакай: дагоніць каго-небудзь вострае, а то і грубае слоўца.

— Шура, а праўда прыгожая ноч? — спрабавала я распачаць гаворку.

Але ён моўчкі ішоў, увесь падаўшыся наперад, нібы недзе там, уперадзе, за снегападам, яму трэба было ўбачыць штосьці вельмі неабходнае яму цяпер. Потым успамінаў пра мяне, паварочваўся і, быццам абыходзячы мой позірк, заходзіў з другога боку.

— Што, Ганначка, не змерзла? — паўтараў кatoры раз, у той жа момант забываючы і пра сваё пытанне, і пра мяне.

Ціха, нячутна кружылася над намі ноч. І чамусьці мне балюча было глядзець на яе спакойнае кружэнне, падстаўляючы сняжынкам гарачы твар. Сняжынкі раставалі, і я злізвала іх з губ, і яны былі салёныя.

Шура спыніўся. Я зірнула туды, куды глядзеў ён, і ўбачыла дзве аблепленыя снегам постаці на адлегласці пацалунку адна ад аднае. Адчула — так, не пазнала, адчула! — што гэта Кася з Сяргеем. Але тут Шура падхапіў мяне, згроб у ахапку, закруціў, звонка смеючыся. Пасадзіўшы ці проста адпусціўшы мяне — і я ўпала ў сумёт побач са сцежкай, пачаў ха-

паць жменямі снег, камячыць і шпурляць у тых дваіх, прыгаворваючы:

— І хто гэта вас паставіў ноч вартаваць? І хто вы такія?

Сяргей, абдымкамі засланіўшы Касю, спрабаваў спыніць яго:

— Чаго ты, Шура, захадзіўся? Ідзеш сабе і ідзі! Чаго гэта ты?

А снежкі ўсё ляцелі ў іх бок. І ён — не, яны ўдвух, разам, пачалі бараніцца. І мо таму, што рабілі яны гэта весела, увесь час пераглядваючыся, падбадзёрваючы адзін аднаго, перамога іх была поўнай. Шура, увесь ужо аблеплены снегам, стаяў пад градам снежак, бездапаможна апусціўшы рукі, не хаваючы мокры, пакрыўджаны твар. Толькі ўвесь падаўся ўперад, за паглядам...

Я зразумела ўсё. Плакала па начах. Ценем хадзіла за Шурам, калі здаралася, што і ён прыходзіў на вечарынку. Ён не адганяў мяне, часцей рабіў выгляд, што не заўважае. Ён наогул змяніўся. Паспакайнеў, ці што. Толькі таямнічым бляскам нечакана загараліся вочы ў прысутнасці Касі, і ён ледзь паспяваў схаваць у кішэнях далей ад цікаўных позіркаў нервова сплеценыя пальцы.

Кася прыязджала рэдка. Хадзілі чуткі, што Сяргей цяпер часта бывае на ферме, у Хадоскі, маладой прыгожай удавы...

...Ах, як цвілі пасля снежнай зімы вішні! Пасаджаныя ўздоўж платоў, над самай дарогай, яны прычаравалі нават месяц — ледзь толькі пачынаў гусцець змрок, ён выплываў з-за бярэзніку, павісаў над вёскай і глядзеў, любаваўся іх хараством. Хараство — дзіўна, але ўсё-ткі я заўважала яго! — было незвычайнае. Галін зусім не было відаць з-за густой, бла-

кітнай ад месячнага святла квецені, і здавалася, што гэта не вецер пагойдваў іх, а яны плылі, плылі ў неба, губляючы іскаркі пялёсткаў. І немагчыма было — проста немагчыма! — ісці ў такі вечар дадому адной. Ці нават проста ўявіць, што можна спаць, калі так цвітуць вішні... Хоць што гэта я выгароджваю сябе цяпер, праз шмат-шмат гадоў? Пра якое хараство вечара, вуліцы гавару?

Я праводзіла Шуру. Крадучыся, хаваючыся за голлем вішань, паўз самы плот. Ведала, што ён праводзіць Касю. Так мы і ішлі трое, праз асветлены месяцам вечар: Кася з горда прыўзнятай галавой, усё ў той жа палатнянай сукенцы,— ззаду, у некалькіх кроках ад яе, мой Шура, цяпер такі далёкі, амаль незнаёмы,— і я, не адстаючы ад іх, у ценю, ля самага плота. Да ручая, непадалёк ад якога стаяла хата Сёмчыхі, ніхто не вымавіў ні слова.

Зарыпелі дошкі мастка, перакінутага праз ручай, пад чаравічкамі Касі. Яшчэ некалькі крокаў...

— Дзякуй, што праводзіў,— павярнуўшы толькі галаў у бок хлопца, ціха прамовіла Кася.

— Кася, пачакай!

Шура пераскочыў праз ручай, загарадзіў сабой сцежку.

— Пачакай! Мне свет стаў нямілы. Ну, чаму, чаму ты не можаш пакахаць мяне? Няхай не так моцна, як я цябе пакахаў. Але — на ўсё жыццё! Хіба Сяргей...— голас раптам асекся.

— Не трэба пра Сяргея. Я люблю яго.

Сказана гэта было проста. Не пачула я ў голасе Касі ні крыўды на Сяргея, ні неразумення.

— Любіш?! Нават пасля таго, як дазналася, што ён спіць з Параскай? — Шура гаварыў жорсткія словы, мне было відаць, як уздрыгвалі ў яго плечы.— Пасля таго як, нагаварыўшы табе прыгожых слоў, мілуецца з ёй?! Мілуецца і ў гэты вечар. І цяпер!

— Люблю,— проста адказала Кася, не здолеўшы прытушыць у голасе балючыя ноткі.

Балюча — вось-вось зломіцца! — выпраміўшыся, стаяла яна перад Шурам. І ўпала б, калі б не падхапілі яе дужыя рукі хлопца. Прыцiснуўшы яе да сябе, мякка кранаючыся вуснамі завіткоў над ілбом, ён шаптаў, шаптаў:

— Я дужы. Я змагу працесці цябе праз усё жыццё. Ты толькі павер мне, пакахай мяне!

Ён шаптаў, а мне здавалася, што ён крычыць — так густа сыпаліся ўкруг мяне пялёсткі, так балюча адгукнулася на яго голас сэрца, шалёна б'ючыся, вырываючыся з грудзей. Слёзы засцілі вочы, я нічога не чула, не бачыла. Не ведаю, многа — мала часу прайшло...

— Не!

Гэта Кася сказала? Як цвёрда прагучала гэтае «не!».

— Не-е?! — затрымцеў увесь Шура.— Дык і нічыя ты не будзеш. Заб'ю!

Бліснула лязо нажа. Я хацела закрычаць, кінуцца да іх, хацела закрычаць — і знямела, прырасла да месца.

— Забі,— вельмі ціха сказала Кася, прысланіўшыся да веснічак.— Можа, усім лягчэй стане... Можа, і мне лягчэй...

І Шура, які ўжо занёс руку з нажом, раптам глуха, праз сцятыя зубы застагнаў і адкінуў нож прэч. Тонка-тонка зазвінеў ён, шоргнуўшы па камені дзесьці зусім непадалёк, за мастком...

Вось ён, гэты нож, на стале. Фінскі нож. Яго падарыў Шуру брат марак. Я падабрала яго пасля ў пырніку...

## *Пад час школьных экзаменаў*

Дарослай стаць вельмі проста. І не заўважаеш, калі пераступаеш тую мяжу, за якой застаюцца назаўсёды пакінутыя табой лялькі, фанцікі, істужкі, вялікі паласаты мячык, кніжка казак, размаляваная каляровымі алоўкамі... І яшчэ — упэўненасць.

Так, так! Дасюль я жыла, упэўненая, проста пераканаая ў тым, што калі зямля і круціцца, як ужо столькі стагоддзяў сцвярджае навука, то толькі таму, што мы — усё жывое на свеце — увесь час перабіраем яе нагамі. Як шар у цырку, помніце? Калі мядзведзь ці леў стаіць на вялізным шары і перабірае нагамі — шар круціцца. Вось і зямны шар так! Толькі круціць яго не нехта адзін, а ўсе-ўсе разам, хоць і не вельмі зладжана. Хіба не падобна? Ведаеце, калі па сакрэту, дык я і цяпер веру ў гэта.

Не, я разумею, канечне: касмічныя караблі, цэлы атрад касманаўтаў, якія багата наляталі ўжо ўкруг зямлі і бачылі ўсё сваімі вачыма... Разумею і нікольк не сумняваюся, што разгледзелі яны ўсё як след. Але ж я сама — не бачыла. І вы не бачылі. А вось толькі ўявіць на імгненне: спыніліся ўсе машыны, людзі, знерухомелі звяры, і птушкі, і дрэвы — замерла ўсё! І што ж вы думаеце, зямля круцілася б? Я не думаю.

Праўда, дарослай я стала зусім нядаўна. Яшчэ і месяца не мінула. Тады якраз пачыналіся канікулы ў школе, і мы —я і Галя Доўнар, мая сяброўка,— усюды, дзе можна было, нібыта незнарок падкрэслівалі: мы — дзесяцікласніцы. Хоць галоўнае — зусім не тое, што мы паспяхова перайшлі ў дзесяты клас. Не мы ж

адны: шэсцьдзесят тры чалавекі — з двух дзевятых! Галоўнае... Ат, раскажу ўсё па парадку!

Галоўнае — Ян Шыманскі з дзесятага «А», з былога дзесятага «А». У яго ўсе ўлюбляліся: высокі, шыракаплечы, капа русых валасоў — нават строгая біялагічка, класная іх, не магла дабіцца, каб прычоска ў яго была, як ва ўсіх. Ва ўсіх жа не было такіх валасоў — пад шапкай не месціліся. А яшчэ Ян насіў чорную скураную куртачку, насіў фанабэрліва, нібыта пагарджаючы і куртачкай, і зайздрослівымі позіркамі, якія кідалі на яе хлопцы. Галя таксама закахалася ў Яна — ажно ў вушах у мяне гуло ад яе вечнага «Шыманскі... Шыманскі...». А што Шыманскі? Ну, высокі! Ну, прыгожы. Ну, лепшы валейбаліст у школе. Дык не бегаць жа вакол яго, заглядаючы ў твар. Я — да таго вечара — знарок не глядзела ў яго бок: няхай красуецца! А тут...

Дагэтуль не разумею, як гэта атрымалася. Трэніроўка, мо таму, што апошняя — канікулы ж! — зацягнулася. І нават калі ўжо цяжка было разгледзець мяч над сеткай, ніводзін з нас, адчуваючы прыемную, гарачую стому ва ўсім целе, не спяшаўся сказаць сабе: «Усё! На сягоння ўсё!» Самі сабой аціхлі ўдары па мячу. Знятая, скручаная ў гнуткі, спружысты жмут, лягла на лаўку валейбольная сетка. Мы паселі хто дзе побач з пляцоўкай, гаварылі аб усім, што думалася, не прытрымліваючыся ніякай логікі — то пра спорт, то пра модныя, з тоўстай падэшвай туфлі, то пра малых шпачанят, што ўвесь дзень пішчалі ў шпакоўнях на старой ліпе, то пра нядаўні фільм, які нікому не падабаўся. Калі падняліся, было ўжо даволі позна.

— Вой, гэта ж такая цем! Як жа я адна пайду праз пусташ? Света, як жа я...— зашаптала мне Галя, дрыготкай рукой чапляючыся за плячо.

І сапраўды. Неба было цёмнае. Зоркі пахаваліся.

Здаецца, і воблакі не засланялі, а не відаць зорак. А Галя жыла не ў пасёлку — у вёсцы, што ў кіламетры ад яго. Мне раптам падалося, што павеяла холадам,— стала мерзнуць.

— Давайце праводзім Галю, га? Позна...

Усе маўчалі, зразумеўшы, што і сапраўды занадта затрымаліся. Некаторыя рушылі з двара, кідаючы праз плячо:

— Пакуль! Мне ў другі бок.

— Позна. Дома чакаюць!

Я пачынала злавацць — шкада было Галю, а самой праводзіць боязна.

— Мы ж гуртам будзем назад вяртацца! Ці вы спалохаліся?

— Ну чаму ж адразу — спалохаліся... Пойдзем. Але толькі калі і ты з намі пойдзеш. Астатнія ж дзяўчаты разбягаюцца! Пойдзеш?

Голас Шыманскага. Уздыхаю з палёгкай. Калі пойдзе ён, пойдуць і іншыя.

— Ну вядома, я пайду! Не адпраўляць жа яе адну з цэлым гуртам хлопцаў.

— Назад — ты будзеш між нас адна.

— Я — гэта я. Пайшлі!

І мы пайшлі. Мы з Галяй на некалькі крокаў папераздзе, хлопцы на чале з Шыманскім — за намі.

Ішлі мы нетаропка. Галя сцішылася ў мяне каля пляча, спіной, здавалася, слухаючы крокі там, ззаду. Толькі каля самых веснічак, калі дайшлі да яе хаты, спыталася:

— А ты, Свет? Табе без мяне не будзе ніякавата? Не збаішся?

— З гэтакай вартай? Бывай!

Я пацалавала яе ў халодную шчаку.

— Дзякуй! — крыкнула яна ў купку цёмных по-

стацей ля плота крыху далей.— Шчасліва!

І пабегла. Я павярнулася і пайшла назад. Пайшла хутка, адчуваючы, што холад працяў да дрыжыкаў. Хлопцы зноў прапусцілі мяне наперад і, перагаворваючыся, не набліжаліся да мяне, але і не адпускалі далёка. Толькі недзе каля самага пасёлка пачула: хтосьці даганяе. Адзін. Я не азіралася. Ян — а гэта быў ён! — параўняўшыся са мной, прытрымаў за руку.

— Пачакай! На надзень куртку.

І засмяяўся.

— Цёмна, хоць вока выкалі, а і здалёк відаць, як ты дрыжыш ад холаду. Чэснае слова, толькі таму і дагнаў. Лета наперадзе, хварэць неяк не выпадае.

І ён накінуў мне на плечы сваю скураную курточку.

— А хлопцы?

— Што хлопцы? Яны звярнулі па сцежку — напрамкі ж намнога бліжэй!

— А ты?

— Ну што ты ўчыняеш цэлы допыт: а хлопцы? а ты?.. Некаму ж трэба цябе праводзіць. А мне зручней, чым іншым. Вось я і напрасіўся. Не рада?

— Дайшла б і сама! Можа, ты думаеш, што і я ў цябе закахана, як усе нашы?

Я не ведаю, чаго я злавала. Пачала ж урэшце сагравацца. Ды і прыемна было ісці з Янам удваіх па цёмнай, даўно апусцелай вуліцы. А ён — нетаропка так, расцягваючы словы:

— Не ду-маю. Ты проста не ве-даеш, што гэ-та... каханне...

— Я? Не ведаю? Ды гэта ўсе жанчыны ведаюць!

— Жан-чы-на! — не здолеў пагасіць насмешлівую нотку ў воклічы Ян.— Ну што, што гэта?

— Гэта... Гэта...

Мне стала раптам горача. Словы так заселі дзесь-

ці ў горле, што вырваць іх адтуль было немагчыма. Я адчувала, вось-вось расплачуся.

— Не трэба.

Ян зрабіў крыху шырэйшы крок і стаў перада мной. Потым узяў мяне за плечы і, узіраючыся ў нябачны, ледзь акрэслены ў цемры мой твар, паўтарыў:

— Не трэба. Каханне — гэта вось такая ноч. І мы — пасярод гэтай ночы. І...

Ён падаўся да мяне. Я не паспела адхіліцца — яговыя губы крануліся маіх, апяклі. Стала чамусьці страшна. У цёмным, чорным небе з'явіліся зоркі. Адна, другая, трэцяя — многа-многа зорак! І яны пагойдваліся.

— Ты!.. Ты...

Не хапала слоў, не хапала паветра. Кінулася бегчы: трэба было адно звярнуць у завулак, і я — дома. Рыпнулі рыўком адчыненыя веснічкі... Куртка! У мяне — засталася яго скураная куртачка. Не магла я з'явіцца ў ёй дамоў. Не магла!

А ён не пабег за мною, не закрычаў услед... Усвядоміўшы гэта, нечакана пачала супакойвацца. Ну што, урэшце, здарылася? Ян жа нават не зрабіў спробу затрымаць мяне. І наогул усё гэта — толькі дэманстрацыя. Нібыта я зусім не ведала, што людзі цалуюцца.

Я марудзіла, не ведаючы, на што рашыцца. Пайсці дадому? А што скажу раніцой маме? Вярнуцца назад? А калі Ян зноў пачне цалавацца? Нерашуча тапчуся на месцы, увесь час азіраючыся на вокны. А неба сапраўды пасвятлела ўжо: там-сям мігцяць зоркі — мо таму мне падалося, што яны пагойдваліся?

Не ведаю, што б я вырашыла, але тут убачыла, што ў завулак завярнуў Шыманскі. Гэтага трэба было чакаць. Не мог жа ён не здагадацца, што я не магла пайсці дамоў у яговай курткі. Спакойна — амаль

спакойна — выйшла яму насустрач, трымаючы куртку ў адстаўленай руцэ. Калі Ян падышоў бліжэй, гучна сказала:

— Вазьмі! А то падумаеш, што я...

І не дагаварыла. Стала раптам не па сабе: разумела ж, што нічога ён не падумаў. Дадала, цішэй:

— Дзякуй. Я сапраўды тады страшэнна змерзла.

Ян не зрабіў ніводнага руху. Куртка так і вісела на маёй руцэ.

— Я не хацеў... Не хацеў цябе пакрыўдзіць, Света. Ты не так зразумела.

— Ах, я не так зразумела? — мне раптам стала амаль весела.— Пазаўчора ты праводзіў адну, учора — другую, и сёння мне вырашыў прадэманстраваць першы пацалунак. Шкада толькі, месяца не было. І ружы не паспелі зацвісці! І дама аказалася палахлівай!

Словы ўжо не слухалі мяне, яны нібыта смяяліся — і над Янам, і над маёй спалоханасцю, і над гэтым вечарам.

— Ну, пэўна ж, я не так усё зразумела. Ты ж з самымі добрымі намерамі, а тут — дзеўка-не-чапай! Можа, мне трэба было страціць у той момант прытомнасць? Чаму ж ты не папярэдзіў? І куртачку сваю прыгожую мог бы падаслаць. Ха-ха! На, забяры!

І я шпурнула яму куртку. Інстынктыўна засланіўшыся, ён злавіў яе, нервова скамячыў і, не ведаючы, што з ёй рабіць, усё круціў і круціў у руках. Я не дала яму загаварыць.

— Што ты ведаеш пра каханне? Што ведаюць пра каханне такія, як ты? Каханне прыходзіць да тых, хто ўмее яго чакаць, хто душою чысты. Прыходзіць, каб неба стала вышэйшым — і над табой і над цэлым светам. А ты?! «Чэснае слова, толькі таму і дагнаў...» І двух слоў не сказаў, Ра-мэа!

— Света...

— Што Света? А мне яшчэ падалося на нейкі момант, што цябе сапраўды можна горача пакахаць. Эх ты!

Не ведаю, ці гаварыў мне што ўслед Ян. Я нічога не чула: ні яго слоў, ні сваіх таропкіх крокаў, ні балючых удараў сэрца. Зашчапіўшы за сабой дзверы ў сенцах, перачакала міг-другі і ціхенька прайшла ў хату, да свайго ложка. І нечага доўга плакала, прыціскаючыся гарачым тварам да падушкі...

Раніцой, сустрэўшыся з маці паглядам — яна стаяла над маім ложкам, нібыта чакала, пакуль я прачнуся,— адчула сябе ніякавата. Мама ж, пэўна, хвалявалася, а я за ўвесь вечар ніводнага разу пра яе не ўспомніла.

— Зусім ты ў мяне ўжо дарослая, дачушка! Гуляеш позна, дазволу не пытаешся...

— Мама! — я ўскочыла, абняла яе, уткнула галаву ў цёплае яе плячо.— Гэта ж трэніроўка ў нас зацягнулася! А пасля мы Галю гуртам праводзілі. Ты ж ведаеш, яна ў Варшаўцы жыве. Адна збаялася.

— А ты не баішся, што хоць ты і дарослая — дзесяцікласніца! — а ўхаджу дубцом, як неслухмяну малую?

— Ма-ма!

— Ну, ідзі, ідзі мыйся! Ды снедаць будзем.

Я выйшла ў сенцы, доўга плёскалася пад рукамыйнікам. Ужо з ручніком у руках зноў пачула голас маці.

— Света, цётка Клава заходзіла вечарам. Да цябе.

— Да мяне?

— Але ж.

Яна падышла, прыхілілася да вушака спіной і неяк вельмі пільна глядзела на мяне. Чакала, пакуль вытруся і павешу ручнік.

— Прасіла, каб ты пайшла да іх на пошту, папрацавала. На час канікул. Цярэнцеўна ў іх дужа захва-

рэла. Няма каму газеты, паштоўкі разносіць. На час канікул, да верасня.

— Мне? На пошту?

Я ўявіла сябе з паштовай сумкай на вуліцы, а насустрач — усе нашы... І Ян. Хоць Ян тут быў ні пры чым. Вельмі ж нечаканая прапанова! Мне — на пошту!

— Чаму раптам цётка Клава прыйшла да нас, мама?

— Яна ж ведае, што мне адной цяжка...

Мне стала сорамна. Як змагла б я даслухаць да канца тое, што наважылася сказаць і не сказала маці? Сама ж усё ведала.

— Канечне, я пайду, мама!

— Ну, вось і добра,— уздыхнула маці.— Справіш сабе перад школай якую лепшую сукенку...

Дарослай стаць аказалася зусім проста. Некалькі дзён са мной — па той бок чыгункі я ведала не ўсе вуліцы і завулкі — хадзіла цётка Клава, паказваючы самыя зручныя маршруты, знаёмячы з прозвішчамі, якія стаялі за нумарамі дамоў. Так я даведалася, дзе жылі Шыманскія. Далёка. На Янаўцы. Гэта нібыта яшчэ адзін невялікі пасёлачак — трэба перайсці луг, перарэзаны забалочанай ручаінкай. Чаму Ян гаварыў, што яму зручней за іншых мяне праводзіць, было незразумела...

Помню, калі першы раз выходзіла на маршрут адна, цётка Клава паправіла рэмень цяжкой, набітай газетамі, часопісамі — пісьмаў было меней — сумкі і ўсхвалявана папрасіла:

— Светачка, ты ж, дзіцятка, помні, што наша работа вельмі адказная, што людзі цябе чакаюць. У кожнай хаце чакаюць. Часта вестка, якую мы прыносім, і лёс чалавека можа вырашыць. Ты ж глядзі!

Дзіцятка! Я ледзь стрымалася, каб не пасміхнуцца. Ды і работа — усюды адказная. Падумаеш, зірнуць на ражок газеты ці на адрас на канверце і апусціць у патрэбную скрынку! Хутка я ўжо так добра вывучыла ўсе сцежкі, усе павароты з вуліцы ў вуліцу, з завулка ў завулак, што да дзвюх гадзін дня разносіла ўсё, што запіхвала з раніцы ў сумку, і, пацiраючы натруджанае плячо, ішла дадому. А пасля — на Пціч. Адно было кепска: кожны раз, калі набліжалася да двара Шыманскіх, ніяк не магла супакоіць сэрца. А раптам убачу Яна?

А аднойчы, раскладваючы пошту, убачыла пісьмо — пісьмо Яну. «Яну Шыманскаму, асабіста» было напісана на канверце. Адчула, што загарэліся шчокі. Сунула пісьмо асобна за адварот сумкі — і цэлага паўдня гэтае пісьмо пякло мне пальцы, ледзь я дакраналася да яго. Апускаючы ў паштовую скрынку Шыманскіх газеты, памкнулася была дастаць і пісьмо. І не дастала. Ну як, як я магла кінуць яго ў скрынку? І потым — хіба не павінна я была ведаць пра Яна ўсё-ўсё? Урэшце, ён жа сам захацеў ісці тады са мною...

Дарэмна я гэта зрабіла! Бо калі, усеўшыся над ручаём і насцярожана азірнуўшыся, разарвала канверт, прачытала там наступнае: «Мілы Янусь! Я ж магу цябе так называць пасля ўсяго, што было, праўда?

Мілы Янусь, добры дзень табе! Ты не адказаў на мае ранейшыя лісты, але я дарую табе гэта. У цябе ж экзамены. Як скончацца экзамены, напішы мне адразу, ці любіш мяне. І тады я табе скажу, люблю я цябе ці не. Хоць ты і так ведаеш! Помніш, як прыгожа пелі пеўнікі, калі мы стаялі пад Захарчыкавай вішняй? Ты яшчэ смяяўся. А я вучыла цябе цалавацца. Ты — здольны, хутка навучыўся. Толькі чамусьці ўвесь час смяяўся. І я хацела смяяцца, але не магла.

Не атрымлівалася. Толькі ўсё цалавацца хацелася. А пеўнікі — пелі. Дужа хараша было навокал, помніш? Я і цяпер, як запяюць-запяюць пеўнікі сярод ночы, здэцца б, так і пабегла да той вішні. Ты яшчэ прыедзеш да сваёй цёткі?

Толькі ж не забудзься! Скончацца экзамены, напішы адразу, ці любіш мяне. Мне гэта вельмі важна. А то Сцёпчыкаў Іван усё ў праважатыя просіцца.

Цалую куточак паперы там, дзе тваё імя. Хрося».

Уяўляеце, як было мне чытаць — такое! Не весяліла нават наіўнасць, з якой гэтая Хрося увесь час згадвала пеўняў — пеўнікаў. Было ў яе словах і штосьці такое, што глыбока кранала. «Цалую куточак паперы...» Гэта ж трэба здагадацца!

Што рабіць з пісьмом далей, я не ведала. Парваць? У такім выглядзе ўсё-такі перадаць Япу? Ціхенька кінуць у ручай?

І дзень мінуў, і другі, і трэці пайшоў. А я ўсё насіла пісьмо за адваротам паштовай сумкі, кожны раз апякаючы пальцы, калі дакраналася да яе. Вось ужо ніколі б не падумала, што буду так пакутаваць невядома з-за каго! Ішла, як заўсёды, хутка, ногі самі вялі куды трэба,— звыклыя сцежкі, знаёмыя адрасы. Скончыўся Цагельны завулак, выйшла на сцежку, што вяла да кладкі праз ручай. Пра што думала? Ды ні пра што. Сама не свая была ўсе гэтыя дні...

І раптам — гусак! Я і не заўважыла, што каля сцежкі гусяняты ляжалі ў траве, а гусак заўважыў, нябось, што іду,— выцягнуў шыю, зашыпеў і ляціць проста на мяне. Кінула позірк — ані прутка паблізу. Войкнула — і ходу!

Ззаду — гучна засмяяліся. Я знерухомела. Павярнула галаў — хлопцы. І Ян сярод іх. Відаць, з экзамену ішлі.

— Вой, якія мы дарослыя! «С толстой сумкой на ремне, с цифрой «пять» на медной бляшке, в синей

форменной фуражке...» — задэкламаваў Лёня, сябра Шыманскага.

— Такая вялікая, а гусака спалохалася.

І зноў смех. Я адкінула касу за спіну і, прыціскаючы рукі да грудзей, павольна ступіла на кладку. І няхай! І няхай! Так мне і трэба. Гусака, як маленькая дзяўчынка, напалохалася!

За кладкай, праз колькі крокаў, мяне дагнаў Ян. Смеху ўжо не было чуваць.

— Давай сумку! Памагу,— спакойна сказаў ён і, не чакаючы адказу, пачаў здымаць сумку з майго пляча.

Я ўчапілася ў яе аберуч — яшчэ чаго не хапала! На вачах ва ўсіх хлопцаў!

— Давай, давай! Стамілася ж, пэўна. А я і не здагадваўся, чые рукі нам у паштовую скрынку штодзень газеты апускаюць.

Ян лёгка ўскінуў сумку на плячо і пайшоў — крыху наперадзе, раз-пораз паварочваючыся да мяне.

— А мы сёння фізіку здавалі. Пяць балаў! Ну, як я? Ты што ж мяне не павіншуеш?

— Віншую.

— Шкада, што дзень на дварэ, а то я прымусіў бы цябе пацалаваць мяне...

— Ты зноў? — успыхнула я.

— Не буду, не буду, не буду! Свет, ну не злуй, пасміхніся хоць раз. Фізіка ўсё-ткі — і пяць балаў! Што Верамеевым трэба апускаць у скрынку?

— Я сама!

— Прашу...— і ён павярнуўся да мяне плячом, на якім вісела сумка.— Не памыліся! Мне здаецца, дзядзька Ігнат зроду газету ў рукі не браў.

Я выцягнула газету і ўціснула яе паміж штыкецінамі — паштовай скрынкі ў Верамеевых не было.

— Пайшлі далей. Хто наступны? А! Цётка Ганна — вунь, у двары, яна і забярэ пошту.— Ян гава-

рыў усё весела, дурасліва пакручваючыся перада мной.

— Ты што ж, Ян, у памагатыя сёння наняўся? — гукнула цётка Ганна.

— А што? Ці ж грэх у памагатых у прыгожай дзеўчыны пахадзіць? Праўда, яна не вельмі каб рада.

— Такому хлопцу не рада?

— Чула? — падміргнуў мне Ян.

І я не змагла не ўсміхнуцца. Хоць на душы было змрочна: не мела я права чытаць чужое пісьмо, не даруецца такое. Не даруе Ян. А сказаць трэба, інакш не змагу яму ў вочы глядзець.

Калі сумка апусцела і мы выйшлі на выган за Янаўкай, адкуль паўз ручай бегла сцежка назад, да кладкі, Ян пастукаў па сумцы і аб'явіў:

— Адпачынак! Пасядзім хвілінку — тады праводжу мадэмуазель да пасёлка.

І, усеўшыся на купіну, раптам пасур'ёзнеў — на пераноссі выразна пазначылася невялікая зморшчына.

— Света, што-небудзь здарылася? Табе нават усміхнуцца балюча, я заўважыў...

І я не вытрымала.

— Ян, ты мог бы дараваць мне непрыгожы ўчынак? Мог бы? Мог?

— Канечне. Ты толькі не хвалюйся так. Я дарую табе ўсё загадзя, можаш нават не гаварыць.

— Я скажу. Вось! — і я дастала з-за адвароту сумкі раскрыты канверт.— Гэта — табе. А я прачытала. Я нават хацела парваць пісьмо! Толькі не змагла. Цётка Клава гаварыла, што часам ад весткі, якую мы прыносім людзям, залежыць чыйсьці лёс...

Я адвярнулася, хаваючы твар, хаваючы вочы, на якія накаціліся слязінкі. Услухвалася ж не ў тое, што рабілася цяпер у маёй душы, а ў маўчанне побач. Уздрыгнула, калі Ян паклаў руку на маё плячо.

— На, парві! Ад гэтага не залежыць нічый лёс.
І з пяшчотай у голасе дадаў:
— А ты ў мяне зусім-зусім дарослая...

## *Партрэт*

Дзяніс Палікарпавіч не стаў вялікім артыстам. Не стаў. Калі прайшоў першы юбілей, які адзначыў ён са сваімі сябрамі шумна, весела, у самым модным рэстаране горада, Дзяніс Палікарпавіч не знайшоў у газетах ні ўказу аб узнагароджанні — ну, хоць бы Ганаровай граматай, ні якогасьці велічальнага з такой нагоды артыкула. Ён нават крыху засмуціўся напачатку: трэба ж! Дваццаць пяць гадоў працы ўсё-такі. У якіх тэатрах толькі ні іграў, а вось — не ўспомнілі. А пасля супакоіўся: што ён, лепшы за ўсіх? Не сыходзілі са старонак газет імёны некалькіх — ну, дзесятка! — акцёраў. А ў кожным жа тэатры — цэлыя, і немалыя, калектывы.

Ён, як многія іншыя, чэсна працаваў і на рэпетыцыях і на сцэне; браў тую ролю, якую прапанаваў рэжысёр, і працаваў. Праўда, часам, зрэдку, тачыла думка: так і не зжыўся з роляй, у які ўжо раз не зжыўся! Але ён звыкла выходзіў на сцэну і іграў. Гэта была яго работа. Яго жыццё, урэшце.

А слава што? Славы на ўсіх хапала. Ну, няхай не засыпалі яго, як у маладосці, кветкамі! Ну, няхай цяпер не атрымліваў ён усхваляваныя лісты ад дзяўчатак, у якіх яны выказвалі яму сваё захапленне і дзяліліся марай стаць артысткай — абавязкова вялікай... Ну, няхай не ён, хтосьці іншы «зрывае» апладысменты залы! Было што прыгадаць і яму: высокі, шыракаплечы, густыя, з рэдкай сівізной валасы да

плеч, прыгожыя маладыя вочы за доўгімі вейкамі — ён і зараз не-не ды лавіў на сабе замглёны таямніцай жаночы позірк. А раней! Толькі прыгадаць...

Але чамусьці нічога не прыгадвалася. Ён успомніў, што жонка прасіла купіць для Валета мяса, і звярнуў на Кіраўскую, да гастранома. Трэба было перайсці сквер па засыпанай яркімі кляновымі лісцямі дарожцы, і Дзяніс Палікарпавіч ішоў не спяшаючыся: сачыў за дзяўчынкай, што збірала яркія лісткі, звярнуў увагу на мужчыну з раскрытым на каленях альбомам — мастак, не іначай. Чакай! Здэцца, у твары — штосьці знаёмае. Хто б гэта, га? Хто... Змітра Гайноўскі! Вучыліся ж некалі разам, чытаў яшчэ пра яго недзе — хвалілі, і званне нейкае называлася...

Дзяніс Палікарпавіч падышоў да лаўкі, на якой сядзеў яго даўні знаёмы па інстытуце. Той не заўважаў яго. Маляваў.

— Змітра?

Кароткі позірк з-пад ілба. Усмешка. Змітра пазнаў яго адразу, падняўся, адклаўшы альбом, працягнуў руку.

— Няўжо Дзяніс? Гуса-ар... Усё гэткі ж гусар!

— Як ты? Дзе ты? Чытаў надоечы...— трос яго руку Дзяніс Палікарпавіч.

— А я, браце, прызнаюся — запрацаваўся. І сачыў жа спачатку, дзе нашы... Не хапае, ведаеш, часу. Вось і зараз, выйшаў са Святланкай пагуляць, а раблю замалёўкі.

— Твая? — азірнуўся на малую Дзяніс Палікарпавіч.

— Малодшая. Ды ты сядай, што ж мы стаім?

Селі. Памаўчалі колькі хвілін. Сустрэўшыся паглядамі, загаварылі абодва разам:

— Можа, мы...

— Давай, браце...

Засмяяліся. Стала неяк вальней. І аднаму і дру-

ґому раптам прыгадаліся калідоры інстытута, майстэрні, застаўленыя мальбертамі і перапэцканымі ў фарбы табурэткамі, у якіх збіраўся добры такі гурт моладзі: за бутэлькай віна да ночы спрачаліся аб сэнсе жыцця, аб сваім прызначэнні, аб вернасці абранай дарозе...

— Давай, браце, падымемся да мяне ў майстэрню! Гукну Святланку, і пойдзем. Тут недалёка. Згода?

Змітра ўжо збіраў свае прылады.

— Святлана! Мы ідзём! — гукнуў малой з-за пляча і, убачыўшы, што тая ўжо бяжыць да іх, цёпла, шчасліва ўсміхнуўся. Потым дадаў, ужо Дзянісу Палікарпавічу: — Адвяду яе — гэта ў тым жа доме! — і падымемся да мяне...

У майстэрні, ярка асветленай небам — аблокі плылі адразу за шырокімі шыбінамі акна! — было амаль што пуста. Мальберт з распачатай работай, які гаспадар адразу ж павярнуў да сцяны — не было яшчэ чаго паказваць, адкрыты эцюднік, стол і дзве табурэткі ў кутку. Вось і ўсё. Не! Адгароджаныя вялікім планшэтам, у другім, цямнейшым кутку стаялі падрамнікі — многа. Вельмі многа! «Гэта ж усё яго работы! — падумалася Дзянісу Палікарпавічу.— Хвалілі ў газеце, званне нейкае называлася...» Яму раптам страшэнна захацелася ўбачыць колькі тых работ. Папрасіў:

— Ты б паказаў мне, Змітра, свае работы, га?

— Пэўне ж, пакажу. Ды неяк няёмка — адразу. Пасядзім...

— Давай адразу! — заспяшаўся Дзяніс Палікарпавіч.— Надта ж цікава — колькі год ужо не ўдыхаў водару фарбаў, не бачыў запісаных палотнаў. На выстаўкі рэдка трапляю, каюся. Але і ты ж во кажаш: часу на ўсё не хапае.

— Самае страшнае, браце, што, вось так замыкаючыся ў сваім асяроддзі, у вузкім, як ні круці, коле сваіх клопатаў, трывог, памкненняў, болей страчваеш, чым набываеш. І не я гэта заўважыў. Атрымліваецца гэтак. Жыццё ж не чакае. Толькі паспявай за ім! Азірнешся ж — зноў адстаў.

Змітра гаварыў, няспешна пачаўшы разбіраць шчыльна састаўленыя падрамнікі — адны адсоўваў далей, другія, выцягваючы з агульнай груды, стаўляў па гэты бок перагародкі.

— А табе-то чаго жалкаваць? Заўважылі. Адзначылі. Толькі жыць ды за славу трымацца!

— Трымацца? — выпраміўся Змітра.— Не ўтрымаешся, браце. Не! На славу горб трэба гнуць. Задаволеных яна не любіць. Ды і не ў ёй справа — хіба дзеля славы так пакутна шукаеш сэнс жыцця?

— А дзеля чаго ж?

— Ну, не ведаю. Мне, Дзяніс, часам здаецца, што не я калісьці свой шлях выбраў, а ён мяне...

Змітра павярнуў адну з работ, прысланяючы яе да мальберта. Быццам апраўдваючыся, сказаў:

— У майстэрні многіх палотнаў няма. Напішаш, уклаўшы ў карціну столькі ад самога сябе, што здаецца, ні на што больш і не хопіць, глядзіш — а ўжо і не гаспадар яе. Аўтар!

І замаўчаў. Задуменна, моўчкі паварочваў адну за адной адабраныя работы, расстаўляючы іх уздоўж сцяны.

Дзяніс Палікарпавіч прагна ўзіраўся ў іх, не выказваючы ні захаплення, ні здзіўлення. Узіраўся, шукаючы тое няўлоўнае, што вылучала Змітру з усіх мастакоў, на чым стаяла пячатка славы. А бачыў сонечную пражу неба над вясновым бярэзнікам, усмешку дзяўчынкі, што тоненькім сонечным праменьчыкам малявала штосьці на шыбіне акна, вышываны ручнік у руках старой, рукі гэтыя ў глыбокіх змор-

шчынах, спрацаваныя, рухомыя нават у гэтым сваім спакоі. І яшчэ... партрэт жанчыны... Ён ведаў гэтую жанчыну! Ён зараз успомніць...

— Змітра, калі ты пісаў гэтую жанчыну? Калі яна... табе пазіравала?

Змітра кінуў уважлівы позірк на Дзяніса Палікарпавіча, потым на партрэт.

— Ды хлопцы неяк пазнаёмілі. Даўно ўжо. Што, знаёмая?

— О, стары, знаёмая — не тое слова! Я трымаў яе ў руках, калі яна і ўяўлення не мела, што такое — рукі мужчыны.

Дзяніс Палікарпавіч падсунуў табурэтку, правёў па ёй далонню і, не ўбачыўшы на далоні слядоў фарбы, асцярожна, прытрымліваючы пінжак, сеў так, каб быў добра відаць партрэт.

— Ведаеш, колькі жанчын — розных! — у жыцці было, а хацеў сёння прыгадаць якую з іх і не змог. Усе — на адзін твар. Пераблыталася ўсё ў памяці. А тут — партрэт, і ўсё само прыгадалася — да малой драбніцы. Як учора адбывалася. Ажно памаладзеў!

Змітра маўчаў. Але Дзянісу Палікарпавічу і не патрэбен быў у гэту мінуту субяседнік: успаміны прыспешвалі словы, ён радаваўся таму, што вось нечым і ён можа пахваліцца перад старым сябруком.

— Тут, на партрэце, яна ўжо старэйшая. Валя?.. Не, імя ўсё-ткі начыста забылася! Вера, кажаш? Пэўне ж, Вера. Не помню. Помню, заўважыў яе ўпершыню каля ўваходу ў тэатр — позірк усхваляваны заўважыў: глядзіць на мяне, як на бога... Ды ты ж павінен помніць, якім я быў тады, у маладосці! І цяпер яшчэ — гусар, а тады — ого! Што тварам, што ўменнем падаць сябе — роўных не было! Абмінуў яе, зазіраючы ў твар, а яна запалала ўся, затрымцела.

«Яшчэ адна з тваіх будучых артыстак?» — запыталася, прыціскаючыся да пляча, мая... А хто — мая?

Хоць гэта не важна! Ты ж ведаеш, стары, не любіў я хадзіць адзін. Праўда, і не выбіраў асабліва: сёння адна чаплялася, заўтра другая. Маладыя гады, хлопец у саку, як кажуць. Ды што я табе тлумачу? А то ты не мужык. Ідзе ў рукі — чаму б і не ўзяць?

Так і з гэтай... Вера, кажаш? Пэўна ж, Вера. Маленькая такая, уся ззяла насустрач майму позірку. І ў другі раз, і ў трэці бачыў яе ля ўваходу, ужо выспяваць стала ў думках: трэба ашчасліваць малую, загаварыць з ёй. А тут і выпадак надарыўся. У Лялі — гэта мая жонка цяпер — быў дзень анёла. Я на той дзень і забыўся, але яна пазваніла, нагадала — няёмка ж з пустымі рукамі. Ухапіў таксі — і на праспект. А дождж! Халодны, з ветрам. Выскакваю з крамы, шукаю вачыма машыну, прыціскаюся да сцяны. Нейкім другім зрокам бачу зусім побач, на лапіку сухога асфальту каля самай сцяны, дзяўчыну — тую самую! Паварочваюся да яе, змерваю паглядам, адчуваючы незнаёмую замілаванасць — вельмі ж ужо рознілася яна ад усіх маіх колішніх сябровак. Апускала вочы, чырванела, трымцела ўся...

— У мяне машына. Паедзем?

Яна падалася крыху назад, прыціскаючы да грудзей рукі, нібыта абараняючыся, а сама, кожнай клетачкай,— я-то такія рэчы адчуваю за вярсту! — цягнулася да мяне.

— Я?! З вамі?!.

— Ты. Са мной. Няўжо я такі страшны?

Мне раптам стала весела. Усвядоміўшы, што трымаю плюшавага мядзведзіка, загорнутага ў цэлафан, пакруціў яго ў руцэ і працягнуў дзяўчыне.

— Вось ён — страшны. Р-р-р! Але я дару яго табе, можаш зрабіць з ім што хочаш. Толькі ўсміхайся! Ну, едзем?

Дзяўчына нерашуча ўзяла працягнутую цацку, нерашуча ўсміхнулася. Я пацягнуў яе за руку.

— Паехалі, паехалі! Машына чакае.

І яна, засланяючы мядзведзіка ад дажджу, паслухмяна пайшла за мной, села ў машыну. Куды мне везці яе, я не ведаў. Ну, не да Лялі ж! Назваў шафёру свой адрас.

— Ты ўжо зусім не баішся мяне? — паспрабаваў абняць малую, але яна крыху адсунулася.— Ага, значыцца, баішся. А я вось адразу паверыў табе, твайму пагляду...

Мне падабалася гэтая гульня, дзяўчына з нечапаных і — нішто сабе! У перамозе сваёй я быў упэўнены. Патрэбен час? Час у мяне быў — цэлы вечар наперадзе (пра Лялю я і думаць забыўся!).

— Хіба я падобны на ашуканца? — ціха, са звыклай пяшчотай у голасе нашэптваў я дзяўчыне.— Мы ж з табой даўнія знаёмыя: я пазнаў бы цябе ў любым натоўпе.

Рука мая даўно пагладжвала яе плячо, калена прыціскалася да яе нагі — маладое, хмельнае цяпло пачынала брадзіць у кожнай жылцы. Машына спынілася. Здзіўляючыся, што так хутка прыехалі, разлічыўся з шафёрам, і мы пад дажджом перабеглі да пад'езда.

— Намокла?

Я баяўся напалохаць дзяўчыну, нават не паспрабаваў зноў абняць яе, толькі змахнуў кропелькі дажджу са светлай грыўкі.

— Падымемся? Абсохнем, чаю пап'ём. Я пакажу табе сваю калекцыю...

Змітра, здавалася, не чуў Дзяніса Палікарпавіча, хоць глядзеў на яго — збоку, прысланіўшыся плечуком да сцяны. Глядзеў уважліва, прыгадваючы тым, маладым, у гады вучобы. Яны ніколі не сябравалі, хоць вельмі часта сустракаліся. Ды і як было не су-

стракацца — жылі ж тры гады ў адным інтэрнаце! Дзяніс заўсёды быў акружаны дзяўчатамі — з той ці з другой з іх Змітра часам нават кпіў: далей прыгожай заслоны не бачылі, а марылі аб трагедыйных, вялікіх ролях...

Прызнацца, Змітра ніколі да канца не разумеў акцёраў. У жыцці — не разумеў. Таму што ведаў: гуляць у жыццё нельга. Гэта ж не спектакль, прэм'ера не паўторыцца ні праз дзень, ні праз год, ні праз дзесяткі гадоў. Дзень пражыў — і ён ужо мінулае; і калі нічога не паспеў зрабіць — яшчэ на адно спадзяванне ў тваім жыцці меней. Самы просты падлік. Як на ўроках арыфметыкі: сядзелі тры ластаўкі, адна паляцела, колькі іх яшчэ засталося на галінцы? Каб жа ведаць, колькі засталося! Гэта толькі ў арыфметыцы ўсё сыдзецца — пытанне, адказ...

— Дзяўчына прысела на самы краёк крэсла, прыгарнуўшы да сябе мядзведзіка. Шырока адкрытымі, здзіўленымі, якімісьці радасна-спалоханымі вачыма ўзіралася ў мой пакойчык — я тады жыў у аднапакаёўцы і разглядваць асабліва не было чаго. Зазваніў тэлефон — пэўна, Ляля! Імя яе мільганула на момант у думках, зняў і зноў паклаў трубку на рычаг. Ледзьве адышоўся ад тэлефона, ён зноў зазваніў. Адключыць не мог, таму рашуча ўзяў падушку і накінуў на апарат.

— Вось так! А то слова не дасць вымавіць.

У мяне ажно пакалвала ва ўсім целе ад жадання наблізіцца да малой, падняць яе з крэсла, прыгарнуць. Ліхаманкава падбіраў патрэбныя словы ў такім выпадку і разумеў: не тое, не тое! Не адразу знайшоўся, з чаго, як пачаць. Стаяў перад ёй у нейкай тэатральнай позе і ўсміхаўся.

— Ты любіш тэатр?

— Не!.. Так... люблю. Вы... Я вас...

— Ну, дык гэта ж цудоўна! — падняў я яе з крэсла, абдымаючы за плечы (паміж намі быў мядзведзік).— Ты любіш мяне, праўда? Праўда?

Яна кіўнула, апускаючы галаву. Паміж намі быў плюшавы мядзведзік, якога дзяўчына прыціскала да грудзей.

— Хочаш, і я цябе буду любіць? Моцна-моцна! Як ты мяне. Хочаш?

А яна, не падымаючы галавы:

— У вас жа столькі прыгожых жанчын!.. Вы не зможаце мяне любіць.

І тут я, што гаворыцца, прывёў самы пераканаўчы аргумент. Адабраў мядзведзіка, пасадзіў яго на стол і за руку падвёў яе да люстэрка.

— Паглядзі! Хіба яны прыгажэйшыя, чым ты?

— Прыгажэйшыя...

— Дурненькая! — я павярнуў яе да сябе.— Дурненькая ты яшчэ зусім. Хіба ж прыгажосць — падфарбаваныя вочы і шыкоўныя туалеты? Ты ж пра сябе нічога не ведаеш! У табе — гэтулькі прыхаванай пяшчоты, прыхаванага агню. Ты ўсё яшчэ баішся...

Яна глядзела на мяне, як на бога. Божа мой, на мяне ніхто ніколі так не глядзеў ні да сустрэчы гэтай, ні апасля!

Я не мог болей стрымлівацца. Не ў маіх сілах гэта было. Пачаў цалаваць яе вусны, шчокі, вочы, адчуваў, што яна плача — і горнецца да мяне, сама да мяне горнецца.

Чорт яго ведае што я адчуваў у той момант. Помню: думаў, што яе нельга падмануць, што з ёю я па-сапраўднаму быў бы шчаслівы. На доўгія гады. Помню: думаў — пакляўся сабе ў душы! — што яна будзе адзінай, адзінай, адзінай! А можа, і не думаў. Можа, гэта я зараз так думаю...

Калі б Дзяніс Палікарпавіч зірнуў у гэты момант на Змітру, ён зразумеў бы, што таму, па нейкай прычыне, цяжка выслухоўваць яго прызнанні. Змітра ўсё гэтак жа стаяў, прысланяючыся плечуком да сцяны — толькі рукі нервова камячылі край тоўстага шэрага світэра, толькі вочы раз-пораз падоўгу хаваліся за павекамі. А ўвесь быў — як струна напятая...

Ды госць так захапіўся ўласным расказам, што бачыў перад сабой адно гэты партрэт жанчыны, у якой ён пазнаў тую, сарамлівую, трапяткую, закаханую ў яго дзяўчыну. Зусім дзяўчынку.

— Не было ў мяне такога ў жыцці! Мо лепшыя ночы выпадалі, але такой — не было. Думаю, не кахаў так ніхто, не ўмеў кахаць так, як... Вера.

Яна плакала ў маіх руках, і гарнулася да мяне, і абпальвала маё цела сваім...

Дзяніс Палікарпавіч памаўчаў, не заўважаючы, якая цяжкая цішыня калыхалася ў майстэрні.

— Дурнем я быў, стары, дурнем! Мо толькі зараз, у цябе, разумею гэта. Як я мог страціць яе тады? Як мог дапусціць, што яна знікла, ніколі больш не сустрэўшыся на маім шляху?..

Разумееш, прачнуўся — адзін! Ведаў, што ўсё не прыснілася, што ўсё адбылося — тут, у гэтым пакоі, гадзіну-дзве назад, і — нікога побач. Нічога нават не нагадвала пра тую, каго зусім нядаўна трымаў у абдымках. Не! У крэсле, што побач з люстэркам, сядзеў плюшавы мядзведзік — не ўзяла!

Ускочыў з ложка, падбег да стала — мо запіска якая? Запіскі не было. Пуста.

Здзівіўся: адкуль гэта — пі-пі-пі... І тут заўважыў кінутую на крэсла тэлефонную трубку. Званілі. Пэў-

на ж, Ляля! А мо яшчэ хтосьці... Што яна, тая, што званіла, нагаварыла маёй госці, не суджана мне даznаца, відаць, ніколі...

Дзяніс Палікарпавіч павярнуўся да Змітры, але той, не гледзячы на яго, падышоў да партрэта, лёгка падняў і панёс туды, дзе за высокім планшэтам згрудзіліся падрамнікі, многа падрамнікаў.

— Змітра, ты што? Навошта? Хіба партрэт...

I — як зарвала. Дзяніс Палікарпавіч убачыў твар Змітры, пацямнелы ад прыхаваных пачуццяў, суровы ў сваім спакоі.

— Я ўжо чуў гэтую гісторыю.

Сказаў як адрэзаў. Госць усхапіўся з табурэткі, дзергануў крыссё пінжака, правёў рукой па гладкіх валасах.

— Ты гэта... Ты таксама з ёй?..

— Вера — мая жонка.

Змітра стаяў каля планшэта, глыбока засунуўшы рукі ў кішэні.

— Жо... Жон-ка?.. Прабач, стары. Я не ведаў. Я ж нічога не ведаў!

Дзяніс Палікарпавіч, мармычучы яшчэ нейкія словы прабачэння, адступаў да дзвярэй, чапляўся за роўную падлогу і пяціўся, пяціўся. Дзверы за ім зачыніліся нячутна.

Змітра доўга стаяў пасярод майстэрні, потым правёў далонню па твары, быццам сціраючы з яго штосьці ліпкае, непрыемнае, і пайшоў да мальберта...

## *Саната сі-мінор*

Заняткі ў вучылішчы пачынаюцца толькі заўтра. І сёння — пакуль яшчэ змеркнецца — можна блукаць па горадзе, знаёміцца з яго вуліцамі і вулічкамі, якія, здаецца, усе да аднае збягаюцца да ракі. Пі-на. Слова якое! І карэньчыкаў не знойдзеш у мінуўшчыне.

А я — Наста. Наста! Праўда, прыгожае імя? І таксама даўнейшае. Буду жыць тут. Вучыцца. Усяму-ўсяму навучуся, каб прыехаць дамоў, шырока адчыніць дзверы клуба — і пойдуць, паваляць у яго людзі. Дзяўчаты з фермы, дзядзька Ігналь — медалі свае з гэтага выпадку прышпіліць абавязкова, Міхайліха — нічога ж у вёсцы без яе не абыходзіцца, Алена і Змітрок Кондрусі з трактарнага двара, цётка Тэкля, мама... І Мікола з сябрукамі. Пэўна ж! А я, у даўгой сукенцы ўзорыстай — сама пашыю! — буду сустракаць усіх лёгкім паклонам. Вось так!

Хоць што гэта я? Добра што вулічка бязлюдная, а то людзі немаведама што падумалі б — толькі што ўслых сама з сабой не размаўляю!

Гэта нічога, што наш клуб у Парэччы стары, драўляны. Зазвіняць у ім песні звонка-звонка, да раёна рэха дакоціцца. А мо і далей. І памогуць нам з клубам. Напэўна памогуць!

Аднекуль музыка чувацъ... Далекавата. Нават не магу разабраць, на чым іграюць. Акардэон? Не... Раяль! Ну, безумоўна ж, раяль. Як я адразу не здагадалася? Колькі я чула той ігры на раялі — і каля тэлевізара пасядзець лішнюю хвіліну не заўсёды магла. Праўда... Але гукі тыя з іншымі і я не зблытаю: як

удары, адрывістыя, нервовыя.

А музыка заўжды нечакана глыбокая, так і тонеш у ёй. Мо таму, што крыху чужая. Скрозь жа ў нас на гармоніку ды на баяне гралі. Ды яшчэ дзядзька Ігналь — на дудцы. Як зайграе на ёй — і ў самога твар адразу мяняецца, святлее ўвесь, і бабы пачынаюць неўпрыкметку выціраць палагаднелыя вочы.

Гэта — не дудка... Хоць адкуль тут, на гэтай вулічцы, раяль? Кватэры ж, пэўна, усе, як у Ганны Фёдараўны, у якой пакойчык здымае. Не стане раяль у такой.

А музыка ўжо добра чуваць — у суседнім доме, няйначай, іграюць. Вунь і акно адчынена... Якая светлая і балючая мелодыя! Быццам расказвае, згадвае пра штосьці — страчанае і незабытае... Гукі — не, гэта ўжо не нагадвае ўдары! — сумотна ўзлятаюць, чародка за чародкай, з-пад чыіхсьці пальцаў, з чорных і белых клавішаў. Як чорныя і белыя птушкі. Не, белых птушак болей — вунь як светла плача мелодыя! Аб чым? Аб кім? Павольна плывуць, абмінаюць мяне лёгкія цені крыл — і ўсё роўна тухне неба, апускаючыся ніжэй і ніжэй. Адчуваю, вось-вось прыцісне мяне да зямлі, бездапаможна ўскідваю рукі...

— Ліст!

— Што?!

Уздрыгваю. Здзіўлена заўважаю: прыціскаюся спіной да сцяны дома, непадалёку ад прыадчыненага акна, а насупраць — на адлегласці выцягнутай рукі — стаіць шыракаплечы юнак. Спачатку толькі і бачу яго шырокія плечы і модную, выцертую да брудпаватай белізны джынсавую куртачку, якую ён прытрымлівае рукой, перакінуўшы праз плячо. Падымаю позірк. Загарэлы скуласты твар, шэрым адвячоркавым небам свецяцца вочы, распатланыя валасы...

— Ферэнц Ліст. Саната сі-мінор. Чула калі-небудзь раней?

Чаго гэта ён спыніўся побач? І музыка скончылася... Ферэнц Ліст! Прыгожа.

— А вы таксама слухалі?

— Ну, навошта ж — «вы»? Хіба я выглядаю такім ужо самавітым, такім ужо старым?

— Наадварот!

Слова вырвалася неяк само. Яшчэ пакрыўдзіцца! Адчуваю, пачынаю чырванець, і таму рашуча, занадта рашуча, каб схаваць ніякаватасць, абыходжу хлопца. Разгаварылася з незнаёмцам!

А незнаёмец павярнуўся, ідзе следам.

— Прабач, хочаш, я таксама буду гаварыць табе «вы»? Толькі гэта заўсёды выглядае, быццам людзі чужыя адно аднаму.

— А мы і ёсць чужыя.

— Не скажы! Колькі хвілін стаялі побач і слухалі мелодыю любві — хіба ж мы зусім-зусім чужыя? Нас радніла музыка.

Гаворыць хлопец гэта неяк вельмі даверліва, з ноткай шчырасці, якую так цяжка падрабіць. Азіраюся з пэўнай цікавасцю. Хай нічога аб сабе не думае! — цікавасць у мяне якраз да таго, хто прыдумаў гэту светлую, балючую мелодыю.

— А гэты... Ферэнц Ліст! — ён пра сваё расказвае? Пра сябе?

— І пра сябе. Толькі даўно гэта было. Адсюль не ўбачыць. А я ведаю чалавека, які верыць, што ў гэтай музыцы — гісторыя яго любові.

Урэшце, павінна ж я ведаць усё, і пра Ліста, і пра гісторыю чыёйсьці любові, звязанай з яго музыкай,— вучыцца ж прыехала! А хлопец рукі не распускае, ідзе сабе і ідзе поруч. Пытаюся:

— А хто гэты чалавек?

— Хто? Раскажу, калі ты не будзеш так спяшацца. Мы ж ледзьве не бяжым.

Крыху сцішваю хаду. Сапраўды, разагналася...

Не ноч жа на двары. А хлопец прыгожы. Яшчэ б валасы трохі акуратней!..

— Можа, спачатку пазнаёмімся? Ну, не, не! Не згодна, не трэба. Ды і не позна гэта ніколі,— гаворыць хлопец.

Ён крочыць цяпер крыху наперадзе, павярнуўшыся да мяне.

— А чалавек гэты... Вось уяві. Вечар. Няроўнае дрыготкае святло ліхтароў. У гэткім святле ўсе выглядаюць ненатуральна, як падсіненыя, а то ідзе чалавек — і мужыком не назавеш: худы, цыбаты, у акулярах, да грудзей пакуначак прыціскае. Як навобмацак ступае, асцярожна, раз-пораз смешна выцягваючы шыю. Канечне ж, ён наткнуўся на нашу кампанію — дакладней, на Глеба, ён крайні стаяў. Глеб разварочваецца, пстрычкай збівае ў таго з носа акуляры.

— Глядзець трэба, дзя-дзя!

Чалавек кідаецца лавіць акуляры, ловіць іх, але яго пакуначак ляціць на тратуар. Чуваць хруст — пласцінка!

Разумееш, усё адбылося імгненна. Ніхто не паспеў уставіць ні слова. Чалавек той ажно скалануўся ўвесь: бездапаможна апусціў рукі і пазіраў то на нас, то на разбітую пласцінку.

— Што ж вы, хлопцы? Гэта ж музыка. Гэта ж...

— Глядзець трэба, куды прэшся!

Глеб, сцепануўшы плячыма, абышоў таго, у акулярах, і рушыў уздоўж па Кастрычніцкай. Хлопцы пацягнуліся за ім. Я застаўся. Чаму? Хто яго ведае! Хутчэй за ўсё таму, што пад нагамі, патрушчаная, ляжала пласцінка.

— Міш, ты ідзеш? — гукнуў мяне хтосьці з хлапечага гурту.

— Яму дзядзю шкада стала,— засмяяўся Глеб. І яго ніхто не падтрымаў.

А мне, папраўдзе, было шкада пласцінку. Напачатку. Сам калекцыяніpую джаз-музыку, ведаю: некаторым пласцінкам цаны не будзе з часам. Што ты пасміхаешся?

— Ты дзеля будучай надбаўкі ў цане пласцінкі калекцыяніруеш?

— Ды не! Гэта я так сказаў пра цану. І імя сваё назваў, дарэчы. Міша! — Міша перакруціўся на абцасе і зноў павольна, нага за нагу, пайшоў крыху наперадзе.— Табе нецікава?

— Цікава. Ты ж пераўтвараешся ў кожнага, пра каго гаворыш.

— Ну, дык вось — пра пласцінку... Той, у акулярах, некалькі хвілін стаяў над ёй, разгублены, няшчасны ўвесь. Потым падабраў з тратуара рэшту — кожны асколачак, адзін да аднаго, акуратна загортваў у паперку. Быццам просячы прабачэння, павярнуўся да мяне.

— Гэта мне Яна падарыла. Сёння. Мы так доўга не бачыліся! Сказала, што я ўсё зразумею, паслухаўшы музыку... Як жа я цяпер?

— Можа, я змагу памагчы? — вырвалася ў мяне.

— Вы?!

— У мяне шмат пласцінак. Можа, якая падыдзе, паслухаеце.

— Ліст! — заспяшаўся той.— Вось, на этыкетцы: Ф. Ліст. Саната сі-мінор.

— Ліст? Не-е...— расчаравана працягнуў я.— Ніякіх адносін!

— Ну, вось бачыш! — ад хвалявання ён перайшоў на «ты», нават не заўважыўшы.— Пайду...

Цяпер мне ўжо стала шкада яго. Што ён там павінен быў пачуць? Што зразумець?

— Пачакайце! Праз два дні я ў Мінску буду. Па справах. Магу пашукаць гэтага Ліста. У мяне знаёмыя ёсць у некалькіх магазінах.

— Праўда? Вось дзякуй! А то ў мяне работа распачата, з архівамі ўсё звязана. Калі, можа, кінуць усё... Слухай! Пайшлі да мяне — тут, недалёка,— замітусіўся ён раптам.— Дзень нараджэння ў мяне якніяк! Пайшлі? А то ўсё паперы і паперы — жывога чалавека не бачу.

— Ну, у гэтым святле і мы як нежывыя,— засмяяўся я.

І мы пайшлі.

Вуліца скончылася. Я і не заўважыла, як мы выйшлі да Піны.

— Пасядзім? — пытаецца Міша, паказваючы на вялізны корч бліжэй да вады.

— Угу. Пасядзім. Ты ж яшчэ не скончыў расказ.

Міша кладзе куртачку на корч, тэатральна ўзмахвае рукой.

— Прашу!

Я саджуся. А ён, то пакручваючыся на абцасах, то робячы колькі крокаў узад-уперад перада мной, узмахваючы рукамі, працягвае расказ:

— Косця Пятровіч — гэта таго ў акулярах я так называю! — выцягнуў з шафы бутэльку «Мадэры», шпроты і доўгі сагнуты гурок. Выпілі «Мадэру» амаль моўчкі. За яго. Ён расчырванеўся — піць, відаць, не ўмеў і піў рэдка.

— А хто гэта — Яна? — пытаюся.

— Хто?

Косця Пятровіч устаў, падышоў да пісьмовага стала, заваленага паперамі, выцягнуў з шуфляды стос фотаздымкаў і прынёс мне.

— Вось! Вось! І вось!

Здымкаў было многа. На ўсіх — прыгожая маладая жанчына, хоць я не магу растлумачыць, чым прыгожая. Кароткая прамая стрыжка, тонкі, рэзка

акрэслены твар, светлыя здзіўленыя вочы. Так, так, здзіўленыя! — нібыта яна ўвесь час здзіўляецца то кастру, каля якога стаіць, то букету астраў у руках, то бярозе, якую абдымае, то яму, Косцю Пятровічу...

— Я люблю яе, стары. Разумееш? Ты не ведаеш, што гэта такое — любіць. Ды я і сам не ведаю. Жыццё страціла ўсякую прывабнасць. Пастарэў на сто гадоў з таго дня, як яна пайшла.

— Пайшла? Куды пайшла?

— А куды ідзе жанчына, калі побач з ёю такі вось нецікавы, нячулы, няўважлівы чалавек, як я? Экспедыцыі, апрацоўка матэрыялаў, пісьмовы стол... Экспедыцыі, апрацоўка матэрыялаў, пісьмовы стол! Яна то за мной ехала, то заставалася і ўсё-ткі зноў ехала за мной. Хоць што ёй маё краязнаўства! Пела яна дужа хораша, музыку любіла...

— Таму і пласцінку?..

— Таму і пласцінку! Ты ўжо знайдзі мне яе, зрабі ласку, можа, тады я ўсё зразумею. Мы ж сем гадоў разам пражылі — сем шчаслівых гадоў як адзін дзень. Чаму так раптоўна ўсё парушылася? Яна ж ніколі не скардзілася, не папракала мяне работай. Памагала калі-нікалі.

— Можа, другі мужык? Каханне гэтае самае...— ледзьве пракаўтнуў я словы, наткнуўшыся сваім паглядам на яго, цяжкі, гарачы.

— Можа, стары. Не цікавіўся. Балюча ж вельмі. Усё самае светлае, самае чыстае ў маім жыцці — яна, Яна.

Мы доўга маўчалі. Я разглядваў пакой, толькі цяпер убачыўшы, які ён непрыбраны, няўтульны. На кушэтцы — неразабраная, прыкрытая пледам пасцель, на крэсле побач — шклянкі з-пад кавы, кнігі, карычневы, з белай іскрай гальштук. Усюды паперы, здымкі; у кутку, на другім крэсле, бярэмак старога адзення, аздобленага нацыянальнай вышыўкай...

— Яна сягоння сама пазваніла. Папрасіла: «Зайдзі вечарам да Мікульчыкаў (гэта нашы агульныя знаёмыя!) — вельмі трэба!» І я пайшоў. Я на край свету пайшоў бы за ёй, калі б пазвала! Я забыўся зусім, што гэта дзень майго нараджэння — яна помніла, падарыла мне пласцінку. «Паслухай, і ты ўсё зразумееш!» — сказала...

Косця Пятровіч так і не падняў больш на мяне вачэй. Пасядзеўшы колькі хвілін, я падняўся, моўчкі паляпаў яго па плячы і пайшоў.

— А музыка? — ускокваю я з месца.

Папраўдзе, хутчэй не ад нецярпення, ад таго, што халаднаваты ветрык добра-такі астудзіў плечы, адкрытыя рукі. Нібыта адчуўшы гэта, Міша страсае куртку і накідвае мне на плечы. Ну, гэта ўжо занадта! Я ўпарчуся, скідаю і вяртаю яе яму.

— Не, не! Забяры! Я не змерзла.

— Чаго ты? — здзіўляецца хлопец.— Холадна ж. Сама акрыйся, калі мне не давяраеш!

Але я рашуча адмаўляюся.

— Пойдзем вуліцай. Насядзелася я ўжо. А ж занадта.

— Пойдзем!

І мы ідзём, Міша крыху наперадзе, раз-пораз абмінаючы кароткія цікаўныя ці абыякавыя позіркі.

— Расказвай,— прашу я.

Міша, павярнуўшыся, доўга глядзіць на мяне.

— На трэці дзень вечарам, пасля рэйса, пастукаўся да Косці Пятровіча — у руцэ заціснута пласцінка з запісам той санаты. Ніхто не адказваў. Грамчэй. Маўчанне. Піхнуў дзверы — адчыніліся. Увайшоў. Дарожка святла з лесвіцы праз адчыненыя дзверы забегла за мной. Агледзеўся, шчоўкнуў выключальнікам.

— Гэта ты, стары? — пачулася з пакоя.

— Чаго гэта ты ў цемры сядзіш?

— Праходзь! — яшчэ раз запрасіў ён, устаючы насустрач і працягваючы руку.— Вачам балюча. Што ў цябе — тая... пласцінка?

— Тая. Трымай!

— А Яна паехала з нашага горада, стары. Мікульчык званіў. Нават ім не сказала, куды едзе. У той жа вечар паехала. Адна. Ты што-небудзь разумееш, стары?

— Не,— адказаў я.

А на Косцю Пятровіча як утрапенне якое найшло: кружыць па хаце з пласцінкай у руках, натыкаецца на крэслы. Вочы — па яблыку. Ну, я і не вытрымаў. Схапіў яго за плечы, уціснуў у крэсла, тое, што стаяла каля стала, забраў пласцінку.

— Нельга ж так, чуеш? Мужык ты ці не? Раскіс як... Дзеці ў вас былі?

— Дзеці? — раптам спалохаўся ён.— Дзеці, кажаш? Не было дзяцей. Не... было... Слухай!

Косця Пятровіч сарваўся з крэсла, ліхаманкава пачаў рыхтаваць прайгравальнік — пальцы блыталіся ў правадках.

— Сядзь! Я сам,— рашуча ўмяшаўся я.

І ён раптам паслухмяна ўсеўся на кушэтку, дазволіўшы мне спакойна ўключыць прайгравальнік, змахнуць пыл з пласцінкі і паставіць яе на дыск.

Ведаеш, не слухаў я ніколі ў жыцці ніводнай санаты да таго дня. Упэўнены: слухай я гэтага Ліста сам, адзін, застаўся б я абсалютна раўнадушным да таго, што напісаў ён, не зразумеўшы, не схацеўшы, можа, зразумець ні яго мовы, ні яго пачуццяў. А тут — я глядзеў на Косцю Пятровіча, чуў музыку быццам бы праз яго жаданне зразумець яе, адчуць як голас той, каго ён кахаў, і разумеў. Гэта нельга пераказаць словамі.

9*

Косця Пятровіч сцяўся ўвесь, і ўсе фарбы — ад белай-белай да ярка-крамянай — паступова праступалі ў яго на твары, мяняючы яго, неяк па-асабліваму высвятляючы. І толькі вочы глыбелі, глыбелі — ён скінуў акуляры, зараз непатрэбныя яму, і глядзеў кудысьці за сцяну, за гэты вечар.

Ён забыўся на мяне, мяне проста не існавала для яго.

Праўда, калі аціхлі гукі і гучна шчоўкнуў аўтастоп, спыняючы дыск, ён сказаў:

— Божа мой, Яна кахала мяне... Кахае!

Але сказана гэта было не мне. Я адчуваў. Узрушаны і музыкай, і тым, як шмат гаварыла яна Косцю Пятровічу, ціха зачыніў за сабой дзверы і ледзь не да раніцы блукаў па горадзе...

Міша скончыў расказ і ідзе моўчкі, не азіраючыся на мяне — увесь яшчэ там, у пакоі Косці Пятровіча. А можа, і не там, а дзесьці далёка, куды цягнецца яго позірк. І яго думкі...

— Што ж гэта такое — каханне?..— вырываецца ў мяне, як уздых, ціха і горка.

Міша спыняецца, паварочваецца. Стаіць, загароджваючы мне дарогу. Пагляд цёплы-цёплы.

— Я думаў: гэты ты — ведаеш. Ты ж так слухала музыку там, каля прыадчыненага акна! Сэрцам, нябось, слухала...

## *Два пытанні мінуламу*

Дзень ніяк не хацеў саступіць сцяжыну вечару і даць нарэшце роздых і зямлі, і жывёле, і людзям. Павэлак даўно і бярэзіну распілаваў на ладныя

роўныя чурбакі (нават палюбаваўся на сваю работу), і склаў пасечаныя дровы ў чыста падмеценым кутку дрывотні, і цыгарку скруціў — курыў са смакам, пакуль пальцы не запякло. А сонца ўсё гэтак жа вісела над пасёлкам, над самым Павэлкавым дваром, нібыта і яно размякла, знясілела ад духмені, ад ліпкай задушлівай гарачыні і не магло зрабіць гэта апошняе намаганне — па стрэхах, па галінах яблынь скаціцца за гароды.

Заныла старая рана ў плячы. Боль звыкла прастрэліў сэрца, і стала цяжка, нясцерпна цяжка дыхаць.

— Цьфу ты,— зазлаваў Павэлак, яшчэ колькі разоў сплюнуў, спрабуючы вызваліцца, вырвацца з раптоўнай кволасці. Боль не адступаў, толькі цішэў, надакучліва свідруючы грудзі.

— Цьфу ты, трасца твая! Прычапіўся... Кыш! — са злосцю шугануў ён нагой курэй, што паселі, пазакопваліся ў гарачы пыл пасярод двара, і паплёўся ў хату.

Спалохана закудахталі, разбягаючыся, куры, у акне мільганула кудлатая галава Мішкі, і Павэлак злавіў сябе на тым, што са злосцю думае пра сына, пра яго захапленне нейкімі паперкамі, правадкамі, гайкамі...

— Ты зноў лайдачыш? Зноў разумніка з сябе корчыш, пакуль бацька ў дрывотні сякерай махае? — загрымеў адразу з парога.

— Але ж я...— захінаючы сабой стол і раскладзеныя на стале схемы і радыёдэталі, спрабаваў бараніцца Мішка.— Я...

— Што — ты? Цацкамі забаўляешся, трасца твая? Паперкамі? Правадкамі?

Незразумелая злосць захліствала Павэлка — ён не абышоў, адштурхнуў сына, і зграб усё са стала на

падлогу, і ўжо было памкнуўся наступіць, патрушчыць сынавы прылады...

— Гэта прыёмнік! Гэта мне ў школе далі! — учапіўся яму ў руку Мішка і, адштурхнуты бацькам яшчэ раз, не закрычаў, застагнаў: — Ненавіджу! Ненавіджу...

З воч пасыпаліся слёзы, хлопчык увесь дрыжаў, дрыжачымі губамі ўсё паўтараючы і паўтараючы, бы ў нейкім утрапенні, гэтае «ненавіджу!», пакуль матчына далонь не заціснула яму рот. Ён не чуў, не разумеў, адкуль, калі ўбегла ў хату маці, не адразу пачуў, што яна, горнучы яго да сябе, просіць, угаворвае:

— Бог з табой, сынок! Бог з табой! Як жа ты? Гэта ж бацька твой. Ён ваяваў...

— Усе ваявалі,— не прамовіў, выдыхнуў разам са слязьмі малы ў гэтую родную, прапахлую сонцам і кменам далонь. І раптам адхіснуўся, вырваўся з матчыных абдымкаў.— За што вы церпіце ад яго, мама? Усе ваявалі. І Лёнеў бацька, і Свецін, і Шурыкаў! А ён... ён... ён сам не жыве і нам жыць не дае!

— Супыніся! — пасуровела маці.— Збірай свае прылады і... ідзі, сынок, малы ты яшчэ, каб зразумець усё. Малы...

У Мар'і раптам абяссілеў голас, і Міша, спынены не воклічам, а гэтай раптоўнай знямогай, мяккасцю, адвярнуўся ад матчынага позірку, ад святла, ад крыўды сваёй і, падабраўшы амаль сабраную ўжо схему, пайшоў з хаты.

Мар'я дзе стаяла, там і прысела. На самы краёк лавы. Упусціўшы на калені рукі.

— Чаго ты зноў захадзіўся? Чаго ты хочаш? Каб ад сына гэткія словы...

— Усё ты! — перапыніў Павэлак жончын балючы папрок.— Ты галубіш яго, ты ва ўсім патакаеш.

— А хто ж яго прыгалубіць, як не мы, Павел?

Гэтае «мы», гэтае «Павел» канчаткова ахалодзілі

яго. Ён нібыта толькі зараз (калі і сына ў хаце не было) блізка-блізка ўбачыў Мішкавы дрыжачыя губы, вочы, поўныя слёз... «Зусім расхадзіліся нервы! Нельга ж так. Вось і Мар'я на сябе не падобная...» Думка не знікала, як раней, ледзь зачапіўшы свядомасць, а вярэдзіла, вярэдзіла штосьці глыбока ў ім, у душы. «Вунь і Мар'я на сябе не падобная...»

Ён пачаў скручваць новую цыгарку, прыслухоўваючыся да цішыні, што запанавала ў хаце, што ўсё тушыла, тушыла здымкі ў рамках, развешаныя па сценах. Там, на здымках, было ўсё яго жыццё. Усё яго няхітрае жыццё...

— Ат! Пайду пакуру,— вінавата буркнуў Павэлак, не зірнуўшы на Мар'ю, якая ўсё гэтак жа стомлена, бязвольна сядзела на крайку лавы. Доўга-доўга таптаўся ля парога, нібыта шукаючы і не знаходзячы клямку. Нарэшце клямка бразнула, і ён асцярожна прычыніў за сабой дзверы ў сенцы.

— Ат, дурань, трасца твая! — папікнуў ён самога сябе і, звыкла зачэрпнуўшы вады — вядро стаяла на зэдліку ў сенцах, раптам заўважыў, што стаіць у паўзмроку, хоць дзверы — наросхліст (Мішка, відаць, не зачыніў), хоць ён добра помніў, што сонца яшчэ зусім нядаўна вісела высока, над самым дваром...

— Бач ты! — здзівіўся.— І дзень паспеў дагарэць.

Выйшаў на ганак, палез было ў кішэню за запалкамі і як забыўся на гэты рух. Стаяў, узіраючыся ў адвячорак, удыхаючы першыя струмені прахалоды, што падымаліся ад азярца сюды, на пагорак, з кволымі павевамі ветру. Духмень не знікла, гэта ён адчуў, ледзь спусціўся з ганка і перайшоў двор — струмені прахалоды там-сям разрэджвалі яе, але там, дзе ў засені вішняку дыхання ветру, дыхання азярца не было чутно, гарачае паветра калыхалася цяжкой

млявай сцяной. Прыпарвала. Няйначай, на дождж...

Смокчучы цыгарку, Павэлак абыходзіў пагорак паўз радкі пасохлага бульбоўніку і думаў пра такі патрэбны зямлі зараз дождж, пра час, калі трэба будзе капаць бульбу, пра сынавы слёзы і словы, якія чамусьці не забалелі ў ім, бацьку... А можа, ні пра што ён і не думаў, звыкла звыклай сцежкай ідучы паўз суседскія гароды да старога магутнага дуба, што горда высіўся над азярцом, над усім наўколлем. Колькі помніў сябе Павэлак, заўсёды ён імкнуўся сюды, да гэтага дуба-асілка, чые гады не лічыў ні ён, ні бацька ягоны, ні дзед... Стаяў і стаяў сабе дуб, беручы — п'ючы сілу зямлі, аддаючы яе сілу і вятрам, і хмарам, і людзям. І яму, Павэлку. Нечага ж ён хадзіў да дуба ледзь не штовечар!

Дуб, захінаючы сваёй галінастай кронай паўнеба, яшчэ ўсё гарачага (за лёгкай смугою, як пад попелам, жыў, дыхаў агонь, зрэдку вырываючыся і фарбуючы пацёкі неба ў яркую чырвань), стоена, трывожна шумеў. Хоць як ні ўглядаўся Павэлак, ніводзін лісток над ім не зварухнуўся, ніводная галінка не ўздрыгнула. Шум жа ўсё нарастаў. Здавалася ўжо, што шуміць вакол лес, што лес прыгадвае далёкую трывожную пару Павэлкавага юнацтва, партызанскія сцежкі, блакадную цяжкую тугу...

Дагарэлая цыгарка апякла пальцы, і Павэлак доўга ўціраў, утоптваў яе ў пыл, павольна, з пяшчотнай асцярогай перабіраючы рукой — пальцамі — старыя зацягнутыя рубцы дубовай кары. Быццам гэта былі рубцы памяці. Не, ён нічога не прыгадваў. Столькі гадоў гнаў ён ад сябе цяжкія балючыя ўспаміны, што яны калі і жылі ў ім, то недзе глыбока-глыбока ў душы, у самым цёмным яе куточку. Павэлак быццам помсціў далёкім гадам, мінулай вайне

тым, што ніколі не ўспамінаў іх — забыў. Хацеў забыць — і забыў. У яго было на гэта права. Было!

Колькі часу стаяў Павэлак пад дубам, абапіраючыся на яго магутны камель, колькі слухаў трывожны шум, які няведама адкуль плыў і плыў угару, у неба, ён не ведаў. Усё чакаў, што вось запаліць неба ўсе свае зоркі — і тады ён пойдзе дахаты, пойдзе спаць. Але зорак не было. Неба патухла, і дзіўна сцішылася ўсё вакол. Не рыпелі калодзежныя калаўроты, не брахалі сабакі, не чуваць было ні крокаў, ні галасоў. Толькі трывожны гул плыў ад зямлі ўгору, у змрок, у чарнату...

Заснуў Павэлак не адразу. Доўга варочаўся, у думках папракаючы сябе за тое, што непакоіць Мар'ю, што можа разбудзіць яе, і тады давядзецца нешта гаварыць, нешта тлумачыць. Не, ён нічога не прыгадваў. Даўно адвучыў сябе ад усіх згадак. Проста не ішоў сон. Ужо нібыта і звёў ён вочы, нібыта і сцішыўся,— грозным гулам, громам абрынулася на хату, на яго цяжкое неба: грымелі выбухі, стрэлы, свісталі кулі, тупа стукаючыся ў камлі дрэў, у бярвенні хаты...

Лыпнуў вачыма, падхапіўся — хата, на міг асветленая бязлітасна яркім агнём, зноў патанула ў цямрэчы, у жахлівым трэску, з якім ірвалася гэтая цямрэча на няроўныя, касыя кавалкі. «Пярун... Навальніца!» — усвядоміў ён, дачакаўшыся новай успышкі бліскавіцы. А здалося: вайна...

— Мар'я, ты не спіш? — гукнуў да жонкі, сеўшы на край ложка.

— Не сплю,— азвалася тая ціха.— Паблізу недзе ляснула. Хоць бы бяды не ўчыніла...

— Гэткай, што мінула, не ўчыніць.

Мар'я ўздыхнула, яшчэ больш сцялася пад коўдрай пасля новага ўдару перуна.

— Чуеш, Мар'я? Гэта ж я даўно расказаць табе хацеў,— пачаў Павэлак.— У смерці Мішкі Гнатава — я вінаваты.

— Вайна вінавата,— не адразу, памарудзіўшы нейкае імгненне, адказала жанчына. І ці то голас яе ўздрыгнуў, ці то паветра занадта шмат удыхнула, перш чым адказаць на нечаканае прызнанне, закашлялася — заціснула рот ражком коўдры.

Павэлак сцепануў плячамі, як адчуўшы холад, і, перапыняемы раз-пораз грымотамі, што адкочваліся далей і далей, працягваў:

— Вайна перад усімі вінавата. А я — перад Мішкам... і перад табой... На чорта былі мне тыя даныя з-за балотца? Я ж ведаў, што там немцы. А Мішку, трасца твая, паслаў! Занадта прыгожы ён быў, занадта ўдачлівы. Не хацеў, а пажадаў яму смерці... Я адчуў гэта, зразумеў, што на смерць пасылаю, ірвануўся ўслед, гукнуў: «Міш, можа, удвух пойдзем?» А ён павярнуўся, і ўсміхнуўся, і амаль весела адказаў: «Навошта ж — удвух? У лагеры Маруся чакае». І пайшоў. І загінуў...

Пэўне ж, не трэба было табе гэтага казаць, ды ўжо і дыхаць не магу, як падступіць да сэрца боль. Я, трасца твая, гэты боль насіць ужо не магу. Хай бы лепш задушыў!

Павэлак палез у кішэню штаноў за тытунём, але так і не выцягнуў яго. Азірнуўся на Мар'ю, што ціха-ціха ляжала побач, і заспяшаўся:

— Мы знайшлі Мішку на бярэзіне ў балоце. Прывязанага да бярэзіны... Голым, відаць... Увесь быў паточаны камар'ём. Да костак. Па кашулі, што разадраная і скрываўленая валялася на купіне, пазналі... А ён усміхаўся мне, як адыходзіў. Маруся, казаў, у лагеры чакае...

Каго ты чакала, Мар'я? Чаму я за ўсё жыццё ні разу не спытаўся ў цябе аб гэтым?

Мар'я маўчала. Здавалася, яна спала. Маўчанне было такім глыбокім, што Павэлак не чуў не толькі жончынага дыхання, але і свайго. Ён павярнуўся, крануў Мар'ю за плячо — і яна ўздрыгнула. Уздрыгнула так моцна, так спалохана, бы праз коўдру апёк яе дотык мужавай рукі.

— Ты спі, спі! — вінавата азваўся той.— Я выйду, пагляджу на ноч, пахаджу...

Павэлак накінуў на плечы пінжак і, як быў, босы, выйшаў на ганак. Шырока, на ўсе грудзі ўдыхнуў чыстае пасля дажджу паветра і, не зважаючы на балючае дрыжанне сэрца, па вымытых дажджом, прыемна прахалодных прыступках, па адмяклай сцежцы пашлэпаў у гарод. Доўга ўзіраўся ў ноч, спрабуючы адшукаць паглядам дуб за гародамі, але вочы слязіліся ад вільготнай цемры, наліплай да павек. Ціха, ледзь чутна варочаўся недзе высока над ім пярун — быццам здаволена, сыта смяялася неба...

Трывога не вярталася. Павэлак адчуваў дзіўную палёгку, бы толькі што назаўсёды пазбавіўся нейкай непасільнай аграмаднай ношы. Нават тое, што так і не пачуў адказу на свае балючыя пытанні, не засмучала. Прамаўчала Мар'я на яго словы. Дык і тое... Што магло адказаць яму мінулае?

Падкасаў нагавіцы, памарудзіў які момант і рашуча падаўся гародамі ў бок дуба. Пэўна ж, абышла яго гэта навальніца, не зачапіла сваім гарачым крылом! Колькі год горда высіцца дуб над азярцом, над усім наўколлем — ні ён, Павэлак, не помніў яго маладым, ні бацька Павэлкаў, ні дзед...

Мокры бульбоўнік чапляўся за ногі, якія ўсё цяжэлі і цяжэлі: ці то ад зямлі, што ўсім цяжарам наліпала да іх, ці то ад раптоўнай змогі? І Гэльчын гарод мінуў, і Саўкаў, і цесця свайго Ігната... Дуба не было відаць. «Слепну я, ці што, трасца твая? — мільганула думка.— Ці мо ноч ад дажджу загусла?»

Слязіліся вочы. Павэлак нават не спрабаваў выціраць гарачыя слязінкі — глядзеў і глядзеў туды, дзе зараз, вось зараз павінен быў вырасці перад паглядам аграмадным цёмным гмахам дуб. Колькі помніў сябе Павэлак, заўсёды ён імкнуўся сюды, да гэтага дуба-асілка, шукаючы ў яго спакоі — спакою, злагады для сваёй душы. І сёння... Ён жа расказаў усё Мар'і! Ён вярнуў далёкія згадкі мінуламу. Пытаннямі сваімі вярнуў. Палегчала. Дыхаць стала лягчэй. Можа, жыццё павярнулася нарэшце і да яго, Павэлка? Можа, ён палюбіць цяпер жыццё?

Павэлак спатыкнуўся. Думкі рассыпаліся, раскаціліся па сцежцы, і ён раптоўна ўбачыў і гэту сцежку, узараную яго босымі, у гразі, нагамі, і ланцужок цёмных хат паўз яе, і няўклюдны, балюча белы па злому, камель дуба, што тарчаў у некалькіх кроках, загароджваючы дарогу. Страшны, пакрамсаны па краях абрубак! Павэлак не паверыў сваім вачам. Ды вочы — што! Гуло, абрываючы тонкія валаскі сваіх карэньчыкаў, сэрца — і нібыта прыспешвала гэтыя яго апошнія крокі...

Дуб, шырока раскінуўшы надламаныя, быццам падкурчаныя, галіны і ўкрыўшы імі — цёмным заплаканым лісцем — увесь пагорак, ляжаў уніз вершалінай, над азярцом. Ціха, ледзь чутна варочаўся недзе высока над ім пярун. Здавалася: гэта здаволена, сыта смяялася неба.

## *Змест*

**Бондар Т.**

Б 81 Сінія яблыкі: Апавяданні.— Мн.: Маст. літ., 1984.— 141 с.

40 к.

Кнігу «Сінія яблыкі» Таісы Бондар, аўтара чатырох паэтычных зборнікаў, склалі апавяданні, напісаныя за апошнія гады. Свет чалавечых пачуццяў, то ясны і светлы, то прасякнуты смуткам і трывогай, паўстае са старонак гэтай кніжкі. Праблемы сучаснай сям'і, адказнасць перад сабой і людзьмі за кожны свой крок у жыцці, роздум над лёсам жанчыны, над яе прызваннем — усё гэта глыбока хвалюе аўтара.

Б $\frac{4702120200-116}{М302(05)-84}$ 4—84

ББК 84Бел7

Бел2

Таиса Николаевна
БОНДАРЬ

*Синие яблоки*

Рассказы

Минск, издательство «Мастацкая літаратура»
На белорусском языке

Рэдактар А. П. Рыбак
Мастак А. І. Бяляева
Мастацкі рэдактар М. Я. Янчук
Тэхнічны рэдактар Т. М. Сокал
Карэктар Л. П. Бялова

ІБ № 2027

Здадзена ў набор 09.12.83. Падп. да друку 15.06.84. АТ 05686. Фармат 70×100¹/₃₂. Папера друк. № 1. Гарнітура звычайная новая. Высокі друк. Ум. друк. арк. 5,80. Ум. фарб.-адб. 6,05. Ул.-выд. арк. 6,01. Тыраж 12 000 экз. Зак. 4261. Цана 40 к.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Дзяржаўнага камітэта БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. 220600, Мінск, праспект Машэрава, 11.

Мінскі ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга паліграфкамбінат імя Я. Коласа. 220005, Мінск, Чырвоная, 23.